# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРА
КЛІЎЛЕНД
ЗША



№2 (12), 1992



100 год з часу нараджэньня Рыгора Шырмы.
Успаміны Антона Шукелойца аб Р.Шырме чытайце на б.35-36.

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence shoud be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





**Андрэй Карпук**. Мастацкая распрацоўка макета вокладкі,шрыфтоў і заставак рубрык.
**Мікола Рыжы**. Да 115-годзьдзя нараджэньня В. Захаркі. Плякат «**Васіль Захарка**»
На першай бачыцы вокладкі. Пашпарт, выдадзены Урадам БНР.
На чацьвёртай бачынцы вокладкі. «**Змагар за незалежнасьць Бацькаўшчыны**»
Паштоўнка, выдадзеная эміграцыяй у Нямеччыне, 1948 г.

# Распад імпэрыі і беларуская незалежнасьць

Расьціслаў Завістовіч

## 25 Сакавіка



Расьціслаў Завістовіч

*25 сакавіка. Мы ўрачыста, шматлюдна сьвяткавалі гэты дзень на эміграцыі, невялічкімі групамі «нацыяналістаў» у сябе дома, у Беларусі. І заўсёды спадзяваліся, што 25 сакавіка мы будзем калісьці адзначаць у вольнай краіне прыгожа, сьвяточна, як і тады, у першую, другую, пятую гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Як і паэтка Н. Арсеньнева, мы верылі, што:*

***Ён прыйдзе, гэты дзень!***
***Ён ня прыйсьці ня можа!***
***Ён прыйдзе —***
***й загудзе вясновы буралом,***
***пакрышыць, разьмяце,***
***раскідае, зьнічтожыць***
***усё, што нам шляхі да хаты замяло!***

*І гэтая мара, спадзяваньні споўніліся, нашая барацьба не прайшла дарэмна.*

***Ён ідзе — Вялікі Сакавік!***
***Ідзе.. й пад ногі рунь***
***Яму кладзецца, таіць***
***Сьнягі, на паплавох зяленіцца трава...***
***Радзіма!***
***Беларусь!***
***Каханая, Сьвятая!***
***Багаславі нас жыць і веру захаваць!***

*Сёлета 25 сакавіка адзначалася на Бацькаўшчыне як сьвята. У Менску, у Доме літаратараў адбылася ўрачыстая вечарына. На ёй выступілі Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Адам Мальдзіс, Станіслаў Суднік і іншыя адраджэнцы Беларускага руху. У выкананьні вядомых беларускіх калектываў прагучалі нацыянальны і вайсковыя беларускія гімны, песьні змагароў за волю і свабоду нашай Бацькаўшчыны.*

*25 сакавіка цяпер ніколі ня зьнікне з календара людзкой памяці. І будзе адноль кава урачыста адзначацца як у Менску, Горадні, Полацку, Віцебску, Вільні, так і Саўт Рывэры, Гайленд Парку, Нью-Ёрку, Чыкага, Кліўлендзе.*

***Рэдакцыя часопіса «Полацак» віншуе усіх чытачоў зь Вялікім Сакавіком. Мы жадаем яшчэ мацней аб'ядноўваць нашыя рады, бо наперадзе вялікая праца.***

*Прапануем Вашай увазе артыкул старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Амэрыцы Расьціслава Завістовіча,* прачытаны 22 сакавіка ў Саўт Рывэры, на ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай Дню абвяшчэньня незалежнасьці.

Напрацягу звыш 70-ці гадоў пасьля кастрычніцкага перавароту ў Расеі ў 1917 годзе, Савецкі Саюз увесь час павялічваў сваю тэрыторыю. Крамлёўскія кіраўнікі, не спыняючыся, гаварылі пра беспаваротнасьць гэтак званага сацыялістычнага выбару, пра беззваротнасьць сыстэмы прыватнай уласнасьці ў савецкай імпэрыі. І дэёлягічнае настойваньне савецкіх лідэраў пра безпаваротнасьць сацыялізму было нічым іншым, як выяваю гістарычнага мэсыянскага расейскага нацыяналізму ў гэтым стагодзьдзі. Як некалі іх царскія папярэднікі, бальшавіцкія лідэры трымаліся аднаго палітычнага перакананьня, што акупаваная імі чужая тэрыторыя ніколі не павінна быць выпушчаная з рук.

У 1983 годзе, перад прыходам да ўлады, Міхаіл Гарбачоў быў выказаў гэапалітычны пагляд, падобны да таго, які калісьці абвяшчала яго далёкая папярэдніца Кацярына II, якая казала пра беспаваротнасьць гістарычных працэсаў. Гарбачоў гаварыў крышачку больш дакладней. У прамове ў дзень нараджэньня Леніна ён тады сказаў: «Нельга парушыць гістарычны працэс, якім уся людзкасьць ідзе да сацыялізму».

І вось у верасьні мінулага году Савецкі Саюз упершыню трошачку паменьшаў— балтыцкія краіны здабылі сабе волю. З палітычнага і псыхалягічнага пункту гледжаньня іхняя незалежнасьць стала канцом пашырэньня імпэрыі, як за часоў царскага, так і камісарскага панаваньня. Для Расеі настаў быў час выбару: альбо заставацца таталітарнаю дзяржаваю, у якой расейскі народ будзе прадоўжваць жыць у крайняй беднасьці ў параўнаньні з народамі дэмакратычных краінаў з шыроказазгорнутай прамысловасьцю, а яго дзяржава будзе мець міжнародны статус вялікай дзяржавы, дзякуючы выключна атамнай зброі, альбо палепшыць узровень жыцьця расейскага народу, перайшоўшы на дэмакратычны лад і вольны рынак. Выбраўшы дэмакратычны варыянт, Расея, трэба спадзявацца, ня будзе магчы забіраць другія народы, а гэтым самым зробіць вольным і свой народ.

Калішні літоўскі міністр замежных справаў Юозас Урбшыс у сваіх мэмуарах пісаў, як ён аднойчы запытаўся ў Сталіна пра тое, ці маюць рэспублікі рэальнае права выхаду з Савецкага Саюзу. Зьедліва ўсьміхнуўшыся, Сталін на гэта адказаў станоўча, але дадаў, што паколькі камуністычная партыя стаіць пры ўладзе ў кожнай рэспубліцы, дык ён ня думае, што якая з рэспублік захоча пакінуць Саюз. Празь некалькі дзён, апоўначы 15-га чэрвеня 1940 году, Савецкі Саюз уручыў Урбшысу ўльтыматум, вымагаючы ад Літвы згоды на разьмяшчэньне неабмежанай колькасьці савецкіх войскаў на літоўскай зямлі. Літоўцам было дадзена 10 гадзін для прыняцьця ўльтыматыму.

За часоў Сталіна савецкія ўплывы пашыраліся на краіны Эўропы й Азіі. Хрушчоў і Брэжнеў пашырылі савецкія ўплывы на краіны гэтак званага трэцяга сьвету і стварылі цэлую сетку спадарожнікаў, ад Нікарагуа праз Эфіопію да В'етнаму. Дактрына безпаваротнасьці сацыялізму й непадзельнасьці гэтак званай супольнасьці камуністычных краінаў ужывалася для апраўданьня савецкай вайсковай інтэрвэнцыі ў краіны ўсходняй Эўропы й трэцяга сьвету. Здэнак Млынар, чэскі камуніст і супрацоўнік Дубчэка ў 1968 годзе, гаворачы ў сваіх успамінах пра Брэжнева, казаў, што той лічыў, што фактычна заходняя савецкая мяжа праходзіць па Эльбе, бо падчас Другой сусьветнай вайны савецкія жаўнеры дайшлі да гэтае мяжы. Напрацягу

доўгага часу Савецкі Саюз заўсёды паказваў, што ён быў гатовы на ўсякія ахвяры й цёмныя ўчынкі дзеля абароны сваіх межаў. Калі карэйскі пасажырскі самалёт, заблудзіўшыся, праляцеў над Камчаткаю і Сахалінам у верасьні 1983 году, яго адразу зьбілі. Савецкія лідэры апраўдвалі свае дзеяньні сьвятасьцю сваіх межаў.

Вывад савецкіх войскаў з Афганістану ў *лютым* 1989 г. быў пераломным пунктам у напорыстым руху савецкага імпэрыялізму. Ён стаўся першай трэшчынай у савецкай захопніцкай сыстэме, сьведчаньнем таго, што камунізм ня ёсьць безпаваротным. Афганістан быў вельмі важным кальцом ўва ўсім заблытаным экспансыўным ланцугу, бо ён зьвярнуў увагу народаў савецкай імпэрыі на праўдзівую ролю савецкага войска.

Празь дзевяць месяцаў пасьля выхаду савецкіх войскаў з Афганістану, раскідалася Бэрлінская сьцяна, і народы ўсходняй Эўропы вызваліліся ад савецкай акупацыі. Утрыманьне балтыцкіх краінаў у савецкай імпэрыі сталася немагчымым. У дадатак да страты важных (з стратэгічнага пункту гледжаньня) партоў у Балтыцкім моры, незалежнасьць балтыцкіх краінаў зрабіла вялікі ўплыў на Расею ў палітычным аспэкце — прычынілася крыху «вакно на захад», якое намагаўся высекчы Пятро I у XYIII стагодзьдзі, і гэтым самым палітычны цэнтр Расеі перамясьціўся на ўсход.

*Прыйшоўшы да ўлады* ў 1985 годзе і будучы адданым марксыстам-ленінцам, Гарбачоў, аднак, бачыў, што савецкая дзяржава хварэе, як эканамічна так і палітычна, і што дзяржаўныя выдаткі, створаныя мілітарысцкай замежнай палітыкай ягоных папярэднікаў, збанкрутавалі атрыманую ім ў спадчыну імпэрыю. Для палепшаньня становішча Гарбачоў і ягоныя партыйныя паплечнікі вырашылі прызнаць існаваньне цяжкасьцяў і назваць гэта «гласнасьцю» (адчыненасьцю), зрабіць рэформы ў сваёй камуністычнай партыі, назваўшы гэта перабудовай, і, нарэшце, выкарыстаць партыю для ўстанаўленьня мякчэйшай формы камунізму, назваўшы гэта дэмакратызацыяй. Аднак, праўдзівая дэмакратызацыя была заўсёды несумяшчальнаю з камуністычнай ідэялёгіяй. Гарбачоў прабаваў палепшыць стан савецкай імпэрыі не адмаўляючыся ад гэтае ідэялёгіі, якая рабіла ўсялякае палепшаньне безнадзейным. Чым больш ён намагаўся латаць партыю і савецкую сыстэму, тым больш рабілася відавочным, што латаньне гнілой сыстэмы ўжо не ўратуе. *Напрацягу ўсяе перабудовы* Гарбачоў заставаўся перакананым камуністам і ў сваіх частых прамовах, асабліва на эканамічныя тэмы, ён не любіў раскідваццa праўдаю. Стаўшы прэзыдэнтам Савецкага Саюзу пры дапамозе лёзунгаў барацьбы супроць бюракратыі і хлусьлівых маніпуляцыяў, якія ня йшлі далей маскарадных дзеяньняў і якія ён называў гучным словам «рэформы», Гарбачоў хацеў стварыць сваю каманднa-адміністрацыйную сыстэму й утрымаць стары Савецкі Саюз, назваўшы яго Саюзам Сувэрэнных Рэспублік. У сваіх прамовах на гэтую тэму, ён паказаў сябе чалавекам вельмі непераканаўчым. Наведаўшы Менск ў лютым мінулага году, і асабліва ў сваіх *выступленьнях на* вуліцах *Вільні* ў студзені 1990 году, у якіх ён угаворваў літоўцаў не адкідаць гэтак званы «сацыялістычны выбар» і адмовіцца ад барацьбы за незалежнасьць, Гарбачоў паказаў быў сябе чалавекам пазбаўленым лёгікі, няўдалым акцёрам, хворым на нетрыманьне мовы. Ніякае гарбачоўскае шматслоўе не магло для слухачоў забяліць крыві людзей, замучаных савецкаю сыстэмаю.

Яшчэ ў першай палове мінулага стагодзьдзя, французкі патрыёт, паэт і філёзаф Эдгар Кінэ, які падтрымоўваў народы Эўропы ў іх барацьбе за волю, казаў што «народы ўзварушацца толькі тады, калі адчуюць усю глыбіню свайго ўпадку». Дык вось, народы Савецкага Саюзу гэта адчулі й таму, пасьля правалу перавароту ў Маскве ў жнівені мінулага году, амаль ўсе рэспублікі калішняга Савецкага Саюзу адразу абвесьцілі сваю самастойнасьць.

У гэтым годзе беларускі народ ня толькі адзначае 74-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці свае Бацькаўшчыны 25 сакавіка 1918 года, але і сьвяткуе новаздабытую незалежнасьць, якую Беларусь аднавіла 25 жніўня мінулага году. Вядома, што для здабыцьця поўнае незалежнасьці, патрэбны час. Хочацца верыць, што на гэты раз ён працуе на карысьць нашай Бацькаўшчыны. Беларусь, як незалежная дзяржава, была прызнаная ўжо шматлікімі дзяржавамі сьвету. У недалёкай будучыні яна, напэўна, стане сябрам Міжнароднага Валютнага фонду, Сусьветнага Банку й іншых важных эканамічна—фінансавых цэнтраў сьвету. Аднак, каб ажыцьцявіць усё гэта, Беларусь павінна ўвесьці свае грошы, правесьці поўную прыватызацыю і паказаць свой нацыянальны твар, стварыўшы сваё нацыянальнае войска. Правядзеньне грашовай рэформы, вяртаньне сялянам адабранае ад іх зямлі і прыватызацыя вытворчасьці ня толькі адкінуць нечалавечы бальшавіцкі падыход да гаспадаркі краіны, але вернуць нашаму народу ягоную працавітасьць, пачуцьцё годнасьці й зробяць яго гаспадаром свае будучыні. Беларускае войска патрэбнае нашай Бацькаўшчыне ня толькі для таго, каб яно сталася дзяржаўнаю структураю, адказнаю за лёс і бясьпеку свайго народу, але каб яно было беларускаю нацыянальнаю школаю, сродкам адраджэньня нацыянальнай годнасьці. Без правядзеньня гэтых рэформаў Беларусь ня зможа самастойна вырашаць свае нацыянальныя пытаньні й таму пра праўдзівую незалежнасьць гаварыць будзе немагчыма. Супольнасьць Незалежных Дзяржаваў можа стацца для Беларусі нічым іншым, як новым «Старым Саюзам», улада якога будзе толькі павялічвацца. Вядома, напрыклад, што Беларусь і другія дзяржавы Супольнасьці (акрамя Украіны) дамаўляюцца, каб Расея сталася гарантам усіх гандлёвых пагадненьняў у Супольнасьці, у якіх будуць ужывацца чужыя крэдыты. Такія дамоўленасьці і магчымая залішняя залежнасьць Беларусі ад Расеі ў вайсковых справах ня можа не выклікаць непакою. Зьдзіўляючым ёсьць і тое, што Беларусь вельмі паволі рухаецца ў кірунку ўсталяваньня дыпляматычных дачыненьняў з другімі дзяржавамі. Праўда, у гэтым цяжка пахваліць і заходні дэмакратычны сьвет. Ён таксама чамусьці не сьпяшаецца. Робіцца ўражаньне, што яму цяжка пазбавіцца ўплываў, няпэўнага для захаду (ў палітычным значэньні) і чужога (ў эканамічным аспэкце) гэтак званага «новага мысьленьня» й незразумелай цягі да цэнтру.

Аднак, хочацца верыць, што ўсё гэта тлумачыцца пераходнымі цяжкасьцямі. Бо хто-ж мог прадбачыць такія вялікія перамены, такую вялічэзную радасьць? Спадзяемся, што недалёка той час, калі беларускія бел-чырвоны-белыя сьцягі, якія мы моцна й беражліва трымалі ў сваіх руках праз усе эміgranцкія выпрабаваньні, будуць лунаць ўва ўсіх краінах сьвету. Недалёка той час, калі наш народ, як той волат, выпрастаецца і гучным голасам на поўныя грудзі вымавіць, што ажыла на сьвеце праўда, што жыве Беларусь!

# Яны змагаліся за Бацькаўшчыну

Васіль Супрун

## 25 Сакавіка




Раньняй вясной 1946 г. ў Слоніме была створана падпольная беларуская патрыятычная арганізацыя з канспіратыўнай назвай «Чайка». Заснавальнікамі —арганізатарамі яе былі Міхась Ракевіч, Аляксандр Гардзейка, Міхась Чыгрын, Уладзімір Салавей, Леакадзія Кавальчук, Ніна Карач і аўтар гэтага артыкула. Зразу-ж была распрацавана і прынята праграма дзейнасьці арганізацыі, вызначаны палітычны напрамак — сацыялдэмакртычны й абрана кіраўніцтва. Расшырэньне колькаснага складу членства арганізацыі зь інтэлігенцыі, духавенства і студэнтаў праводзілася ўважлівым падборам з найбольш сьвядомых і адданых патрыётаў.

Галоўная-ж мэта арганізацыі—абарона нацыянальных правоў і свабод, барацьба за захаваньне і разьвіцьцё беларускай культуры, мовы і гісторыі. Арганізацыя павінна была аб'яднаць усю найбольш сьвядомую і перспэктыўную беларускую інтэлігенцыю і з дапамогай яе ўплываць на абуджэньне і разьвіцьцё сьвядомасьці народу, яго нацыянальнай годнасьці. Затым распрацоўваліся гаспадарчыя і структурна- палітычныя праекты будовы незалежнай і вольнай Беларусі.

Арганізацыя хутка расла. Згодна з умовамі канспірацыі, кожны з членаў не павінен быў ведаць больш за 6 чалавек з падпольля і ў сваю чаргу, кожны з удзельнікаў павінен быў ствараць толькі яму вядомую групу, утвараючы такім чынам канспіратыўнае падпольнае кола.

«Чайка» была неадзінокай у сваёй барацьбе. Ужо вясной яна выйшла на падпольную слаба канспіратыўную групу патрыётаў у Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Праз пэўны час, пераправерыўшы надзейнасьць групы праз студэнта інстытута У.Салаўя, кіраўніцтва «Чайкі» пайшло на аб'яднаньне зь ёю.

У пачатку чэрвеня 1946 года ў Баранавічы выехаў М.Ракевіч, У.Салавей (як сьвязны) і я. Прадстаўнікамі Баранавіцкага падпольля былі Аляксандр Барэйка, Міхась Агейка й Аляксандр Шапавал. Пасьля аб'яднаньня, для агульнай каардынацыі руху было выбрана кіраўніцтва ўскладзе 3-х асоб — кіраўніка і двух намесьнікаў (В.Супруна, А.Бярэйкі і М.Ракевіча), работа больш зактывізавалася. Мы знайшлі падпольную групу Берасьцейскага чыгуначнага тэхнікума (арганізатары М.Ракевіч і М.Макарэвіч) і наваградзкую падпольную арганізацыю «Саюз вызваленьня Беларусі» (СВБ). Рабіліся спробы злучыцца зь Менскам і Горадней.

Наваградзкая група, кіраўніком якой быў Генадзь Казак, канспіратыўна не адпавядала нашым патрабаваньням і таму было вырашана ўстрымацца ад аб'яднаньня, але

пастанавілі трымаць яе ў полі зроку. Аднак сябры нашага падпольля па нявопытнасьці ўвайшлі ў наваградзкую групу СВБ, дзе ўжо працаваў агент МДБ. Аб апошнім стала вядома пасьля суда.

Летам 1946 года быў створаны Цэнтр беларускага вызваленчага руху (ЦБВР), з 6 асоб, у склад якога ўвайшлі (былі выбраны) В.Супрун—кіраўнік, А.Барэйка, М.Ракевіч, М.Агейка, У.Салавей і М.Макарэвіч. Паміж сябрамі Цэнтру былі разьмеркаваны абавязкі і выбраны напрамкі дзейнасьці.

У канцы 1946 года былі створаны падпольныя групы пры Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, Ганцавіцкім педвучылішы, а ў пачатку 1947 года ў Маладэчанскай і Менскай вобласьцях.

У 1947 годзе беларускае патрыятычнае падпольле ўжо фактычна існавала на тэрыторыі былых Баранавіцкай, Берасьцейскай Маладэчанскай і Пінскай вобласьцяў. Рыхтаваўся выхад на Горадзенскую і Менскую вобласьці. З мэтай ускладненьня канспірацыі, арганізацыйна падпольле будавалася наступным чынам. Усёй працай кіравала кіраўніцтва Цэнтру. Вакол Цэнтру было створана так званае Першае кола падпольля—гэта вабласныя структуры кіраваньня. Кіраўнікамі па вабласьцях былі прызначаны: у Баранавіцкай вобласьці—Аляксандр Барэйка, Берасьцейскай—Мікалай Макарэвіч, Маладэчанскай—Сяргей Яноўскі, Пінскай — Мікалай Ляскавец. Ад Першага кола адыходзілі перэфэрыйныя групы, якія ўтварылі Другое кола—раённыя цэнтры падпольля, а ад іх—Трэцяе кола і г.д. На тэрыторыі Слонімшчыны існавалі групы Трэцяга кола, якія, дзякуючы канспірацыі, не былі схопленыя чэкістамі, але дзейнічаць эфэктыўна не змаглі.

Мы ня ведалі, што за многімі з нас ужо сачыла спэцгрупа МДБ. Правяралася ліставаньне і сустрэчы, вяліся пошукі вядомых «стукачу» прозьвішчаў падпольшчыкаў. Цэтрам-жа ў зашыфраванай форме ажыцьцяўлялася сувязь нават афіцыйным ліставаньнем праз пошту. Толькі лісты высылаліся зь іншых гарадоў із фальшывым зваротным адрасам.

Арышты пачаліся ў пачатку чэрвеня 1947 году і працягваліся да жніўня. І хоць у прыгаворах трыбуналаў значылася, што падольле рыхтавала ўзброенае паўстаньне з мэтай выхаду Беларусі з складу СССР, пры арыштах і вобысках ні ў воднаго з падпольшчыкаў зброі не выяўлена, не зафіксавана ні воднага злачынства, учыненага сябрамі падпольля. Праўда, у кагосьці пры вобыску ў падстрэшшы знойдзены быў штык, якім калолі сьвіней. Ён і фігуруе як зброя падпольля, якой мы павінны былі закалоць СССР. Перад судом я пытаў у следчага: ці ня смешна будзе чытаць калісьці аб такой узброенай контррэвалюцыі супраць СССР?

*Аказваецца нясьмешна, калі зараз рашэньнем Вярхоўнага Суда сувэрэннай Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1992 года, судовай калегіяй па крымінальных справах ў складзе старшыні Н.Герменчука і членаў Е.Смірнова й І. Федарынчыка ня толькі адмоўлена мне ў рэабілітацыі, але і беспадстаўна зьменена рашэньне Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета СССР № 43 ад 7 чэрвеня 1956 году, якое было зачытана мне пры вызваленьні з канцлягера ў Варкуце. Вярхоўны Суд дэманстратыўна падтрымлівае рашэньні бэр'еўскіх ваенных трыбуналаў і дадзенай яму ўладай працягвае душыць тых, хто, не шкадуючы свайго жыцьця, змагаўся супроць сталінска-бэр'еўскага антычалавечнага рэжыму, за незалежнасьць Беларусі.*

*Так, мы і сёньня ў вольнай Беларусі страшны для іх, і яны імкнуцца ў раз'юшанасьці працягваць справу сваіх папярэдні-*

*каў і настаўнікаў. Аднак, гісторыі ім ня сьцерці і не падпарадкаваць судам ганебных «троек» і ваенных трыбуналаў!*

На жаль, многіх з былых падпольшчыкаў ужо няма ў жывых. Імёны іх схаваны ў тоўстых папках архіваў КДБ. Назаву некаторых зь іх. Гэта згаданы ўжо **Генадзь Казак, Аўген Лішко, Майсей Стома, Адам Шабоцька, Фёдар Даўгач,** Вячаслаў Краскоўскі, **Аляксандр Жукоўскі й іншыя**. Некаторыя зь іх з падарваным здароўем памерлі ўжо выйшаўшы з-за дроту.

Самастойна, але амаль адначасова з названымі арганізацыямі, узьнікла і патрыятычнае падполье ў гарадах Глыбокім і Паставах. Студэнты Глыбоцкага педвучылішча па ініцыятыве Васіля Мядзельца, Аляксандра Юршэвіча й Антона Фурса ў 1946 годзе заснавалі пры педвучылішчы падпольную беларускую патрыятычную групу, якая ставіла перад сабой мэту: будзіць патрыятычныя пачуцьці сярод студэнцтва й інтэлігенцыі Беларусі, клікаць народ да змаганьня за волю, супраць любога акупацыйнага гвалту.

Ужо ў канцы 1946 году глыбоцкая група патрыётаў налічвала значна больш за дзесяць чалавек і прыняла падпольную назву Саюз беларускіх патрыётаў (СБП). У гэты час з Пастаўскага педвучылішча прыбыў студэнт Мікола Асіненка. Высьветлілася, што там таксама існуе аналягічная падпольная група. Кіравалі ёю Мікалай Асіненка і Валянтын Лагунёнак. Пастаўскае падполье таксама налічвала каля дзесяці сяброў. Было вырашана аб'яднацца пад адной назвай Саюз беларускіх патрыётаў і дзейнічаць супольна. Акрамя асноўнай мэты Саюз шукаў сувязі з замежжам. Гэта і вывела іх на правакатара.

Нявопытнасьць ў падпольнай працы і канспіратыўныя промахі далі магчымасьць чэкістам лёгка пранікнуць у пастаўскую групу, а затым і ў глыбоцкую. На працягу некалькіх месяцаў групы дзейнічалі фактычна пад наглядам чэкістаў і нават з удзелам «падсадкі», які абяцаў зьвязаць групы з замежжам. Арышты былі праведзены адначасова ў названых раёнах Маладэчанскай вобласьці (Пастаўскім і Глыбоцкім) у пачатку лютага 1947 года. Праўда, некаторым членам глыбоцкага падпольля ўдалося схавацца і прабыць на нелягальным становішчы яшчэ некалькі месяцаў. Таму падполье праходзіла два судовыя працэсы: першы і асноўны — у ліпені, у Менску, другі значна пазьней — у Полацку.

Мне вядомы прозьвішы больш чым пяцідзесяці падпольшчыкаў 1946-1947 гадоў, але гэта толькі частка з таго патрыятычнага руху, частка ахвяр сталінізму.

Вось іх імёны:

**Аляксандр Барэйка, Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Аляксандр Гардзейка, Міхась Агейка, Вячаслаў Краскоўксі, Мікалай Макарэвіч, Мікалай Ждановіч, Уладзімір Салавей, Уладзімір Кернога, Антон Кабак, Сяргей Яноўскі, Леакадзія Кавальчук, Кастусь Альшэўскі, Аляксандр Шапавал, Аляксандр Жукоўскі, Генадзь Казак, Аўген Лішко, Майсей Стома, Фёдар Даўгач, Адам Шабоцька, Самсон Пярловіч, Міхась Капціловіч, Васіль Мядзелец, Аляксандр Юршэвіч, Антон Фурс, Леў Бялевіч, Альберт Бацяноўскі, Алег Табола, Лявон Казак, Мікалай Пачопка, Пятро Спірковіч, Леанід Баговіч, Павел Шуман, Іван Бабіч, Марыя Бабіч, Алена Барсук, Ларыса Барсук, Мікола Асіненка, Валянтын Лагунёнак, Аляксей Дзікі, Аўген Сідаровіч, Алена Бароўка, Ніна Асіненка, Краснадубская, Несьцяровіч, Адамовіч, Лысенка, Лях, Сапежка, Лазіцкі. Мікола Ляскавец і іншыя.**

Гісторыя не павінна забыцца іх!

 

# З архіваў КДБ

## Аляксандр Цьвікевіч: «Ліквідацыя БНР не была манэўрам»

### 25 Сакавіка




*Ён быў адзін з тых, што ішоў па справе Саюза Вольнай Беларусі. На допытах у аддзеле ГПУ яму паставілі ў віну ўсё. І тое, што ён быў адным зь ініцыятараў абвяшчэнь ня БНР. І тое, што ў 1925-1929 гг. працаваў сакратаром Інбелкульта і старшынёй камі сыі па вывучэньню адукацыі ў Беларусі. Сьледчы залічыў у папку з справай Цьвікевіча нават ягоныя навуковыя працы першую кнігу з гісторыі БНР «Кароткі нарыс узьнікненьня Беларускай Народнай Рэспублікі» (1918) і «Западнорусізм»(1929).*

1. БПСФ абвесьціла сябе спадчыньцай Грамады і ставіла мэтай вызваленьне беларускага народа ад лю бых форм нацыянальнага прыгнёта, стварэньня сусьветнай фэдэрацыі, у рамках якой Беларуская рэспубліка павінна стаць суверэннай дзяржавай)

*Канчатковым рашэньнем судзьдзі было: Аляксандр Цьвікевіч, народжаны ў Берасьці, у ліпені 1888 г., адзін з заснавальнікаў Грамады, удзельнік Усебеларускага зьезду ў сьнежні 1917 г., сябра кіраўніцтва Беларускай партыі сацыялістаў-фэдэралістаў (БПСФ),[1] міністр юстыцыі ўраду БНР, кіраўнік дыпляматычнай місыі ўраду БНР на Ўкраіне й у дзяржавах Заходняй Эўропы, прэмьер-міністр ураду БНР у 1923-1925 гг у Празе, абвінавачваецца ў тым, што з 1925 г., з часу вяртаньня з Прагі ў Менск, па дзень арышту 14.7.30., уваходзіў у кіраўнічы цэнтр контррэвалюцыйнай арганізацыі СВБ і выконваў яе асноўныя задачы.*

*Аляксандр Цьвікевіч быў асуджаны на 5 гадоў высылкі. Пражываў у г. Пермь, затым у г. Саптул Удмурцкай АССР. Пасьля тэрмін быў працягнуты яшчэ на 2 гады.*

*Арыштаваны паўторна і 17 сьнежня 1937 г. прыгавароны да вышэйшай меры пакараньня, у сутнасьці за тыя-ж «правіны». 30 сьнежня 1937 г. расстрэляны ў Менску.*

*Аляксандр Цьвікевіч быў рэабілітаваны ў першым прыгаворы 30 чэрвеня 1988 г. Вярхоўным судом БССР, у другім—указам Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета СССР «Аб дадатковых мерах па адраджэньню справядлівасьці ў адносінах да ахвяр рэпрэсіяў, якія мелі месца ў пэрыяд 30-40-х і пачатку 50-х гг.»—31 травеня 1989 г.*

*Сёньня мы знаёмім чытачоў часопіса «Полацак» зь следчымі паказаньнямі Аляксандра Цьвікевіча. Іх перадаў нам дырэктар Беларускага навукова-дасьледчага цэнтру дакумэнтазнаўства і рэтраінфармацыі Уладзімір Міхнюк.*

*Пры знаёмстве з паказаньнямі А. Цьвікевіча, трэба ўлічваць тыя абставіны, што ад яго патрабавалі абавязковага прызнаньня памылковасьці ягоных поглядаў, падганялі іх пад вульгарную схэму прымата клясавага над нацыянальным, прыклейвалі палітычныя ярлыкі. Любы нацыянальны рух успрымаўся як нацыяналістычны. Але нягледзячы на ўсе мэтады прымусовага прызнаньня, А. Цьвікевіч застаўся патрыётам. Аб чым сьведчыць ягоная «споведзь».*

«Перш за ўсё аб ліквідацыі БНР. Я заявіў, і з поўнай адказнасьцю заяўляю зараз, што ліквідацыя БНР не была манэўрам, які павінен быў абмануць Савецкую ўладу. Гэта быў зусім пасьлядоўны палітычны акт, вынік трох прычынаў: абсалютнага і безумоўнага росту БССР, якая ператварылася ў рашучы фактар беларускага вызваленчага руху, нацыянальна-культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва; раскол адзінага нацыянальнага фронту ў Заходняй Беларусі у сувязі з падрыхтоўкай Рабоча-Сялянскай Грамады; у незацікаўленасьці суседніх з Беларусьсю буржуазных дзяржаваў у існаваньні БНР. Тлумачэньне гэтаму я ўжо даваў. Адначасова з гэтым, у асяродзьдзі групы эмігрантаў, якая правяла Бэрлінскую канфэрэнцыю, вырасла моцнае расчараваньне у папярэдніх шляхах беларускага руху — шляхах БНР. Я асабіста шмат чаго пеpажыў: і самастойна, і пад уплывам Тарашкевіча. Ліквідаваць традыцыю, якая зьвязвала пакаленьні, ліквідаваць цэнтр, які зьяўляўся свайго роду жывой дэкларацыяй беларускага народніцкага руху, убіць асінавы кол у палітычную устаноўку, якая афармляла нацыянальна-дэмакратычны ідэял гэтага руху, — было не так лёгка, як гэта можа здавацца з боку. Для гэтага трэба было перажыць цяжкую ўнутраную барацьбу, вырашыцца на папрок у рэнегацтве, у здрадзе нацыянальнай справе — папрок, які быў сапраўды кінуты ў твар мне, маім сябрам на наступны дзень пасьля рашэньняў Бэрлінскай канфэрэнцыі. Мы на гэтае пайшлі, і зараз цяжка і дзіўна, калі вашая улада ня хоча гэтаму верыць. Трэба-ж, нарэшце, зразумець нас, што мы пайшлі на разрыў адзінага нацыянальнага фронту, на ліквідацыю БНР не дзеля нейкай палітыкі або дыпляматыі. Мы ішлі шчыра, перажыўшы за некалькі гадоў знаходжаньня за мяжой усю трагедыю падзеньня БНР, пераўтварэньня яе ў нейкае пасьмешышча, нейкі зьдзек ня толькі над развагай у палітычных адносінах, але і над самой ідэяй нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі...

Хачу, каб мяне зразумелі: пастанова Бэрлінскай канфэрэнцыі была прынцыповай капітуляцыяй, ліквідацыяй, канчатковай стратай старых «нашаніўскіх» шляхоў — шляхоў народнаідэялягічных, дробнабуржуазных.

Прызнаньне, поўнае і безагаворнае, савецкага Менску і пралетарскай улады, выказанае на гэтай канфэрэнцыі, было поўным разбраеньнем з майго боку і з боку маіх сяброў у палітычным сэнсе. Але ці было гэта поўнае разбраеньне ў сэнсе нацыянальным? Ці была поўная ліквідацыя нашых былых нацыянальных і нацыяналістычных настрояў? Вось гэтага сказаць нельга і гэта, пэўна, у значнай меры абясцэньвае рашэньне Бэрлінскай канфэрэнцыі. Асабіста я і пасьля гэтай канфэрэнцыі застаўся беларускім нацыяналістам, з той толькі розьні-

цай, што свой нацыянальны настрой, імкнуўся рэалізаваць і задаволіць ня ў старых формах «народнай» Беларусі, а ў новых формах Беларусі савецкай.

Я не магу лічыць сябе скрайнім пасьлядоўным нацыяналістам. Факт той, што у маёй сям'і размаўлялі і размаўляюць больш за ўсё па-расейску. Дачка пайшла ў расейскую школу, за што некаторыя сябры папракалі мяне. Але незалежна ад гэтага я павінен шчыра прызнацца, што нацыянальныя пачуцьці і нацыянальныя ўстаноўкі былі ва мне жывыя і моцныя ў час прыезду ў Менск.

Чаму-ж паміж мной і асноўнай групай беларускай інтэлігенцыі, якая зьбіралася ў Янкі Купалы, Лесіка й Якуба Коласа ўстанавіліся нейкія нацягнутыя, а калінікалі і варожыя адносіны? На маю думку, вось чаму. Я прыехаў у Менск, як ліквідатар БНР, якая публічна капітулявала і разбраіла ся палітычна перад савецкім Менскам. Гэтаж група інтэлігенцыі такой капітуляцыі не перажыла і аб ёй ня думала. У тыя часы я ў гэтым не зусім разьбіраўся і мне былі непрыемныя падазорна- недаверлівыя адносіны да мяне. Я разумеў, што да мяне адносяцца так таму, што я «здрадзіў» старому Богу, што я зыйшоў з папярэдніх шляхоў. Я, напрыклад, пасьля прыезду спэцыяльна не рабіў розьніцы паміж сябрамі-партыйцамі расейцамі і партыйцамі беларусамі, паміж «Савецкай Беларусьсю» і «Звездой». Мне здавалася, што паміж імі няма розьніцы, што ўсе служаць адной справе. Але вельмі хутка я ўпэўніўся, што гэта не так, што ў Менску ёсьць два варожыя лягеры, што мне нельга захаваць прамежнай пазыцыі, а трэба пераходзіць або на бок аднаго лягеру, або іншага.

Павінен сказаць, што пазыцыя беларускай інтэлігенцыі не здавалася мне моцнай, прынамсі, гэтай сілы не было бачна. Рабочы кляс, партыя, дзяржаўны апарат, гаспадарка краіны і г.д. далёка стаялі ад тых пытаньняў і задач, якія цікавілі кіраўнічую групу інтэлігенцыі. Тая цікавілася пытаньнямі нацыянальна-культурнага будаўніцтва. І тут яна была, безумоўна, моцнай. У яе асяродзьдзі на пастах культурнага фронту былі ня толькі беспартыйныя, але і партыйцы, такія як, напрыклад, Ігнатоўскі, Жылуновіч і г.д. Група, якая канцэнтравалася вакол Купалы, была згуртаваная ў нацыянальна-культурным сэнсе. У ёй сабраліся аднадумцы. Гэта я убачыў адразу пасьля прыезду ў Менск. Але тады я ня бачыў і . не ацаніў яе ўпыву.

Ці мог я ў той час назваць гэтую групу контррэвалюцыйнай? Прызнаюся, падобная характарыстыка мне тады ніяк не магла прыйсьці ў галаву. Як я мог назваць контррэвалюцыянерамі Янку Купалу, камуніста Ігнатоўскага, наркама адукацыі Якуба Коласа, наркама земляробства Прышчэпава, прызнаных пралетарскіх пісьменьнікаў М.Чарота і Жылуновіча і г.д.

Ці былі ў мяне хістаньні у тым сэнсе, каб зрабіць выбар паміж варожымі двумя лягерамі, якія рэпрэзэнтаваліся «Савецкай Беларусьсю» і «Звездой». Амаль не было. Я бачыў, што, напрыклад, А. І. Крыніцкі зусім ня быў тым, кім яго лічылі сярод нагаданай беларускай інтэлігенцкай групы і дзе на яго па ўсякаму лаялі. Я бачыў, наадварот, што ён шчыра і сурьёзна працуе і думае над праблемамі беларускага культурнага будаўніцтва, што яго не разумеюць і проста ня хочуць разумець. Я бачыў, што пытаньне было аб барацьбе за ўзьдзеяньне. Ня бачыў я нічога адыёзнага і ў пазыцыі «Звезды», але адно тое, што яна выдавалася на расейскай мове, ставіла яе пад удар беларускай нацыяналістычнай інтэлігенцыі. Да восені 1926 г. я зьніжтожыў першапачат-

ковую дэзарыентацыю і поўнасьцю стаў на пункт гледжаньня беларускай інтэлігенцкай групы. Інакш і быць не магло: маё нацыяналістычнае «нутро», мае нацыянальныя настроі і накіраванасьць, натуральна, штурхалі мяне ў нацыянальны лягер. У гэтым і праявілася мая контррэвалюцыйная сутнасьць. Я ня мог і ня ў сілах быў адмовіцца ад салідарнасьці з тымі, якія духоўна былі блізкі мне, якія былі прызнанымі кіраўнікамі нацыянальна-культурнага беларускага руху, як напрыклад, Янка Купала й Якуб Колас. З гэтага моманту, г.зн. з канца 1926 г. пасьля акадэмічнай канфэрэнцыі, не было ужо і мінулага недаверу да мяне, хаця, усё-такі ў «сьвятая сьвятых» групы, якую узначаліў Я. Купала-Лёсік, мяне не дапускалі, г.зн. за раўнага, старэшага не лічылі. Але я гэтага не дабіваўся.

Калі я гляджу назад і асэнсоўваю, што дзейнасьць той групы беларускай інтэлігенцыі, да якой я належыў, была па сутнасьці контррэвалюцыйнай, нягледзячы што да яе належылі сябры партыі, ці магу я абасабліваць сябе ад яе й адмаўляцца ад той адказнасьці, якая на яе падае? Ні ў якім разе. Я не магу адмаўляцца ад сваёй правіны і ў нечым сгладжваць яе. Наадварот, я абавязаны з усёй пасьлядоўнасьцю заклейміць свае паводзіны, не апраўдвацца тым, што «іншыя таксама так рабілі», што ў мяне не было іншага прыкладу, што так аб'ектыўна склаліся абставіны ў Менску, у якіх я й апынуўся. Ня магу я апраўдоўваць свае паводзіны і тым, што я не разабраўся ў гэтых абставінах, якія склаліся да мяне і безь мяне.

Адно толькі тое, што я ня выракся сваіх нацыянальных установак і настрояў, ужо штурхала мяне на контррэвалюцыйны шлях. Бо я не сустрэў пратэстам некарысны для справы сацыялістычнага будаўніцтва прынцып адзінства і ўзаемнай падтрымкі нацыянальна настроеных беларусаў. Я не падпарадкаваў адразу і безумоўна нацыянальны пачатак і інтарэсы нацыянальна-культурнага будаўніцтва — пачатку клясаваму, інтарэсам узмацьненьня дыктатуры пралетарыяту. У сваіх паводзінах я, безумоўна, не падпарадкоўваўся дырэктывам партыі і ейнаму разуменьню кіраўніцтва нацыянальнай палітыкай. Крытыкаваў іх і шукаў сваіх рашэньняў, выдумляючы свае папраўкі да іх, чым сьвядома шкодзіў справе сацыялістычнага будаўніцтва беларускай культуры. У прыватнасьці, я не магу скідваць зь сябе адказнасьці за акадэмічную канфэрэнцыю, якую я актыўна абараняў і праводзіў. Я цалком прызнаю яе контррэвалюцыйны характар, які выявіўся ў дэкарацыі залі, у адсутнасьці партрэта Леніна, хаця асабіста я гэтае і не рабіў. Я павінен падзяліць адказнасьць за той пад'ем і кансалідацыю нацыянал-дэмакратычных настрояў, які праяўляўся падчас акадэмічнай канфэрэнцыі. Я не магу сказаць, каб я быў поўным і дакладным паўторам іншых таварышаў з той групай інтэлігенцыі, да якой я належыў, каб я быў у курсе іх поглядаў, перакананьняў і падзяляў іх. Не, у мяне былі свае погляды, ва многім адрозныя на падзеі, але і ў агульным, і ў галоўным г.зн. у пытаньнях культурнага будаўніцтва, я быў з гэтай групай салідарны, бо быў зараджаны нацыяналізмам, несумяшчальным з дыктатурай рабочага кляса. Ліквідацыя гэтай контррэвалюцыйнай сутнасьці майго я — мой абавязак перад Савецкай уладай. Я многага ўжо збавіўся і павінен збавіцца да канца. Як я разумеў разьвіцьцё беларускай культуры, і як пагэтаму я ўяляў сабе будучае Беларусі?

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# Палітычны партрэт Зьміцера Жылуновіча

Мікалай Сташкевіч
Юры Смірноў

## 25 сакаваіка



*Зьміцер Жылуновіч, Цішка Гартны, сябра Зьмятрок. У гэтым годзе спаўняецца 105 гадоў з часу ягонага нараджэньня. Маштабнасьць яго асобы — палітыка, мысьліцеля, мастака, чалавека — драму яго жыцьця можна параўнаць з маштабнасьцю і драматычнасьцю працэсаў, якія прайшлі праз сэрца і розум гэтага аднаго з самых адданых барцоў за новую Беларусь. На жаль, мы толькі нядаўна пачалі асэнсоўваць велічнасьць ягонай асобы. Дзякуючы дасьледваньням Мікалая Сташкевіча й Юрыя Смірнова, якія працавалі ў архівах КДБ, мы толькі зараз можам даведацца аб той вялізарнай трагедыі, якая здарылася з Ц. Гартынм. Прапануем чытачам урывак з гістарычнага нарыса* ***«Драма жыцьця»***

Да 1924 г. мы не сустракаем дакумэнтаў, якія-б мелі крытычныя заўвагі й якія-б датычыліся дзейнасьці Зьміцера Жылуновіча, а тым болей негатыўную ацэнку ягонай дзейнасьці. Паколькі ён знаходзіўся за мяжой падчас чысткі ў партыі, пытаньне пра ягоную «идейную выдержанность» разглядалася пасьля ягонага павароту ў БССР.

Неабходна адзначыць, што 26 верасьня 1922 г. Кантрольная Камісія КП(б)Б зацьвердзіла Жылуновічаў партстаж з кастрычніка 1918 г.Затым на пасяджэньнях ЦКК КП(б)Б ад 8 студзеня і 14 лютага 1924 г. разглядалі справу аб «банкеце, зладжаным ў ягоны гонар як паэта Беларусі сябрамі партыйцамі» і вынесьлі пастанову: вымову «за неправильность формы чествования банкета». 4 ліпеня 1924 г. Кантрольная Камісія выключыла З.Жылуновіча на адзін год з партыі за адарванасьць ад мас і «абывацельскую псыхалёгію». Абывацельскую псыхалёгію ўгледзелі ў тым, што З.Жылуновіч прыняў удзел у пахавінах швагра, а таксама ў тым, што ён «прилично одевался». З. Жылуновіч падаў апэляцыію і 21 ліпеня 1924 г. ЦКК КП(б)Б скараціла выключэньне на 6 месяцаў. Пасьля паўторнай апэляцыі ў ЦКК РКП(б) Цэнтральная Кантрольная Камісія КП(б)Б ад 27 верасьня 1924 г. адклікала сваю ранейшую пастанову і З. Жылуновіча «восстановили членом партии», але зрабілі строгую вымову з папярэджаньнем за нявытраманасьць.

З.Жылуновіч быў адным з тых беларускіх інтэлігентаў-партыйцаў, якія імкнуліся ўдзельнічаць у розных сфэрах духоўнага жыцьця. Зусім зразумела, што З. Жылуновіч

адчуваў мажлівасьці сказаць сваё слова, выявіць свой уплыў на тыя ці іншыя працэсы сацыяльнага і нацыянальнага адраджэньня ў Беларусі.

Як асоба, ён стаяў ля вытокаў беларускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху і як адзін з заснавальнікаў БССР выяўляў вялікую зацікаўленасьць у кірунку разьвіцьця грамадзкіх навук. Гэтак падчас сваёй працы ў парткаме ЦК КП(Б)Б ў 1924 г. ён прадбачыў хвалю дагматызацыі і вульгарызацыі грамадазнаўства, таму стараўся паставіцца супроць надыходзячых няшчасьцяў. Дзякуючы ягонай ініцыятыве, быў распрацаваны плян, які прадугледжваў *выданьне шматлікіх дакумэнтаў* зь гісторыі Беларусі, зь яе грамадзкіх рухаў, культурна-гістарычных традыцыяў і каштоўнасьцей. Ён непасрэдна прымаў удзел ў ажыцьцяўленьні распрацаванага пляну. Паралельна ў кароткім часе на старонках «Савецкай Беларусі» і ў часопісе «Полымя» зьявіліся артыкулы, гістарычная праблематыка загаварыла поўным голасам. Такім парадкам была зьвернутая ўвага грамадзтва на грамадазнаўчыя навукі рэспублікі. Неабходна адзначыць, што навуковая, дасьледчая вартасьць гэтых публікацыяў была неаднолькавай. Побач з больш удалымі спосабамі навуковага асэнсаваньня падзеяў мінуўшчыны, траплялiся публікацыі схэматычна-вульгарызатарскія па свайму характару, падтасаваныя пад смак і погляды апаратных чыноўнікаў.

З.Жылуновіч на гэтым стракатым фоне, хаця і ня быў прафэсыйным гісторыкам, але да гэтага часу стаў вядомым, дзякуючы шэрагу арыгінальных гісторыка-публіцыстычных артыкулаў. Яго цанілі за артыкулы аб праблемах вызваленчага змаганьня ў беларускім рэгіёне, за ўмацаваньне савецкай улады ў Беларусі й утварэньне БССР, за артыкулы ў якіх насьвятляліся розныя спэктры разьвіцьця культуры й яе ролі ў жыцьці народу, за нарысы аб заслугах беларускай інтэлігенцыі ў нацыянальна-вызваленчай, рэвалюцыйнай барацьбе мінулага стагодзьдзя і далучэньні яе ў сучаснасьці. Тады-ж узьніклі даволі вострыя дыскусіі адносна вытокаў бальшавізму ў Беларусі і сфармаваньня КП(б) З. Жылуновіч у сваіх публікацыях падзяляў канцэпцыю двухкарэннага паходжаньня КП(Б), з аднаго боку ад РСДРП і Бунда, з другога— ад БСГ і Бунда. Адзначым, што у пазьнейшым часе, гэтая пазыцыя разам зь іншымі столь-жа сур'ёзнымі *правінамі была пастаўлена яму ў віну.*

Пажадана, аналізуючы спадчыну З.Жылуновіча, не забываць аб асаблівасьцях таго пэрыяду, у якім ён жыў і пісаў. Перад намі стаіць хутчэй за ўсё публіцыст, які ўзяўся за вельмі цяжкую прафэсію дасьледчыка і гэта толькі таму, бо абставіны і час патрабавалі гэтага. Не выключаным ёсьць тое, што асабістыя перажываньні ўзьдзейнічалі на ягоны парыў у дасьледваньні праблем. Шмат чаго прапусьціў ён праз сваё сэрца. Нямала выцерпеў ён прыкрасьцей. Неаднойчы мучылі яго сумненьні. Хістаўся ён, а часамі, рабіў памылкі. Аднак у галоўных, прынцыповых пытаньнях, ён прытрымліваўся дэмакратычных поглядаў. Будзе слушным, калі скажам, што З. Жылуновіч не ігнараваў марксісцкія пастуляты, але ён імкнуўся іх спалучыць з той сыстэмай агульнадэмакратычных вартасьцяў, каторыя былі для яго прыроджанай якасьцю. Таксама справядліва і тое, што ён як і іншыя грамадзка-палітычныя дзеячы той пары не пазьбегнуў уплыву ў шэрагу вульгарна-сацыяльных схэм, далёкіх ад навуковай сыстэмы паглядаў. Таму ня дзіўна, што ў ягоных артыкуалах на гістарычную тэматыку сустракаюцца часамі штампы і стэрэатыпы вылучна суб'ектыўныя, перабольшваньні, ідэалізацыя. Разам з гэтым своеасаблівые гістарычныя нарысы З. Жылуновіча адрозьніваюцца публіцыстычнасьцю, палемічнай вастрынёй. Яны напісаны зь вялікай пачуцьцёвасьцю, як толькі можа пісаць змагар за сацыяльнае вызваленьне беларускага народу, як асоба якой неабыякавы лёс народу, які шчыра быў адданы ідэі гуманізму і дэмакрацыі. Ягоныя заслугі ў галіне навукі былі ацэненыя грамадзкасьцю рэспублікі. У 1928 г. яго абралі акадэмікам АН БССР.

Энцыкляпэдычнасьць ведаў, ягоны палітычны вопыт, дасьледчая цікавасьць, пісьменьніцкі талент, здольнасьці арганізатара культурнага будаўніцтва пры тагачасным недахопе адукаваных партыйцаў, гэта паўплывала на частыя перамены працы і павышэньні ў партыйна-дзяржаўнай структуры.

У ліпені 1924 г. на просьбу самога З. Жылуновіча ЦК КП(б)Б яго вызвалілі ад працы ў Істпарце. ЦК КП(б)Б. 26 сьнежня 1925 г. зацьвердзіла З.Жылуновіча сябрам прэзыдыюма Інбелкульта і навуковым сакратаром камісіі па дасьледваньню рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Інбелкульт як ведама, стаўся калыскай Акадэміі Навук, Ён пусьціў парасткі дрэва беларускай культуры.

Як пісьменьнік Цішка Гартны, зь вялікай павагай адносіўся да кніжнае справы, разумеў значэньне яе ў рэспубліцы і дзеля гэтага ўкладаў свой талент і энэргію, каб пасьпяхова працавала выдавецтва ў беларускай рэспубліцы. Ён да 2 чэрвеня 1928г. знаходзіўся ў кіраўніцтве беларускага Дзяржаўнага выдавецтва. Адна з заслугаў З.Жылуновіча, што беларуская кніжка стала масавай і даступнай кожнаму чытачу.

Прадметам я го клопатаў была моладзь. Усё, што нараджалася й узрастала на ніве культуры, ён імкнуўся перадусім зрабіць яе здабыткам хлопчыкаў і дзяўчынак, асабліва для тых, хто паходзіў з рабоча-сялянскіх сем'яў. Ён, несумніўна, меў арганізацыйна-пэдагагічныя здольнасьці й іх заўважылі. У 1928 г. на просьбу наркампроса рэспублікі З. Жылуновіч пераходзіць на працу ў сыстэму наркамата і ЦК КП(б)Б зацьвердзіў яго заступнікам народнага камісара асьветы, ( ЦПА КПБ, Ф.4., ап. 3, сп. 29л л. 810)

Аднак нельга сказаць, каб жыцьцё народнага паэта, акадэміка, выдатнага палітычнага і грамадзкага дзеяча было бясхмарным. Менавіта па сваёй шчырасьці й адданасьці справе, асабліва за спрыяньне нацыянальнаму адраджэньню, ён больш ад іншых пападаў пад крытыку з боку яўных і схаваных зласьліўцаў, партыйных дагматыкаў і карьерыстаў. Да таго-ж палітычныя й ідэялягічныя абставіны ў якіх праводзілася беларусызацыя, былі спалучаны ня толькі зь цяжкасьцямі аб'ектыўнага парадку, але недахопам кадраў, вастрынёй змаганьня розных груповак як у сярэдзіне самой Кампартыі Беларусі, так і навонкі яе.

У сярэдзіне 20-х гадоў, спачатку спакваля, затым больш інтэнсыўна стаў выяўляцца і дыктавацца цэнтрам сталінскі падыход да пытаньняў нацыянальна-культурнага будаўніцтва, уласьцівы яму недавер і скрайняя падазорнасьць у адносінах да ўсяго, што магло паспрыяць росту нацыянальнай самасьвядомасьці. Імпульсы недаверу і дыктату, каторыя выходзілі з сталінскага кола, адчуваліся і ў Беларусі. Шмат хто з партыйных функцыянераў успрыняў іх як дырэктывы Цэнтру, якія былі «призывом к бдительности и борьбе». Адным зь першых усплёскаў рэакцыі ў Менску быў сход актыву менскай гарадзкой партыйнай арганізацыі, які адбыўся ў верасьні 1925 г. З дакладам на ім выступіў сакратар ЦК КП(б)Б А. Крыніцкі. У ягоным дакладзе і рэзалюцыі, якую падрыхтавалі загадзя, празьвінелі пагромныя ноткі, штучна мусіраваўся тэзіс аб існаваньні нацыяналістычных тэндэнцыяў у партыі. Магчыма, што ўпершыню тут была зробленая спроба прадставіць праблему так званага нацыянал-дэмакратызму і вытокі небясьпекі ад яго партыі. Улічваючы такую небясьпеку, вынесьлі пастанову прысьпешыць падрыхтоўку кадраў маладой савецкай інтэлігенцыі, а таксама перакоўку старой інтэліген-

цыі ў кірунку ідэялягічнай дагматыкі, што пачала складацца. Характэрна, што інтэлігенцыя падзялялася на тых, хто цьвёрда стаяў на пазыцыях рабочага кляса ( ў Кампартыі, камсамоле); тых, хто на паўпуці набліжаўся да партыі; і тых, хто супрацоўнічаў з савецакай уладай, але не пазбавіўся дробнабуржуазных звычак (ЦПА КПБ ф. 4, ап. 1. сп. 15, лл. 19-32) .Такі падзел быў умоўна-прыблізны і, галоўнае, што ў ім адлюстроўваецца не рэчаіснасьць, але ўмоўлены працэс партыйнай дагматыкі.

Згушчэньне атмасфэры недаверу да носьбітаў нацыянальна-дэмакратычных паглядаў і тэндэнцыяў ўсё мацней націскала на З. Жылуновіча. Дзеячы, падобныя яму, рабіліся небясьпечнымі для апаратных ідэёлягаў. Сыгналам пачатку франтавой атакі супроць дэмакратычнай інтэлігенцыі стаў кастрычнічкі пленум ЦК КП(б)Б 1925 г. Адзначыўшы памылковасьць тлумачэньня і скажэньні нацыянальнай палітыкі з боку яўрэйскай і польскай інтэлігенцыі, а таксама дробнабуржуазных элемэнтаў, пленум падкрэсліў неабходнасьць змаганьня з любымі праяўленьнямі нацыяналізму, які інтэрпрэтаваўся агульна і бяздоказна.

Як бачым, ідэялягічнае становішча ўжо зь сярэдзіны 20-х гадоў ускладнілася. Праўда, што ў КП(б) дзейнічалі розныя грамадзкія групоўкі, зачастую з супрацьлеглымі імкненьнямі. Нават паміж тых, хто прытрымоўваўся лініі камуністычнай партыі, асабліва ў пытаньнях нацыянальнай праблематыкі, часамі наступалі разьбежнасьці . Па-рознаму разумеўся сэнс і значэньне ідэі беларусызацыі, асабліва па гарманізацыі міжнацыянальных адносін і стварэньні ўмоваў разьвіцьцю моваў і культуры нацыянальных меншасьцей. Частка працаўнікоў, у тым ліку і камуністаў, не адмежавалася ад ідэялёгіі і палітыкі «ваеннага камунізму», ад надзеі перамогі пралетарскай рэвалюцыі ў сусьветным маштабе. Прынцып інтэрнацыяналізму прызнаваўся імі толькі фармальна-тэарэтычна, бо ў практыцы ён трактаваўся прымітыўна-палітызавана. Назіралася схільнасьць ўсё нацыянальнае браць пад нагляд, адносіцца зь недаверам і сачыць. Прычым часта здаралася, што «ухіл да нацыяналізму» бачылі там, дзе былі зацікаўленасьць мінулымі стагодзьдзямі або клопаты аб разьвіцьці нацыянальнае культуры і мовы, аб захаваньні нацыянальных традыцяў і гістарычных помнікаў.

Вульгарна-нігілістычны падыход да праяваў нацыянальных, зразумела, ня меў нічога агульнага з праўдзівай нацыянальнай палітыкай. Дэмакратычна думаючыя людзі, нацыянальнае ядро старой і новай беларускай інтэлігенцыі, улучаючы выдатных дзяржаўных і партыйных дзеячоў рэспублікі (З. Жылуновіч, А.Чарвякоў, В.Ігнатоўскі, А. Баліцкі ды іншыя) не падзялялі гэтых поглядаў, яны супрацьставіліся ім. З.Жылуновіч у сваіх працах і выступленьнях стараўся пераканаць, што інтэрнацыянальнае немагчыма без нацыянальнага, бо ў сваёй глыбока народнай аснове нацыянальнае поўнасьцю супадае з ідэялёгіяй адзінства і братэрства людзей усіх нацыяў. Зразумела, што бяды, а тым больш якой-колечы грамадзкай небясьпекі ў тым не было, але яе знаходзілі і на свой лад раздувалі найбольш ярыя адэпты нарадзіўшагася сталінізму. Менавіта яны ўсё больш агрэсыўна ўводзілі ў практыку ідэялягічнай барацьбы ўстаноўкі і прынцыпы. якія фактычна перакрэсьлівалі гуманістычныя вартасьці дэмакратыі і нацыянальнага адраджэньня.

(Працяг -у наступным нумары)




# Згукі Бацькаўшчыны

## Напярэдадні 25 Сакавіка

Анатоль Старадарожскі



**«Ці лічыце Вы неабходным пра вядзеньне ўвосень 1992 году выбараў у вярхоўны ворган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі, праэкт якога ўнесены апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?»**

2 лютага у Беларусі створаны блёк «Новая Беларусь». Ягоная мэта—аб'яднаць усе дэмакратрычныя партыі і групіроўкі ў Беларусі. У блёк ўвайшлі прадстаўнікі 17 палітычных партый, рухаў і клюбаў, прафсаюзаў і грамадзкіх арганізацый рэспублікі: Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Сялянская партыя, Нацыянальна-дэмакратычная партыя, Хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць, Фэдэрацыя прафсаюзаў, Свабодны прафсаюз, Саюз прадпрымальнікаў, Прафсаюз працаўнікоў аўтасельгасмашынабудаваньня, Прафсаюз працаўнікоў радыяэлектроннай прамысловасьці, Беларускі сацыяльна-экалягічны Саюз Чарнобыль, Згургаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», гісторыка-культурны клюб «Спадчына» й іншыя арганізацыі.

Блёк ставіць сваёй мэтай:

*Стварэньне й умацаваньне незалежнага, нейтральнага, дэмакратычнага, заможнага жыцьця беларускай дзяржавы. Фарміраваньне сучаснай эканамічнай сыстэмы на аснове розных форм уласнасьці. Сацыяльную абарону насельніцтву. Мінімалізацыю вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Адраджэньне духоўнай культуры ўсіх этнічных груп насельніцтва Беларусі.*

Рэспубліку Беларусь прызналі 72 краіны сьвету. Нямеччына, Чэха-Славакія, Латвія, Летува, Фінляндыя, Турцыя і Украіна падпісалі дакумэнты аб аднаўленьні прызнаньня Беларусі як незалежнай дзяржавы.

Вечарына, прысьвечаная 74 гадавіне I-га Усебеларускага Кангрэса адбылася ў тэатры Янкі Купалы. Аб тым, як адбываўся Кангрэс, які лёс стаўся зь яго ўдзельнікамі, расказвалі Віталь Скалабан і Зянон Пазьняк.

23 лютага на пл Перамогі адбыўся мітынг, на якім была прынята пастанова аб зборы подпісаў у справе рэфэрэндуму. Неабходна сабраць 350 тысячы подпісаў. Кожны дзень на плошчы Скарыны можна бачыць людзей, якія растлумачваюць менчукам, чаму ўзьнікла неабходнасьць правядзеньня рэфэрэндуму, й як трэба адказаць на пытаньне:

Створана Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій. Яго Прэзыдэнтам выбраны вядомы беларускі вучоны Юры Штыхаў. У сваёй прадмове на Устаноўчым зьезьдзе ён адзначыў: «Паводля папярэдніх няпоўных дадзеных, якія ўжо праходзілі ў друку, у Беларусі было рэпрэсыравана каля 2 мільёнаў чалавек... Аднаўленьне праўды жыцьця, праўды гісторыі, займае адно з важных месцаў сярод вечных маральных каштоўнасьцей чалавецтва. Мы маем маральнае права гаварыць пра трагедыю, злачынствы, якія былі учыненыя бальшавікамі ў адносінах да беларускай нацыі».



100-годзьдзе з часу нараджэньня Адама Станкевіча адзначалася ў Менску ў касьцёле Сьвятой Тройцы. Пра жыцьцё і дзейнасьць беларускага сьвятара, лідэра Беларускай хрысьціян-дэмакратычнай злучнасьці, літаратара Адама Станкевіча расказалі сабраўшымся на гэтае сьвята ксёндз Міхаіл, гісторык Анатоль Сідарэвіч, літаратуразнаўца Алесь Бяляцкі.



Выйшаў у сьвет новы часопіс драматургіі і тэатральнага мастацтва «Тэатральная Беларусь». Яго рэдактар —вядомы беларускі маставазнаўца Анатоль Сабалеўскі.



У Менску створаны міжнародны вышэйшы коледж па радыёэкалёгіі імя А. Сахарава Яго рэктарам назначаны Аляксандр Люцко.



Вурокі патрыятызму неўзабаве адбудуцца ў школах і прафэсыйна-тэхнічных вучылішчах Беларусі. Вучні, будучыя абаронцы Бацькаўшчыны, даведаюцца аб слаўнай беларускай вайсковай гісторыі, аб мужных змагарах за Беларусь. Арганізатар вурокаў—Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў (БЗВ) —лічыць, што выхаваньне зь дзяцінства у нашых дзецях пачуцьця нацыянальнага патрыятызму дапаможа стварыць нацыянальнае беларускае войска.



Споўнілася 70 гадоў з часу стварэньня Інстытута Беларускай культуры. Сёньня цяжка нават уявіць, сколькі зроблена Інбелкультам за кароткі пэрыяд дзейнасьці. Толькі ў галіне мовазнаўства была распрацаваная беларуская навуковая тэрміналёгія, выдадзеныя «Беларуска—расейскі слоўнік» М.Байкова, «Працы Акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі», «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» П. Бузука і шмат іншых неабходных выданьняў.

Скарынаўскі цэнтр, якім кіруе вядомы беларускі вучоны Адам Мальдзіс, урачыста адзначыў юбілей Інбелкульта на сваім пасяджэньні.

Нацыянальны Беларускі навукова-асьветніцкі цэнтр імя Скарыны, фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур, Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і арганізацыйна-метадычны цэнтр Міністэрства інфармацыі Беларусі зьвяртаюцца да суйачыньнікаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. У звароце гаворыцца, што ў Рэспубліцы Беларусь вядзецца работа над 130-томнай гісторыка-дакумэнтальнай хронікай «Памяць», у якой мяркуецца адлюстраваць лёс усіх рэгіёнаў нашай Бацькаўшчыны ад глыбокай старажытнасьці да сёньняшніх дзён. Копіі гістарычных дакумэнтаў пра Беларусь, навуковую і мэмуарную літаратуру, публікацыі ўсіх часоў з эміgranцкай прэсы, фотаілюсрацыйныя матэрыялы, успаміны аб жыцьці на Радзіме і за яе межамі, арганізатары просяць высылаць на адрас: **220617, Рэспубліка Беларусь, Менск, ГСП, праспект Машэрава, 11, «Памяць».**

25 лютага ў Менск прыехалі мітрапаліт Мікалай, Мікалай Ганько, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады, Васіль Русак, сябра кансысторыі БАПЦ. 26 лютага адбылася сустрэча мітрапалітаў Філарэта і Мікалая. 27 лютага мітрапаліт Мікалай наведаў Магілёў і Слаўгарад, дзе спаткаўся з архіяпіскапам Максімам.29 лютага Уладыкам Мікалаем была адслужана паніхіда ў Хатыні і Курапатах.1 сакавіка мітрапаліт Мікалай адслужыў па-беларуску сьв. Літургію ў эпархіяльнай царкве мітрапаліта Філарэта, а вечарам малебен ў Петрапалаўскай царкве. 3 сакавіка Ўладыка Мікалай наведаў Полацак, дзе спаткаўся з япіскапам Дзімітрыем і наведаў жаночы Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр. 6 сакавіка адбыўся візыт у мужчынскі манастыр у Жыровіцах. 7 сакавіка Ўладыка Мікалай разьвітаўся зь мітрапалітам Філарэтам. 8 сакавіка мітрапаліт Мікалай, М.Ганько, В.Русак адляцелі ў Польшчу, дзе спакаліся зь мітрапалітам Васілём і архіяпіскапам Савам.



У Менску, у Дзяржаўным мастацкім музэі зь вялікім посьпехам праходзіць выстаўка мастачкі Галіны Русак. Больш за некалькі тысяч наведвальнікаў пабывалі на гэтай незвычайнай для Беларусі выстаўцы.



11 сакавіка пачалася чарговая сэсія Вярхоўнага Савету Беларусі. У парадку сэсіі болей як 50 пытаньняў. Адно з асноўных—рэарганізацыя Вярхоўнага Савета Беларусі.



14 лютага пры ініцыятыве Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў створаны Антыкрызысны камітэт, у які ўвайшлі 29 палітычных партыяў і рухаў, грамадзкіх арганізацыяў, дзяржаўных ворганаў, кіраўнікі парлямэнту і ўраду. Абарона сувэрэнітэта Беларусі і тая пагроза, якая можа ўзьнікнуць для гэтага сувэрэнітэту па прычыне непрадказальных працэсаў, што адбываюцца на тэрыторыі былога СССР—вось мэта стварэньня Антыкрызыснага камітэту. На сходзе выбрана выканаўчая рада, у склад якой увайшлі прадстаўнікі міністэрстваў, унутраных справаў, інфармацыі, замежных справаў, Камітэту дзяржбясьпекі, БНФ, свабодных прафсаюзаў, БЗВ. Старшынёй рады абраны В.Кебіч.



15 сакавіка, у Менску, на плошчы Незалежнасьці сабраўся шматлюдны мітынг, арганізаваны Менскім гарадзкім саветам руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасьць, вядомы сваёй камуністычнай накіраванасьцю. Падставай для яго сталі ўгодкі з дня правядзеньня рэфэрэндуму, арганізаванага кіраўніцтвам былога Саюза.СССР ужо няма, але людзі ўпарта неслі з сабой ягоную камуністычную атрыбутыку: чырвоныя сьцягі, партрэты Леніна. Выступленьні, якія прагучалі на мітынгу, былі прасягнуты ідэяй служэньня справе вялікага Кастрычніка і адданасьцю да былога Савецкага Саюза.



Напярэдадні 25 Сакавіка беларуская прэса зьмясьціла зварот: «Грамадзяне! Віншуем вас са слаўнаю датаю 25 Сакавіка! Заклікаем ўсіх, хто мож‹а›, вывесіць у гэты дзень бел-чырвона-белыя сьцягі на дамах, балконах, лёджыях, на будынках прадпрыемстваў і ўстановаў. Няхай наш сьцяг пасьведчыць: мы памятаем пра Акт 25 Сакавіка 1918 году, мы помнім аб змаганнях за незалежнасьці і дэмакратыю!» Наш бел-чырвона-былы сьцяг, годна лунаў 25 Сакавіка 1992 года над некаторымі будынкам, хатамі, плошчамі Бацькаўшчыны.

**Так што жыве Беларусь!**



# НАША ГІСТОРЫЯ

## Не адзін Гаўрыла ў Полацку

Уладзімір Содаль



Гэтую прымаўку, ведае ўся Беларусь. Яна надзвычай даўняя. Мабыць, сягае з таго часу, калі Полацак быў сталіцаю першай Беларускай дзяржавы, асяродкам разьвітой культуры, славіўся шматлікімі ў сьвеце імёнамі, асьвечанымі навукай людзьмі. Кожны зь іх у тыя часы лічыў за гонар называць сябе палачанінам. Згадайма найперш нашую старажытную асьветніцу і кніжніцу Еўфрасіньню. Яна першая ўвайшла ў нашу гісторыю зь імем Полацкай. Славуты Францішак Скарына, наш першадрукар, слынны доктар у лекарскіх навуках, таксама неаднойчы ў сваёй Бібліі падкрэсліваў, што паходзіць не адкуль-небудзь, а з слаўнага горада Полацка. Прозьвішча Полацкі прыжылося й яшчэ за адным слынным палачанінам—вядомым асьветнікам Пятроўскім Сітнякевічам. Назоў Сымон Полацкі стаў яго другім прозьвішчам. Зь ім ён ўвайшоў у айчынную гісторыю. А яшчэ былі слаўны князі Ўсяслаў Полацкі, Уладзімір Полацкі, Андрэй Полацкі!Памяць пра тое, што Полацак калісь быў сталіцаю першай беларускай дзяржавы, асяродкам асьветы, багатым асьвечанымі навукай людзьмі, ніколі ў народзе не забывалася. У 1888-1889 гадах псэўданім Гаўрыла Полацкі падпісваў свае публікацыі супрацоўнік «Віленского вестника» Войслаў Савіч—Заблоцкі, які ў той час быў рэдактарам замежных навін.

Ведаў пра славу Полацка і Францішак Багушэвіч. У сваёй слыннай прадмове да «Dudki Białaruskaj», вызначаючы межы Беларусі, ён не забыўся згадаць Полацак.

Упадабала асобу Гаўрылу з Полацка як постаць неардынарную і наша паэтка Цётка — Алёйза Пашкевіч, хоць родам яна была зь Лідчыны. Шматлікія свае вершы яна падпісвала менавіта гэтым псэўданімам. Пад ім яна выдала ў 1906 годзе зборнічак вершаў «Скрыпка Беларуская». На ім імя аўтара так і значыцца — «Гаўрыла зь Палацка».




На колішнюю славу Полаччыны ўзіраліся і браты Луцкевічы: Іван і Антон. Адраджаючы беларускую культуру на пачатку стагодзьдзя, яны найперш патурбаваліся, каб у старажытную беларускую сталіцу вярнуць беларускае друкаванае слова. Менавіта ў Полацку яны заснавалі адну зь першых беларускіх кнігарняў. І натхнілі на гэты клопат маладую паэтку Кастусю Буйлянку.

Духам Полаччыны быў асьвечаны й яшчэ адзін вялікі кніжнік Браніслаў Эпімах —Шыпіла. Памяць пра колішнюю славу Полацка пакіравала ім на заснаваньне ў Пецярбургу беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Так што сапраўды не адзін Гаўрыла ў Полацку! Аўтар гэтай прымаўкі быў Прарок і, пэўна-ж, таксама палачанін.

Полацкая зямля заўсёды была багатая на таленты, на патрыётаў. Яна і сёньня дае нам новых новых песьняроў, якімі ганарыцца Беларусь, увесь сьвет. То хай увесь сьвет ведае і згаданую прымаўку «Не адзін Гаўрыла ў Полацку». Яна і пра таленавітасьць нашага народу, і пра разнастайнасьць і шматфарбнасьць народных талентаў. Нездарма мусіць, за ўсёй нашай беларускай зямлёй замацавалася назва Белая Русь. Белая — гэта значыць, сьветлая, асьвечаная навукай, незалежнасьцю. І назва гэтая пайшла, між іншым, з Полаччыны, на якую, як сьведчаць, шматлікія прыклады, лепшыя сыны нашага народу заўсёды глядзелі як на ўвасабленьне ідэі нацыянальнага згуртаваньня беларусаў у адзінай дзяржаве. Старажытны Полацак, яго колішняя незалежнасьць праз стагодзьдзі жывілі і жывяць дух беларускай нацыі. З Полаччыны вытокі нашае дзяржаўнасьці, нашай навукі, нашай асьветы. Думаецца, Гаўрылы ў Полацку не перавядуцца. Полацкая грамада, трэба спадзявацца, дасьць Беларусі , сьвету яшчэ не аднаго слаўнага дзеяча культуры, асьветы, навукі, якія з гонарам побач з сваім сапраўдным прозьвішчам паставяць найменьне, утворанае ад назвы слаўнага месца, Полацка. Гістарычная традыцыя павінна жыць, не перапыняцца.



На здымках: князь Уладзімір Полацкі, фрагмэнт з вокладкі кнігі Цёткі, Сымон Полацкі. Фота з архіва У.Содаля.

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў




Паўла Урбан

Чарговай важнай крыніцай для зразуменьня нацыянальнага характару Вялікага княства Літоўскага зьяўляюцца «падарожныя запіскі»[13] французскага рыцара, а пазьней і дыплямата Гільбэрта дэ Ланой. Ён наведаўся ў гэтае Княства два разы: узімку 1414 году ў якасьці цікаўнага рыцара-авантурніка й у 1421 годзе ў якасьці дыплямата караля Англіі і Генрыха Ланкастра. Зьявіўся ён на ўсходзе ў 1413 годзе дзеля таго, як пісаў дэ Ланой, каб на баку Тэўтонскага ордэну крыжакоў узяць удзел у змаганьні супраць «няверных» і сарацынаў». Гэтыя ягоныя акрэсленьні могуць добра сьведчыць пра тое, як пасьля перамогі 1410 г. ў Грунвальдзкай бітве на Захадзе распаўсюджвалася нянавісьць у дачыненьні да Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. І Гільбэрт дэ Ланой браў удзел у гэткім «змаганьні» ў жніўні 1413 году. А гэта ў экспэдыцыі крыжакоў, скіраванай у асноўным супраць Памараніі — тагачаснай саюзьніцы Польшчы, ды што здарылася ўжо пасьля падпісаньня Торуньскага мірнага пагадненьня.

Дарэчы, дэ Ланой з Прусіі выехаў у Лівонію таксама дзеля таго, каб і там далучыцца да падобнага «змаганьня». Відавочна, супроць ВКЛ або супраць Ноўгарадзкай рэспублікі. Але там, у Лівоніі, таксама асудзілі ягоны рыцарскі парыў, а таму дэ Ланой наважыўся наведаць Ноўгарад, Пскоў, а затым Вільню з Трокамі.

«Падарожныя запіскі» Гільбэрта дэ Ланой яшчэ цікавыя тым, што ён быў назіральным чалавекам. Апісваў ён тагачасную Вільню і зьдзіўляўся, чаму яна безабаронная — без гарадзкіх муроў. Пахваліў новы замак у Троках. Занатаваў, што ён збудаваны на французкі ўзор, а таксама, што ў тым часе каля Трокаў быў вялікі зьвярынец, «абгароджаны парк», у якім трымалася разнастайная дзікая і хатняя жывёла. Прыкмеціў, што ў ВКЛ вельмі добра ставіліся да чужынцаў і шчодра апякаваліся імі.

Як выглядае, свае назіраньні і ўражаньні Гільбэрт дэ Ланой занатоўваў па дарозе і толькі пазьней апрацаваў іх. Напрыклад, будучы праездам з Кёнігсбэргу ў Лібаву (Ліепая) праз Жамойць, ён зьдзіўлена запісаў, чаму ўзьбярэжжа Балтыйскага мора (ад вусьця Нёману і далей на поўнач) называлася «Літоўскім берагам», нягледзячы на тое, што тут знаходзілася «Жамойцкая краіна» [14]. Дэ Ланой пашкадаваў Жамойць, бо мясьціны, празь якія ён праязджаў, былі спапялёныя і бязьлюдныя.

З кантэксту «Падарожных запісак» Гільбэрта дэ Ланой вынікае, што мову жамойцаў ён таксама адрозьніваў ад мовы ліцьвіноў. Праўда, і пра мову ліцьвіноў ён гаварыў агульна, коратка занатаваўшы, што ў Літве будуецца шмат цэркваў, тут налічваецца 12 япархіяў і народ гэтай краіны «мае сваю ўласную мову».[15] Крыху далей, паведамляючы пра тое, што ў Троках жылі татары, немцы, ліцьвіны, рускія і шмат яўрэяў, дэ Ланой дадаў, што «ўсе яны карыстаюцца адметнай мовай». [16]

Так што з паведамленьняў таго французскага рыцара нельга зрабіць высновы, чым, напрыклад, магла адрозьнівацца мова

тых «ліцьвіноў» і «рускіх» з Трокаў, якіх ён назваў. Хоць, праўда, аб'яднаўшы ў адно цэлае каталіцкія і праваслаўныя япархіі ВКЛ, дэ Ланой, магчыма, аб'ядноўваў моўна і народ, зь якім ён сустрэўся ў «каралеўстве Літвы». Але вырашыць гэтую праблему дапамагае кола людзей, зь якімі ён сустракаўся і меў нагоду пагутарыць.

У Вільні Гільбэрт дэ Ланой вялікага князя Вітаўта не застаў. Аднак, маючы рэкамэндацыі, там ён сустракаўся зь дзьвюмя сёстрамі жонкі Вітаўта і бачыўся зь імі, напэўна, у сямейным асяродзьдзі. Можна дапусьціць, што прыймаўся ён і на нейкай урачыстасьці, бо мужам адной з сёстраў — Ульяны — быў Віленскі ваявода Альбэрт Монвід. Іншая з гэтых сёстраў жонкі Вітаўта звалася Агрыпінай, і яна была жонкай князя Івана Альгімунтавіча Гальшанскага.

Гільбэрт дэ Ланой не застаў Вітаўта і ў Троках, а таму яму давялося паехаць у замак над Нёманам, дзе вялікі князь адпачываў і займаўся паляваньнем. Французскі госьць апісаў таксама і гэты замак. [17] У ім ён меў нагоду пазнаёміцца ня толькі зь Вітаўтам, але і зь ягонай жонкай кнігіняй Ганнай і дачкой Соф'яй, што прыехала з Масквы пагасьціць у бацькоў. Прысутнічала і ўнучка Ганна, якая была дачкой Соф'і і Маскоўскага вялікага князя Васіля І.

А цяпер падкажам у згодзе з аўтарам ведамай «Хронікі Быхаўца», што першая жонка Вітаўта княгіня Ганна, якая памерла ў 1418 годзе, была дачкой Смаленкага князя Сьвятаслава Іванавіча. Як вынікае, такім чынам, пры тых сутрэчах у Вільні і ў гэтым замку над Нёманам Гільбэрт дэ Ланой мог пачуць толькі славянскую або старабеларускую мову. Але, скажучы, будучы «ліцьвінам», а не «русінам», сам Вітаўт мог карыстацца летувіскай ці жамойцкай мовай. Пастрабуем адказаць і на гэтую заўвагу.

Паспрачаўшыся зь Ягайлам і ягоным братам Скіргайлам, князь Вітаўт Кейстутавіч другі раз уцёк у Прусію да крыжакоў на пачатку 1490 году. Там ён змушаны быў напісаць тлумачальную запіску і падаць прычыны гэтых сваіх уцёкаў і канфлікту з каралём Польшчы Ягайлам і ягоным намесьнікам у ВКЛ вялікім князем Скіргайлам. Гісторыкі пішуць, што Вітаўт ведаў нямецкую мову, але тая запіска магла быць напісаная пад ягоную лістоўку. Дык Вітаўт апісвае тыя крыўды, што гэта пад ціскам Скіргайлы з «хрысьціянскай веры» ён перайшоў у «рускую веру», а Ягайла здрадным чынам спрычыніўся да сьмерці ягонага бацькі князя Кейстута. Ягайла не вярнуў яму спадчынныя землі, што належалі Кейстуту, адмаўляўся і пацьвердзіць прывілей на землі, дзе калісьці княжыў Вітаўтаў дзядзька Любарт ды якія ён, Вітаўт, атрымаў ад самога Ягайлы. Тычылася гэта Луцкай і Ўладзімірскай земляў на Валыні. Мала таго, без дазволу Вітаўта кароль Ягайла арыштоўваў ягоных баяраў, кідаў у цямніцы і катаваў іх рознымі спосабамі. Адным словам, у той нямецкі тэкст былі ўплеценыя гэткія беларускія тэрміны: «баяры», «ваявода», «цямніцы». [18]

Было і слова «jsen», але ў слоўніку старанямецкай мову аўтару не ўдалося адшукаць, што мог азначаць ужыты дзеяслоў «smitten». У сувязі з тым, што ў тэксьце была гаворка і пра катаваньне Вітаўтавых баяраў вадою, дык слова гэтае магло азначаць старaславянскае ез ці яз — запруду, плеценую перагародку папярок ракі для затрыманьня і лоўлі рыбы. Да гэтых язаў у вадзе і маглі прывязваць тых баяраў.

У дароўнай грамаце Вітаўта, датаванай 20 красавіка 1411 г., што давалася на просьбу Віленскага каталіцкага япіскапа Мікалая, тэкст на лацінскай мове[19]. Як адзін зь сьвед-

каў грамату падпісаў таксама Віленскі ваявода Альбэрт Монвід і падпісаў яе якраз як ваявода, а не palatinus. Апрача таго, у грамаце была ўжытая яшчэ гэткая тэрміналёгія: "Triginta *pudis* mellis", "duabus pullis alias *stawna* lukna mellis", "stacionis *poludze* appellato".

Бясспрэчна, ёсьць яшчэ больш падобных дароўных граматаў вялікага князя Вітаўта і ня толькі Вітаўта, але таксама звычайных ліцьвіноў, пра што, аднак, будзе асобная гаворка. А тут растлумачым, што 30 пудоў мёду, гэта было 30 пудоў мёду, «стаўное», а, праўдзівей, «устаноўное лукно» таксама было адзінкай вымярэньня переважна мёду або падатку, які павінны былі сплачваць бортнікі. Вымяраўся гэты падатак якраз пудамі або «устаўнымі» (акрэсьленымі вагою) вёдрамі, вушаткамі ці бочкамі. [20] «Палюдзьдзе» (полюдье)— гэта таксама прыгожы стараславянскі тэрмін, што пазьней будзе называцца «стацыяй» і стане запазычаньнем з лацінскай мовы праз польскую. Пра гэтае палюдзьдзе, якое збіралася князямі Кіеўскай Русі, пісаў бызантыйскі імпэратар Канстантын Парфірародны [21], і яно першапачаткова азначала збор даніны з насельніцтва і васалаў князя, а пазьней — забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня і фуражом сьвіты вялікага князя ды іншых вялікіх афіцыйных асобаў, калі яны наведваліся ў ту ці іншую мясьціну сваёй дзяржавы.

Пячаткі вялікага князя Вітаўта з надпісамі на іх на славянскай мове не захаваліся. Але такімі пячаткамі карысталіся бацька Вітаўта князь Кейстут і вялікі князь Альгерд. [22] Захавалася яшчэ пячатка Вітаўтава брата князя Жыгімонта, а гэта з выявай Пагоні і надпісам вакол яе: «Печать Князя Жикгимонта». Гэтай пячаткай князь Жыгімонт замацоўваў сваю дароўную грамату для касьцёлу ў Геранонах, грамата была датаваная 11 лістападам 1411 году.[23] У той грамаце князя Жыгімонта Кейстутавіча, таксама напісанай на лацінскай мове, аднолькава была ўжытая наступная тэрміналёгія: "pullam mellis, que vulgariter dicitur szesczipanthne pudlo", "unum lapidem cere vulgariter dicitur *pud vosku*", "pullam mellis *quinque palmorum* vulgariter dicitur *panczipanthne* pudlo".

«Пуд воску» зразумелы моўны выраз, а «пудля мёду», магло быць вытворным тэрмінам ад пуда, пудоўні ці пуньдзеля[24], бо лацінскі выраз "Pullam melellis" азначаў вымярэньне мёду на пуды: "duodecem pullas alias pudow mellis". Славянскімі метрычнымі адзінкамі былі таксама чатырохяпднае лукно або бочка, пяціпяднае лукно або бочка і шасьціпяднае лукно або бочка[25] . Прыметнік пядны ўтварыўся ад назоўніка пядзя, што было старой мерай даўжыні.

У князя Кейстута Гедымінавіча быў яшчэ сын на імя Патрык ці Патрыкій. Ён княжыў у Гародні. Пра яго і расказаў гэткі эпізод у сваёй «Прускай хроніцы» Віганд з Марбургу. Вялікі маршалак Прускага тэўтонскага ордэну Генінг Шындэкопф зарганізаваў у 1384 г. напад на Гародзенскую зямлю і самую Гародню, рабуючы і зьнішчаючы ўсё на сваім шляху. Таму князь Патрыкій успупіў у перамовы з маршалкам, выйшаў з сваёй жонкай і дзецьмі насустрач яму і запрапанаваў напітак зь мёду, пры гэтым выпіваючы першую чашу сам. Як занатаваў Віганд, зрабіў гэта князь Патрыкій «паводля звычаю русінаў». Гэткі ўчынак сына не спадабаўся Кейстуту, і на другі год ён перавёў Патрыка далей «у рускую зямлю». [26]

Як будзем бачыць далей, увогуле ў сваёй хроніцы Віганд з Марбургу часта не адрозьніваў «ліцьвіноў» ад «русінаў», і, напрыкалд, Вільню таксама называў «рускім горадам» [27]

Захавалася адна пячатка вялікага князя Ягайлы, якою карыстаўся ён перад тым, як стаўся каралём Польшчы. Тая ягоная пячатка таксама мела выяву Пагоні, але з надпісам вакол Пагоні на лацінскай мове: «Jagal dey gracia rex in Lettov». Аднак-жа ведама, што ў канцыляры і князя Ягайлы пісаліся акты на старабеларускай мове.

Мы ўжо прыгадвалі кнігу «Уладыслаў II Ягайла»,аўтары якой Ядзьвіга Кжыжанякова і Ежы Ахманьскі пішуць пра цікавыя рэчы, якія могуць характарызаваць Ягайлу. Напачатку свайго гаспадарыньня ў Польшчы Ягайла наведаўся ў Познань, дзе ўзяў удзел у набажэнстве. Як кажа паданьне, занатаванае ў крыніцах, у караля запыталіся, чаму ён пажадаў Богу паставіць сьвечку, а д'яблу два агаркі? Ужываючы «рускую» прымаўку, на гэта Ягайла быццам адказаў: «Служы Богу, а д'ябла не гняві!»[28]

У 1420 г. пасьлядоўнікі Яна Гуса вырашылі карону Чэхіі запрапанаваць якраз Уладыславу—Ягайлу і выслалі да яго адмысловае пасольства. Апрача іншых рэформаў у царкве, гусіты, як ведама, абаранялі таксама права свайго народу ў багаслужэньнях карыстацца роднай мовай. Дык у пасольскай інструкцыі была гаворка пра небясьпеку для славянскіх краінаў і славянскіх моваў нямецкага засільля, а зьвяртаючыся да Ягайлы, чэшскія паслы характарызавалі яго як «прыроджанага прыхільніка» чэшскай мовы і абаронцу славянскіх моваў увогуле. [29]

Пад ціскам польскіх царкоўных іэрархаў Ягайла быў адмовіўся пайсьці насустрач чэхам, што, аднак, у згодзе зь Ягайлам зрабіў вялікі князь Вітаўт, неўзабаве накіраваўшы ў Чэхію ў якасьці свайго намесьніка князя Жыгімонта Карыбутавіча.

Ведамы польскі гісторык Ян Длугаш недалюбліваў Ягайлу. Але ён пахваліў учынак Ягайлы, які з сваёй жонкай, каралевай Ядзьвігай, адважыўся заснаваць у Польшчы чыста славянскі манастыр. Гэта быў манастыр манахаў—бенедыктыйцаў, і ён быў заснаваны пад Кракавам у 1390 годзе на ўзор падобнага манастыра, што дасюль існаваў у Празе. Для манастыра Сьвятога Бенедыкта каля Кракава былі запрошаныя тады таксама першыя манахі з той-жа чэшскай Прагі. Пра ўсё гэта пісаў Ян Длугаш, з захапленьнем паведамляючы, што ў тым, паводля яго, «Славянскім манастыры» над ракой Рудавай усе абрады спраўляліся на славянскай мове «набажэнствы і малебны, тайныя прычасьці, чытаньне царкоўных кнігаў і царкоўныя сьпевы». Длугаш яшчэ пісаў, што, маўляў, было жаданьнем Бога ўшанаваць гэткім чынам годнасьць славянскай мовы ў царкоўным жыцьці[30], бо звычайна ў польскіх касьцёлах таго часу панавала лацінская мова.

Можна меркаваць, што ў той «славянскі манастыр» пад Кракавам і ў царкву, якая існавала пры ім, неаднойчы наведваўся і сам Ягайла.

Калісьці польскі гісторык Ян Фіялэк зрабіў закід ведамаму італьянскаму гуманісту Энэю Сільвію Пікаламіні, што гэты проста фальшаваў рэчаіснасьць, калі пра Літву пісаў як пра славянскую краіну, залічаў і мову ліцьвіноў да моваў славянскіх народаў. Маўляў, Энэй Сільвій Пікаламіні толькі здалёку мог пачуць пра Літву, і ў гэтым кантэксьце Ян Фіялэк прыгадаў паляка Эразма Цёлка,[31] які ў якасьці сакратара вялікага князя Аляксандра ў 1501 г. наведаўся ў Рым і там, у Ватыкане, абвясьціў, што паводля яго, ліцьвіны захоўвалі ўласную мову, але звычайна карысталіся мовай русінаў, бо яна была больш зграбнай і лёгкай для ўжытку. Што-ж тычыцца канцэпцыі Яна Фіялэка, то

ён быў упэўнены ў тым, што Энэй Сільвій Пікаламіні, гаворачы пра мову ліцьвіноў як мову славянскую, меў, напэўна, на ўвазе моўную сытуацыю ў ВКЛ і канкрэтна ў Літве, якую ў Рыме намаляваў прыгаданы Эразам Цёлак. Інакш кажучы, італьянскі гуманіст зыходзіў толькі з факту моўнай асыміляцыі ў ягоным часе сучасных летувісаў.

У згодзе з паведамленьнем Энэя Сільвія Пікаламіні, Ян Фіялэк быў зьвярнуў належную ўвагу на асобу доктара і прафэсара тэалёгіі Гераніма з Прагі. Гэта не той Геранім з Прагі, які быў толькі магістрам тэалёгіі, належаў да пасьлядоўнікаў Яна Гуса й аднолькава ў 1416г. быў спалены на вогнішчы ў Канстанцы. Гэты «ерэтык» - гусіт у 1413 г. праз Кракаў прыехаў у ВКЛ, дзе ў сьвеце вялікага князя Вітаўта наведаў Віцебск і Полацак. Тое ягонае наведваньне гэтых гарадоў, дыспуты ў праваслаўных цэрквах і выказваньне сымпатыяў да «праваслаўнае веры», таксама былі адным з пунктаў абвінавачаньня магістра Гераніма з Прагі на Канстанцкім у царкоўным саборы вось у гэтай сьмяротнай «ерасі»[32].

Іншы Ян Геранім з Прагі быў заядлым прапаведнікам хрысьціянства і каталіцызму у праватнасьці. Як меркаваў Ян Фіялэк, зьявіўся ён у Кракаве дзесьці каля 1394 г., дзе пры каралеўскім двары стаўся асабістым прапаведнікам і спавядальнікам Уладыслава-Ягайлы. Адсюль празь нейкі час ён трапіў у Вялікае княства Літоўскае, каб тут, магчыма на жаданьне Вітаўта, узяць удзел у хрысьціянізацыі яшчэ паганскага насельніцтва. Можна дадаць, звычайнага насельніцтва, бо баярскія сем'і былі ахрышчаныя раней. Як занатаваў у сваім трактаце Энэй Сільвій Пікаламіні[33], гэты Геранім з Прагі нагэтулькі «шчыра» узяўся за справу хрышчэньня ліцьвіноў, што пачаў выпальваць «сьвятыя лясы». Вітаўт, палохаючыся абурэньня ў народзе, змушаны быў папрасіць тэоляга з Прагі пакінуць межы краіны.

Ян Фіялэк выказаў абгрунтаваную думку, што Ян Геранім з Прагі ў сваёй Місіянерскай дзейнасьці ў Літве мог карыстацца толькі славянскай ці «рускай» мовай або той мовай, якую ён ужываў у споведзях і ў магчымых гутарках на рэлігійныя тэмы з каралём. Дарэчы, у часе, калі Ян Геранім з Прагі знаходзіўся ў ВКЛ, справа хрышчэньня тычылася толькі ліцьвіноў, а не жамойцаў.



13 Oeuvres de Ghillebert de Lannoy. Recueillies et publiees par Ch. Potvin. Louvain, 1878.

14 Там-жа, с.28-29

15 Там-жа, с. 39-40

16 Там-жа, с. 41

17 Там-жа, с. 42.

18 SRP. t.2. Leirpig, 1863, pp. 712-714.

19 Codex Ecclesiae Vilnensis, Nr. 55, pp. 84-86.

20 Скурат К.У. Даўнія беларускія меры. Мн. 1974

21 Constantine Porphyrodenitus. De administrando imperio, Edited by Gy. Moravcsik & R.J.H. Jenkins. Budapest, 1949, p. 63

22 Румянцава В.В. Эмблемы земель и гербы городов Левобережной Украины периода феодализма .К. 1986, с. 33,36.

23 Codex Ecclesiae Vilnensis Nr. 56, pp. 86-88.

24 Скурат К.У. Цыт. праца, с.119-115.

25 Там-жа. с.17-19, 72-73

26 Die Chronik Wigands won Marburg, In. SRP, t.2. Leipzig, 1863, pp. 544-545.

27 Ibidem, p. 623.

28 Jadwiga Krzyzaniakowa, Jerzy Ochmanski, Opus cit., p.13,

29 Ibidem, p. 266-267.

30 Jan Dlugosz, Opus cit., ks .10, p.238-240

31 J.Fijalek .Uchrzescijanie Litwy przez Polske.. In: Polka i Litwa w dziejowym stosinku, Kr, 1914, s.50-52

32 Das Conzill zu Konstanz in den Jahren 1414-1418. Nach Ulrich eon Kirchentals handschriftlicher Chronik bearbeitet von J. Marmor. Kon., 1874, s. 88-115.

33 Aeneas Sylvius. De Lituania regione. In: SRP. L. 1870, pp.237-239.

# Эмблема на шчыце герба «Пагоня»

Міхась Белямук

Шасьціканцовыя патрыаршыя крыжы знаходзім у вонкавых сьценах храмаў. У Вільні за князя Гедыміна пабудавалі драўляную царкву. Юльяна, жонка кн.Альгерда, на месцы драўлянай паставіла муравaную царкву сьв. Мікалая. Над уваходам, высока на дзьвярыма, былі з цэглы выкладзеныя два патрыарышя крыжы на Галгофе.

У Ноўгарадзе ў 1374 г. змуравалі царкву сьв. Спаса. Царква ў першапачатковым выглядзе зьбераглася да ХХ-га ст. На заходняй сьцяне, высока над уваходам, былі выкладзеныя з цэглі шасьціканцовыя крыжы.



Царква сьв. Мікалая



Царква сьв. Спаса ў Ноўгарадзе

Царква сьв.Міколы без рамонту была да 1514 г. Пасьля рамонту царква прастаяла да ХХ ст. П.Н. Бацюшкаў аглядаў і сфатаграфаў яе. Ён зазначыў, што крыжы ў заходняй сьцяне зьбераглiся (**54**, б.51; **55** б.85 і вып. У)

Ігар Грабар кажа, што вонкавыя сьцены ўпрыгожаны разнаякімі крыжамі, а таксама нішамі, якія стваралі ўражаньне заложаных вокнаў. Усё гэта было апошнім водгалоскам бізантыйскіх уплываў. У 1378 г. вонкавыя сьцены распісаў Феафан «Грэчын», гэты роспіс у поступных ста-

Працяг. Пачатак ў № 8-1(11)

годзьдзях затынкавалі. Трэба адзначыць, што царква сьв. Мікалая ў Вільні апрача крыжоў мела вонкавыя нішы, як і царква сьв.Спаса ў Ноўгарадзе. (**56**, б. 209 і Таб. 20)



Сьвятаславаў крыж

Цікавым помнікам зьяўляецца сабор у Юр'еве Польскім, пабудаваны Юрыям Даўгарукім у 1330-1334 гг. Вонкавыя сьцены сабору аздобілі скульптурай, якая ў сучаснасьці крыху пераблытаная ў сувязі з рамонтам сабору ў 1471 г.

Вельмі цікавым ёсьць і крыж Расьпяцьце (Сьвятаславаў крыж), які шасьціканцовы без падножжа, Галгофы, адамавай галавы (чэрапа). Над галавой Хрыста зьмешчаная этімасія, якая падказвае пра запазычанасьць уплыву з Ноўгараду. Варта зьвярнуць увагу на кампазыцыю пяціфігурнага Дзеісуса, дзе архангелы трымаюць сфэры на якіх шасьціканцовы крыж на Галгофе. Над адной з каменных пліта ў зьмешчаны Хрыстос зь Евангельлем і на Евангелі шасьціканцовы крыж. На паўдзённым фасадзе кампазыцыя Маці Божай «Аранты», дзе сьвятыя воіны маюць шчыты з шасьціканцовым крыжом. Неабходна зрабіць заўвагу, што на адным шчыце спрабавалі шасьціканцовы крыж падрабіць на васьміканцовы, але зрабілі няўдала. У самым версе над «Арантай» архангел з сфэрай на якой шасьціканцовы крыж. (**57**, таб.111, IУ, XI , XXII)











## Бібліяграфія


54. Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва СПб. 1890 г.

55. Батюшков П.А. Памятники русской старины в западных губернях империи. Вып. У. СПб. 1870, 1872 гг.

56. Грабар Игорь. История русского исскуства т.1, М,1909.

57. Вагнер Г.К. Скульптура Владимиро - Суздальской Руси. М.1964.


(Працяг у наступным нумары)

# Балонкі эмігранцкіх выданьняў

## Васіль Захарка

У першым урадзе БНР В.Захарка займае становішча дзяржаўнага скарбніка, а потым ува ўсіх кабінэтах ураду меў розныя міністэрскія партфэлі і дэлегаваўся на найбольш далікатныя становішчы. 2 чэрвеня 1920 г., калі бальшавікі выказалі жаданьне весьці перагаворы з урадам БНР, Захарка быў вызначаны гэтым урадам за старшыню Надзвычайнай Беларускай Дыпляматычнай Місіі. Не дагаварыўшыся, аднак, з бальшавікамі, Захарка вяртаецца з Масквы і вядзе далейшае змаганьне за незалежнасьць Беларусі.Ён бескампрамісовы да ўсіх прэтэндэнтаў на беларускія землі, змагаецца зь імі ня толькі, як дыплямат, але і як рэвалюцыянер, як адважны вайскавік. Ён уцякае пазьней з польскае турмы, кідае разам з П. Крэчэўскім гасьцінную Коўню за прэтэнзіі Летувісаў да Вільні і пераяжджае ў Прагу.

8 сакавіка 1928 г. Захарка пераймае становішча Прэзыдэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі пасьля сьмерці Пётры Крэчэўскага, намесьнікам якога ён зьяўляўся з 1-га сьнежаня 1919 г. Пераймае гэтае найадказьнейшае становішча Захарка ў найкрытычнейшы мамэнт нашага вызвольнага змаганьня.У гэным годзе чэхаславацкі ўрад, з прызнаньнем СССР, прыпыняе афіцыяльныя дыпляматычныя дачыненьні з урадам БНР , як з урадам вызнаваным да гэтага часу «дэюрэ». Але Захарка не ўпадае на духу. Пасяліўшыся з сваёй канцэлярыяй Прэзыдэнта рады БНР у скромнай хатцы ў ваколіцы Прагі, Захарка не спакарыўся і не спакусіўся СССР.

6 сакавіка 1943 г. Захарка перадаў тэстамэнтам свае паўнамоцтвы Прэзыдэнта Рады БНР інж. Мікалаю Абрамчыку. Сухоты, гэтая «нацыянальная беларуская хвароба»,як прывыклі ўжо казаць, дагрызалі рэшткі ягоных лёгкіх, але хто адведваў яго ніхто ня мог падумаць, што лютая сьмерць нам хутка яго забярэ. Ён ніколі ні аб чым ня гутарыў і ні аб чым ня пераймаўся, як толькі аб Беларусі.

14 сакавіка 1943 г. аддаў Богу душу, душу бунтарную, маладую духам, хоць і на 66-м годзе свайго жыцьця.

Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе 19 сакавіка, не дачакаўся толькі адзінаццаці дзён да 25-гадовага юбілею абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі , адным з найбольшых тварцоў і абароньнікам якой ён зьяўляўся праз усё сваё жыцьцё.

Паховіны ў тых абставінах адбыліся больш, чым «скромна». Гэстапо забараніла ўсякія прамовы над магілай. Шматлікія дэлегацыі ад розных народаў, што зьявіліся з абозам вянкоў, з сумам і ціхім абурэньнем даведаліся, што разьвітальнага слова з Прэзыдэнтам Беларусі ім сказаць ня можна. Атмасфэра была нязвычайна цяжкая. Яна асабліва згусьцілася, калі пачалі спускаць труну ў дамавіну. У гэты мамэнт інж М.Абрамчык, прарваўшыся да магілы, аднак прамовіў. За ім, гэткім-жа «рэвалюцыйным» спосабам, прамовіў прадстаўнік ад украінскай моладзі. У радох навакол магілы хтось забегаў. Замятусіліся. Прафэсар Мазэпа (пазьнейшы прэм'ер украінскага эгзыльнага ўраду), што быў прыгатаваўся гаварыць, сказаў толькі наступныя словы: «Нічога, мы шчэ будэмо маты сказыю промовіты іншым разом».

Зашарахцелі аб пясок рыдлі. Міхал Забэйда-Суміцкі зь інж. Васілём Русаком выносілі на руках самлеўшую Ларысу Гэнюш.

Нямецкая цэнзура абрэзала артыкулы-нэкралёгі ў беларускіх газэтах, выкідаючы зь іх усё тое, што сьветчыла аб велічы Захаркі, каб не зварухнуліся мацней сэрцы Беларусаў, а да Беларусі — «Гэнэралькомісарыяту фюр Вайсрутэньэн» —не дапусьцілі нічога.

Гэткае было разьвітаньне Беларусаў з сваім Прэзыдэнтам.

«Бацькаўшчына», № 10-11,1953 г.

# *Віленскія беларусы расказваюць...*



Сьвятлана Белая

**Беларуская гімназія. Беларускі музэй Луцкевіча. Беларуская Друкарня імя Ф. Скарыны. Беларускі Студэнцкі Саюз. Усё гэта гісторыя нашай Вільні...**

Пасьля падзеяў 1939 года, калі былі забароненыя ўсе арганізацыі беларусаў ў гэтым спрадвечыным беларускім горадзе пачалася гісторыя Вільнюса... І забыцьцё гісторыі Вільні. Раскіданыя па музэях бясцэнныя экспанаты Беларускага музэя І. Луцкевіча. Іншыя кнігі на іншай мове пачалі друкавацца ў былой Беларускай Друкарні. Зьнішчаны дакумэнты першых беларускіх навучальных установаў...

Засталася толькі памяць, звычайная людзкая памяць, наш дапамочнік і выратавацель. Але й яна нявечная. Час не шануе ні яе, ні яе носьбітаў. Многія зь іх трапілі зь Вільні ў лягеры ГУЛАГа. Другім пашчасьціла больш: яны ня зьведалі сталінскага тэрору, але таксама знайшлі апошні прытулак на чужой зямлі. І толькі зусім маленькая група тых беларускіх віленчукоў, хто помніць беларускую Вільню, хто змагаўся за яе беларускасьць, сёньня з намі. Некаторыя зь іх жывуць у Амэрыцы. Але з кожным годам іх становіцца ўсё менш....

Таму і нарадзілася ў мяне ідэя сабраць успаміны тых, хто вучыўся ў Вільні ў Беларускай гімназіі, Віленскім унівэрсытэце і выдаць іх асобай кнігай.

Ужо першыя сустрэчы, якія адбыліся ў Нью-Йорку, Стэмфарце, Глен Коў, Монтадоры з др. Вітаўтам Тумашам, сп. Антонам Шукелойцам, сп-й Раісай Галяк, сп-й Вольгай Сяднёвай, др. Міколам Шчорсам пераканалі, які бясцэнны скарб мог быць зьнікнуць ад нас назаўсёды. І як прыкра было-б нам, нашчадкам, калі-б гэтыя каштоўныя ўспаміны не захаваліся. Фінансавыя прычыны пакуль не дазволілі мне адведаць беларускіх віленчукоў, які пражываюць у Чыкага, Лос Анжэлесе, Мінапалісе, Таронта, Дэтройце. Небяспечна, што праз некаторы час гэтыя сустрэчы наогул ня змогуць адбыцца, бо былым гімназістам і студэнтам сёньня ўжо пад восемдзесят гадоў.

Праца над кнігай успамінаў працягваецца. Фрагмэнты зь іх мы будзем друкаваць у «Полацку.» Сёньня чытачоў чакае сустрэча з сп. Антонам Шукелойцам і ягонымі ўспамінамі аб Р. Шырме, 100-годзьдзе з часу нараджэньня якога мы адзначалі 20 студзеня 1992 г.

# Сустрэчы з Віленскім Маэстра

Антон Шукелойц

Маё знаёмства з Рыгорам Шырмам і яго славутым хорам адбылося ў 1935 годзе. У гэты час я паступіў на аддзел славянскай філялёгіі й этнаграфіі гуманістычнага факультэту Віленскага Ўнівэрсытэту і ўступіў у Беларускі Студэнцкі Саюз. (Б.С.С.) На першай сустрэчы-вечарыне з новымі студэнтамі сябрамі Б.С.С. Віктар Войтэнка, студэнт мэдыцыны расказаў пра Студэнцкі хор Рыгора Шырмы і запрасіў нас, студэнтаў першага курса ў хор. Нічога дзіўнага ў гэтым не было, бо, вядома, студэнты сьпяваюць у хоры чатыры-пяць гадоў і адыходзяць, а хору заўсёду патрэбны новыя сьпевакі. Доўга мяне агітаваць не прыйшлося. Аб гэтым хоры я чуў яшчэ ў час вучобы ў Ашмянскай гімназіі. Таму неўзабаве я пайшоў на пробу.

Першая сустрэча з Рыгорам Шырмам адбылася на яго кватэры, што знаходзілася у царкоўным будынку Прэчысьцінскага сабору, дзе ён служыў рэгентам. Я прыйшоў у той момант, калі нейкія два «голасы» мелі пробы. Пакуль яны сьпявалі, я слухаў. У невялікім пакоі сядзела некалькі дзяўчат і хлапцоў. Некаторых я ведаў. Тым часам Шырма скончыў пробу і падыйшоў да мяне. Мае знаёмыя прадставілі мяне. Шырма прыемна ўсьміхнуўся і запытаўся, ці сьпяваў я калі небудзь раней? Пачуўшы станоўчы адказ, пацікавіўся, дзе я сьпяваў і якім голасам. Гаварыў ён на добрай беларускай мове, але з палескім акцэнтам. Выдзяляў літару «о». Напрыклад, слова карова выходзіла ў ягоным вымаўленьні як «корова». Шырма цудоўна ведаў літаратурную беларускую мову і добра пісаў на ёй. (Ён скончыў Сядлецкі настаўніцкі інстытут і па спэцыяльнасьці быў настаўнікам гімназіі). Ды толькі ён сьвядома ўжываў палескі дыялект, хацеў, каб гэтая мілагучная гаворка захавалася. Ён быў яе шчырым і вялікім прапагандыстам.

Было ў нашым хоры на той час каля 40 асобаў. Як кіраўнік хора Рыгор Шырма быў вельмі патрабавальны. Кожны сьпявак мусіў хоць трохі ды ведаць ноты. Малейшы фальш Шырма, як музыкант, чуў вельмі добра. Таму пастаянна праходзілі ў нас пробы новых партыяў. Але веданьне нотаў, было для яго ня самым галоўным.

Памятаю такі выпадак. У нашым хоры сьпяваў студэнт мэдычнага факультэта М. Ён меў вельмі рэзкі тэнар і бывала, наўмысна, не сьпяваў, а крычаў ім. І хаця ён нотную грамату ведаў добра і нават граў на скрыпцы, Шырма папрасіў яго пакінуць хор. «Табе, сказаў ён, — трэба лепш сола сьпяваць, чым у хоры выступаць».

А вось з сапраўдных салістаў я запомніў студэнтаў Савіцкага (быў ён, здаецца, расейцам, меў прыгожы голас, бас-барытон) і Янку Хвораста, які ня толькі добра сьпяваў тэнарам, але й арганізаваў групу народных танцаў.

У студэнцкім хоры мы сьпявалі народныя песьні. І песьні на словы паэтаў: Танка, Коласа, Купалы. Былі ў нашым рэпертуары і складаныя музычныя творы кампазытараў Кошыца, Галкоўскага, Гайвароньскага, Грэчанінава, Рагоўскага, Сьвешнікава й інш. Рэпэтыцыі адбываліся весела, на Шырмаўскай кватэры пры Прычысьцінскім саборы. Зьбіраліся па галасах. Звычайна раз на тыдзень. Агульная рэпэтыцыя цэлага хору адбывалася недзе адзін-два разы на месяц. Песьні развучалі пад скрыпку, на якой заўсёды граў Шырма.

Акрамя таго Шырма кіраваў хорам Прычысьцінскага сабору. Гэта была вельмі старажытная царква белага духавенства. Яна мела вялікую царкоўную залю, у якой магло зьмясьціцца больш за 400 чалавек. Тут мы і ладзілі канцэрты рэлігійнай музыкі. Сьпявалі на царкоўнаславянскай мове, старажытнабеларускія і расейскія расьпевы. У царкоўным хоры акрамя студэнтаў былі і прыхажане парафіі Прычысьцінскай царквы. Але ня ўсе, хто ўдзельнічаў у студэнцкім хоры, належылі да царкоўнага.

Наогул, хор Шырмы сьпяваў ня толькі беларускія песьні, але і расейскія, украінскія, польскія. У Вільні часта праходзілі вечары Славянскай песьні з галоўным удзелам нашага хору.

Выступаць студэнцкаму хору прыходзілася нямала. Ладзіліся выступленьні на вечары, прысьвечаным 25-годзьдзю беларускага тэатру, які праходзіў 25 лютага 1935 г. у залі Віленскай Кансэрваторыі, на юбілейнай акадэміі, у гонар 15-годзьдзя існавананьня Беларускага Студэнцкага Саюзу (1 сьнежня 1935 г.), на вечары беларускай паэзіі і песьні, які адбыўся ў залі Сьнядэцкіх 15 сакавіка 1936 г. і інш. імпрэзах.

Чамусьці мне больш за ўсё запомніліся выступленьні на радыё. Сьпявалі мы непасрэдна ў студыі. Хор стаяў на сцэне. Наперадзе — дыктар з такім прыгожым голасам. (У Польшчы заўсёды дыктары былі вельмі дабраныя). І Шырма з сваёй скрыпачкай. Заціхала усё. Загараліся каляровыя лямпачкі, што азначала: мы на «паветры». І пачыналася песьня. Але перад ёй пераважна рабіўся літаратурны ўспут. Папольску або па-беларуску чытаўся невялікі рэфэрат, у якім гаварылася пра беларускую песьню або пра беларускі фальклёр. А потым гучалі песьні.

Запісваліся мы на радыё даволі часта, але праз нейкі час нам гэтыя выступленьні забаранілі, бо, ведаеце, гэта была вялікая прапаганда Беларускай ідэі.

Сталася гэтае ў 1939 годзе, калі ўсе арганізацыі былі зачыненыя за выняткам Беларускага музэя і Б.С.С. Але правы Б. С.С. былі ўжо абмяжаваныя. І гэта вельмі моцна адчувалася. Памятаю, на 3 чэрвеня 1939 г. ў нас быў заплянаваны канцэрт, але ён так і не адбыўся, бо быў забаронены польскімі ўладамі. Было гэта за часы рэктара Вуйніцкага. Неўзабаве, дзейнасьць студэнцкага хора наогул прыпынілася. У кастрычніку 1939 г., пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР, Шырма перабраўся ў Беласток на сталае жыхарства і арганізаваў там Беларускі ансамбль песьні і танцу. А пры харавым ансамблі Янка Хвораст зарганізаваў танцавальную групу.

У Заходняй Беларусі Р. Шырму ведалі і як выдатнага грамадзка-палітычнага дзеяча. У часы маёй бытнасьці ў Вільні ён быў душой Таварыства Беларускай Школы ды кіраваў акцыяй змаганьня за Беларускую шко лу. Зь яго кватэры студэнты развозілі дэклярацыі з дамаганьнем вызваленьня беларускіх школаў ад польскіх уладаў на правінцыі. Ён быў рэдактрам часопісу ТБШ «Беларускага Летапісу», рэдактарам і выдаўцом зборнікаў маладых беларускіх паэтаў Заходняй Беларусі, у тым ліку і першых зборнікаў Максіма Танка. А перадусім Шырма быў апякуном, бацькам беларускай моладзі з Палесься, якая ў Вільні здабывала асьвету ў Беларускай гімназіі, тэхнічных школах і ў Віленскім Унівэрсытэце.



На здымку:
Рэдкалегія часопіса «Маладая Беларусь»
Зьлева направа:
Стась Станкевіч
Мікалай Шчорс,
Рыгор Шырма,
Максім Танк.
1937 г.
Фота з архіва
др. Мікалая Шчорса.

Сл У.Лойкі

# Разьвітаньне

Муз. Іванова



Вы -вай мой род-ны кут і зьвяз,



бы- вай-це вы лугі і го - ні!



І -ду ад вас а -пош-ні раз,



Пад зна-кам слаў-на- е Па - - - го-



ні, пад знакам слаў-на - е Па-




го-ні За го -ні.

Бывай, мой родны кут і зьвяз,
Бывайце вы, лугі і гоні!
Іду ад вас апошні раз.
Пад знакам слаўнае Пагоні.
За волю ў бой жыццё заве
Мяне змагарнае дарогі;
Купальскай кветкі не сарве
Ніхто ў душы мне бяз трывогі.

Я сам пайду за край, народ,
Упорна зь песьняй роднай звонкай,
Пад буру жудкіх непагод
Мяне, што мучаюць старонку.
Мо лягу дзесьці я ў далі,
Пад грудзьдзю хмараў неба белых —
Паўстануць тысячы з зямлі, —
Пад сьцягам бел-чырвона-белым!



# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ



## Мая няволя

Лявон Шыман

У палку нас было 4 тысячы чалавек. На трэцюю мінамётную роту, дзе я апынуўся, была адна вялікая зямлянка,у ён разьмяшчалася 200 вайскоўцаў. Мы пачалі курс малодшага камандзіра. Мне, камсамольцу, цераз месяц прысвоілі званьне яфрэйтара, прычапілі адну лычку і прызначылі камандзірам мінамётнага разьліку, які складаўся з 10 чалавек. Цераз 3 месяцы нам усім прысвоілі званьне малодшых камандзіраў. Хто добра вучыўся — сяржанта, а хто трохі горш — малодшага.

9 травеня1945 г. прыйшла вестка, што скончылася вайна. Уся наша дывізыя выст - раілася на вучэбным пляцу. Выступіў камандзір дывізыі падпалкоўнік Абдурашытаў. Пасьля ягонага выступленьня мы прайшлі трыумфальным маршам перад трыбунай.

Пасьля наш полк выехаў у калгасы дапамагаць сялянам сеяць жыта, садзіць бульбу. Вясна была вельмі галодная. Людзі хадзілі па полі і капалі мінулагоднюю мёрзлую бульбу. Спачатку яе сушылі, а пасьля размачывалі і выпякалі чорныя дранікі. Восеньню 1945 г. наш полк абмундзіравалі ва ўсё новенькае і павялі для праход - жаньня далейшай службы за мяжу, у Румынію. Усіх, хто быў пад нямецкай акупацыяй, пакінулі ў Расеі і перадалі ў 1285 полк пяхоты, які вярнуўся зь Нямеччыны.

У гэтым палку (ён кватэраваўся у Горкім) я праслужыў год. Тады нас перадалі ў 969 артылерыйскі полк, я там быў ужо старшынёй дывізіёна.

У гэтым палку мяне ўзялі ў футбольную каманду. На заняткі я не хадзіў, а толькі гуляў у футбол за палкавую каманду цэнтральным абараняючым. Яшчэ ў час гульняў да мяне прыглядзелася жонка падпалкоўніка асобага аддзелу Марыя Іванаўна. Нам, футбалістам, дазвалялі хадзіць на танцы ў Дом афіцэраў. Там мы зь ёй і зьблізіліся. Але сустрэчы доўга не працягваліся. Аднойчы ноччу мяне забралі з ложка і пасадзілі ў зямлянку пад варту. Зьнялі папругу і пагоны, пасадзілі пад сьледства. Давалі ў суткі кілаграм хлеба і літр вады. Спаў я на голых нарах. Вокан у зямлянцы не было, толькі ў кутку гарэла электрычная лямпачка. Цэлы месяц я сядзеў, ніхто мяне нікуды не выклікаў і нічога не пыталіся. Праз месяц прывялі ў суседнюю зямлянку да ваеннага сьледчага, старшага лейтэнанта Залацько. Першае ягонае пытаньне было: «Раскажы мне ўсё, што ты рабіў у час нямецкай акупацыі, і як ты здраджваў Радзіме». Для мяне такое пытаньне здалося дзіўным, і я пачаў падрабязна расказваць, што каб не ехаць у Нямеччыну на працу, я ў час нямецкай акупацыі вучыў дзяцей у пачатковай школе ў вёсцы Заскавічы. Ён мяне перабіў, маўляў, што ты мне лапшу на вушы вешаеш, раскажы, як ты служыў у немцаў паліцаем. Я яму даводзіў, што мне было ў той час пятнаццаць гадоў. Але той мяне прыстрашыў: «Будзеш сядзець у гэтай яме да той пары, пакуль ва ўсім не прызнаешся». Пасьля гэтага мяне зноў не дапытвалі цэлы месяц.

‚Працяг. Пачатак у №1(11), 1992'

Кармілі, як і раней: кілаграм хлеба і літр вады. Два разы на тыдзень пад аўтаматам выводзілі на паўгадзіны на прагулку.

Прайшоў месяц, мяне зноў выклікалі на допыт. Сьледчым быў маёр Славуцін. Ён пачаў абыходзіцца ветліва, гаварыў, калі я прызнаюся, тады мяне зводзяць у баню, пастрыгуць маю рыжую бараду, будуць лепей карміць, часьцей будуць выводзіць на прагулку. Але я маўчаў. Праз тыдні два зьявіўся Залацько. Як я потым даведаўся, ён дапрасіў у маёй вёсцы амаль усіх аднавяскоўцаў. Ніхто ня даў яму на мяне ніякіх дрэнных паказаньняў. Тады ён выклікаў Андрэя Шымана, былога солтыса, які пагражаў адправіць мяне ў Нямеччыну, Паўла Рака, які працаваў стрэлачнікам пры нямецкай акупацыі, і Паўла Шымана. Перасьцярог іх і сказаў, калі яны ня хочуць папасьці на Салаўкі, то няхай даюць на мяне абвінаваўчыя паказаньні. Тыя паказалі, што ў паліцэйскай форме мяне не бачылі, але чулі, што я, будучы настаўнікам, хадзіў па вёсках, перапісваў дзяцей і скаціну і дапамагаў немцам адпраўляць людзей у Нямеччыну. Маўляў, я быў нямецкім шпіёнам і служыў немцам верай і праўдай.

Следчы Залацько зачытаў пратаколы іх допытаў. Але я сказаў, што гэтыя людзі самі працавалі на немцаў. Допыты зноў прыпынілі. Пачалі браць зморам. Бывалі дні, калі не кармілі зусім. Выклікалі на допыт, нічога не пыталіся, а ставілі на стойку «смірна» каля сьценкі і трымалі па 18 гадзінаў. Калі я павалюся, падымалі і аблівалі вадой. Пасьля, даўшы добрую лупцоўку кулакамі і нагамі, ставілі на ногі, каб я зноў стаяў каля сьцяны. За 5 месяцаў я аброс барадой, бялізна і гімнасьцёрка прапіталіся потам, завяліся вошы, якія не давалі пакою. Засынаў на кароткі пэрыяд, прачынаўся і ўвесь час церабіўся. Ад усяго гэтага я ўжо стаў губляць розум. І вось пад канец шостага месяца з Масквы прыехаў сьледчы па асоба важых справах у чыне падпалкоўніка. Прывялі мяне да яго. Ён пытаецца: «Колькі табе гадоў?» «Двадцаць адзін». «Падпішы мне вось гэтыя тры аркушы чыстай паперы. Ня бойся, сьмяротная кара адмененая. Дадуць табе дзесяць гадоў і адправяць у лягер. Калі будзеш працаваць, то яшчэ пажывеш, а калі не падпішаш, то так і згінеш у гэтай зямлянцы». Я папрасіў у яго суткі на роздум. Следчы загадаў мяне лепш пакарміць, каб працавала галава. На наступны дзень я на трох аркушах паперы напісаў зьнізу: «Запісана з маіх слоў праўдзіва, што і пацьвярджаю». Так я сам падпісаў сабе прыгавор.

На трэція суткі мяне пад канвоем перавезьлі ў Горкаўскую турму, пасадзілі ў адзіночную камеру. Праз тры дні выклікаў пракурор. Перад ім я ад усяго пачаў адмаўляцца. Расказаў, у якіх умовах без ягонай санкцыі яны мяне трымалі ў яме і пры якой абстаноўцы я падпісаў тры аркушы чыстай паперы. Пракурор на гэта не зьвярнуў ніякай увагі, сказаў, што ў нас на следстве ня мучаюць і ня б'юць. У Горкаўскай турме мяне больш нікуды не выклікалі. За тры дні перад адпраўкай пад ваенны трыбунал далі прачытаць мне ўсю маю справу, што яны напісалі за шэсьць месяцаў. Столькі было напісана, што чытаў я яе два дні, як кнігу. Дужа моцна я спадзяваўся, што на судзе раскажу ўсю праўду і мяне не асудзяць. Але не так яно было.

З Горкаўскай турмы мяне этапам прывезьлі ў г.Уладзімір, дзе судзілі ваенным трыбуналам І-га гвардэйскага стралковага корпусу Маскоўскага ваеннага округа. Суд быў закрытым і працягваўся два дні. На трэці дзень вынесьлі мне прыгавор па арт.

58[10а] — 15 гадоў катаржных працаў. Далі 74 гадзіны на абскарджаньне. Адвакат напісала скаргу ў Вярхоўны Савет СССР і цераз два тыдні прыйшоў адказ. Катаржныя працы замянілі на працоўныя і 10 гадоў пазбаўленьня правоў пасьля адбыцьця пакараньня. На судзе я хацеў пераканаць судзей, што я не вораг народу. Што ў час вайны мне было 15 гадоў. Я вучыў дзетак на беларускай мове і ніякай палітыкі ня вёў супроць свайго народу. Але нічога не дапамагло. Мяне адвезьлі ў палітычную турму г.Уладзіміра. Пасадзілі ў даэтапную камэру. Запусьцілі наседку, Васіля Блахіна. Гэта быў такі-ж самы вязень як і я, розьніца была толькі ў тым, што яго судзілі па арт. 58[10] за балбатню. Васіль справакаваў мяне на размову супроць чэкістаў. А пасьля на вочнай стаўцы ўсё гэта пры мне расказаў следчаму. Пасьля, у камеры, я надзеў яму на галаву парашу і біў нагамі да тых пор, пакуль не змарыўся. За гэта мне авансам далі шэсьць месяцаў барака ўзмоцьненага рэжыму. Тут вадзілі вязьняў на працу з падвоеным канвоем і сабакамі. Пакараныя выконвалі самую цяжкую працу.

Пасьля суда я даў свайму адвакату адрас бацькі .Тая адправіла на маю радзіму паштоўку, у якой паведамлялася, дзе я знаходжуся і што са мной. Бацька, як атрымаў паштоўку, адразу прыехаў у г. Уладзімір, каб сустрэцца з мною. Сустрэча нашая адбылася вельмі драматычна.Яе дазволілі нам пасьля доўгіх хадайніцтваў перад турэмнымі начальнікамі. Бацька стаяў па адным баку жалезнай рашотчатай перагародкі, а я па другім. Паміж гэтымі перагародкамі хадзіў назіральнік. Мяне перасьцераглі, што ў час сустрэчы я магу спытацца пра здароўе мацеры і сям'і. Ні ў якім разе не павінен быў сказаць, які мне далі тэрмін. Вывелі мяне аброслага барадой, карэлага і страшнага. Бацька, як толькі ўбачыў мяне, згубіў прытомнасьць, паваліўся на падлогу і ляжаў, не прыходзячы ў сябе, пакуль ня скончыўся час нашага спатканьня. Колькі я ні крычаў, ён нічога не пачуў. Пяць хвілінаў прайшло, мяне адвялі ў камэру. Бацьку вывелі на вуліцу і пасадзілі на лаўку. Пасьля падыйшлі да яго людзі, разварушылі яго, гаворачы, што турма не магіла, што ня трэба так убівацца, дасьць Бог, сын адбудзе пакараньне і вернецца.Бацька прывёз мне прадукты, але нічога ад яго не прынялі. Прадукты бацька раздаў прахожым, а сам ні з чым паехаў дамоў.

Праз тыдзень нас пагрузілі ў сталыпінскія вагоны і, прычапіўшы да пасажырскага цягніка, адправілі далей на ўсход. Высадзілі ноччу на станцыі Сухабезводнае Горкаўскай чыгункі. Лічылі вылазячых з вагонаў па аднаму, б'ючы па спіне, а то і па галаве драўлянымі доўбнямі. Ачапілі зьняволеных салдаты ў чырвоных пагонах. А ззаду сабачнікі з аўчаркамі. Ішлі мы пешшу кіламетры чатыры. Нарэшце, падыйшлі да плоту з калючага дроту, за якім стаялі хілыя баракі. На прахадной нас сустрэў кірпаносы сяржант, якому нас і здаў па ліку начальнік канвою. Выклікалі па прозьвішчу. Адказваць трэба было сваё імя й імя па бацьку. Гаварыць пункт крымінальнага кодэксу і тэрмін, на які ты асуджаны. Праходзячы праз браму, кожны атрымоўваў зноў палкай па спіне.

Як толькі ўвайшоў на тэрыторыю лягера, як мяне сустрэлі 4 старажылі, зьнялі з новага нявольніка яшчэ моцную шынэль, боты і далі рваны бушлат і стаптаныя боты, сказаўшы, што нас усё роўна будуць апранаць. Загналі нас у барак і трымалі да раніцы. На двары было ўжо холадна, а ў бараку яшчэ халадней. Ляглі мы спаць на

дашчатай падлозе, прыціснуўшыся адзін да аднаго, каб саґрэцца. Як пазьней высьветлілася, гэта быў перасыльны лягерны пункт. Тут мы прабылі пяцера сутак. Жылі ў агульным бараку пакуль не сабралося 500 чалавек. Давалі нам па 500 грамаў хлеба, 500 грамаў супу і 300 грамаў кашы. На пяты дзень зноў пагрузілі ў цяплушку і павезьлі на поўнач у бок Кастрамской вобласьці.

Ад станцыі Сухабязводная на поўнач была пракладзена чыгунка. Па абодва бакі праз кожныя 7-10 кіламетраў былі лягерныя пункты. На кожным прыпынку разгружалі па 25-30 чалавек. Мяне выгрузілі на восьмым лягерным пункце. Трэба было прайсьці 7 км пешшу ўглыб лесу, і толькі тады мы ўбачылі свой лягер. Вакол яго —двайны плот з калючага дроту. Па кутках знаходзіліся чатыры вежы. На кожнай быў устаноўлены пражэктар, які асьвятляў паласу паміж платамі. Вакол гэтага плоту звонку быў яшчэ плот з паласой, па якой лёталі аўчаркі. На кожнай вежы быў устаноўлены яшчэ звон. Вартаўнікі праз кожныя 10 хвілінаў пераразваньваліся паміж сабою. Калі званіў звон на першай вежы, то праз 10 хвілінаў павінен званіць на другой і так па чарзе. Вартаўнікоў мянялі праз кожныя дзьве гадзіны. Лягер ахоўвалі вайскаўцы Савецкай арміі, і што характэрна, сярод іх не было ніводнага славяніна. У большасьці гэта былі таджыкі, казахі і людзі іншых нацыянальнасьцей, якія слаба размаўлялі, а то і зусім не маглі гаварыць па-расейску.

На прахадной нас сустрэў афіцэр у чыне старшага лейтэнанта. Як пасьля мы даведаліся, гэта быў намесьнік начальніка лягеру па палітычнай частцы. Зноў выклікалі па прозьвішчу, і кожны павінен быў назваць сваё імя й імя па бацьку, на колькі гадоў асуджаны і па якому пункту крымінальнага кодэксу. У гэтым этапе з 25 чалавек толькі я адзін быў асуджаны як вораг народу тэрмінам на 15 гадоў. Усе іншыя мелі па 25 гадоў і яшчэ па пяць гадоў пазбаўленьня ў правах пасьля адбыцьця тэрміну зьняволеньня. У асноўным былі пакараныя за крадзеж. Траіх адбывалі за бандытызм.

З прахадной нас павялі ў лазьню. Там, у прадбаньніку, гэты афіцэр пытаўся, ў кожнага, за што судзілі, адкуль родам і г.д. Калі дайшло да мяне, ён ускрыкнуў:«О, які малады вораг народу! Вось тут ты змоеш сваю віну, калі пройдзеш усе выпрабаваньні, і больш не захочаш здрадзіць радзіме.» Мы былі ўжо распранутыя, і ён, памацаўшы мае мускулы дадаў: «Хлопец здаровы. Будзе на чым пахаць!»

(Працяг у наступным нумары)



Лявон Шыман. Гулаг. Восьмы лягерны пункт. 25 сакавіка 1953 году.




Зараз я мушу вярнуцца ў даваенны час. Здаецца, у 1933 годзе ў Маскве праходзіў першы парад фізкультурнікаў. Тады беларуская каманда для тэматычнага ўступу ўсяму параду, паказала вельмі цікавую праграму, пантаніму на папулярную тэму «Вораг не пройдзе».

...У адно імгненьне ўся плошча зазялянела густым бярозавым гаем, а праз гэты гушар пракрадваўся парушальнік нашых межаў. Раптам да яго, скуль ні вазьміся, падбеглі пагранічнікі з аўчаркамі. Яны хутка захапілі парушальніка,і ў адначасьсе ўсё зьнікла. Праз некаторы час пагранічнікі зноў зьявіліся на плошы. Яны несьлі перад сабой арку зь вядомым лозунгам «Камунізм зьмяце ўсе межы!» На заканчэньні пантанімы перад маўзалеем Леніна зьявілася калёна спартсмэнаў, а на чале яе, на веласіпэдах—плыла вялікага памеру фігура Сталіна. Жывы бацька народаў стаяў ў гэты час на трыбуне перад маўзалеем і зь вясёлаю усьмешкаю памалу пляскаў у далоні. Побач зь ім вітала статую з пап'е-машэ ўсё Палітбюро. На плошчы гучала громкае: «Ура! Няхай жыве вялікі Сталін!»

Зьмена дзеяў ад бывалася хутка — адзін за адным пачыналіся паточныя рухі, складаныя дынамічныя скокі, усе было адладжана, як і мела быць. Спартыўным парадам кіраваў балетмайстар Галейзоўскі.

Мастак Эдуард Гадлеўскі быў адказны за афармленьне параду. Яны стаялі побач на вышцы і праз магафон падавалі загады і сачылі за выкананьнем праграмы. Усё ішло быццам-бы добра.Раптам нейкі чалавек ў цывільнай вопратцы падыйшоў да Гадлеўскага і загадаў яму сыйсьці ўніз. Пасьля гэтага параду Эдуард Гадлеўскі зьнік, але па якой прычыне ніхто ня мог здагадацца.

Мінула 15 гадоў з таго часу, калі мы зноў сутрэліся з Гадлеўскім на творчай дачы мастакоў у Юрмале. Вядома, што ён ня ўсім мог даверыць зьвесткі аб сваім лёсе ў той час. Аднак нам з жонкай даверліва апавядаў аб усіх 10 гадах свайго зьняволеньня, бо ведаў, што ў 1937 годзе бацька маёй жонкі Уладзіслаў Галубок быў расстрэляны як закляты вораг народу.

Так вось, калі фігура бутафорнага Сталіна адкацілася ўніз, да Замаскварэчча, яна раптам вырвалася з рук тых, хто стрымліваў яе. Калі-б не заслона перад Масквой-ракою, дык даў-бы нырца ў раку «таварыш Сталін». Няцяжка здагадацца, які жах ахапіў тых людзей, якія не ўтрымалі фігуру бацькі ўсіх народаў. Усіх чакалі лягеры. Не абмінуў гэтае долі і Гадлеўскі.

Але мастаку, можна сказаць, пашчасьціла. На першым этапным перагоне зьняволеных ён апынуўся сярод крымінальнікаў. Тыя шанавалі яго за тое, што ён рабіў ім

гральныя карты і нават маляваў партрэты тых кіраўнікоў, што зваліся ў іх паханамі.

Калі тэрмін зьняволеньня скончыўся, мастак заснаваўся ў Варашылаградзе і працаваў там у гарадзкім тэатры. Зараз ён заслужаны дзеяч мастацтва Украіны і сумуе па свайму Жлобіну. Яго цягне ў Беларусь, але жывуць яшчэ тыя, хто віноўны ў яго-ным ганьбаваньні.

Ідэя намаляваць карціну, прысьвечаную беларускім фізкультурнікам, зарадзілася ў нас з мастаком Давідовічам пасьля вайны, калі развой фізычнай культуры ўзьняўся даволі высока. Ён быў масавым, а Менскі інстытут фізкультуры рыхтаваў добрыя кадры інструктароў ды трэнераў па ўсіх відах спорту. Менавіта студэнты гэтага інстытуту і былі ўдзельнікамі ўсіх парадаў фізкультуры ў Маскве.

Цяжка расказаць на словах аб гэтай карціне, вялікім палатне, памерам пяць на тры метры. Яе трэба бачыць. На фоне храма Васілія Блажэнага, Спаскае башні, маўзалея Леніна піраміда ці лепш ваза, што складалася зь некалькіх паверхаў жывых, загарэлых целаў майстраў спорту, якія ўвесь час мянялі позы. На трыбуне перад маўзалеем стаяць Палітбюро і маршалы Савецкага Саюзу, а ўнізе — госьці з розных краін сьвету.

Апусьцім гаворку аб цяжкасцьях пры ставарэньні карціны. Іх хапала багата з той прычыны, што працавалі без дагавору, а значыцца і без авансу. За ўсё плацілі з сваёй кішэні. Нам хацелася, каб аб карціне, раньш чым мы яе ні скончым, ніхто ня ведаў, бо заўсёды знойдуцца апекуны, што будуць марна губляць час на спрэчкі. Тым больш, што да Ўсесаюзнай выстаўкі ў Маскве заставалася вельмі мала часу, крыху болей за паўгода. Працоўны дзень паначалу пачынаўся раніцай і канчаўся позьняй ноччу. Але так цягнуўся нядоўга, пакуль не было наведвальнікаў, якія пазьней проста не давалі працаваць.

Першым візіцёрам быў Заір Азгур, які настойліва дамагаўся ўвасйсьці ў маю майстэрню і паглядзець, што мы робім ў такім сакрэце. Я мусіў адчыніць майстэрню, бо Азгур быў сябрам выстаўкаму і меў права, як ён казаў, на прагляд усяго, што робяць мастакі. Зь яго ўсё і пачалося. Назаўтра нас выклікалі ў ЦК КПБ да Гарбунова, сакратара ЦК па агітацыі і прапагандзе. Яго першае пытньне было: «Чаму на ніжняй трыбуне вы зьмясьцілі Мао Цзе -Дуна, Хо Шы Міна, Далорэс Ібаруры, Дзімітрава, Тэльмана й іншых кіраўнікоў замежных кампартый? Калі на трыбуне ім няма месца побач з таварышам Сталіным дык ня трэба іх наогул зьмяшчаць на ніжняй трыбыне.

Зьняць дык зьняць — спрачацца няма сэнсу. Хаця кампазыцыйна ды і палітычна яны маглі заставацца на тым самым мейсцы, дзе намаляваны.Добра, што тыя дзеячы былі намляваны толькі вуглём і не замацоўваліся фіксатарам. З гэтага дня адзін раз у тыдзень майстэрню наведвалі Гарбуноў і старшыня Саюза мастакоў Андрэй Бембель. Пасьля першых візытаў Гарбуноў парадзіў нам нікога не запрашаць да сябе і нікому не паказваць карціну, а калі што спатрэбіцца, званіць да яго па вяртушцы ў ЦК. Відаць было, што работнікі ЦК вышэйшага рангу зацікавіліся нашай карцінай, але куды-б магла завесьці гэта зацікаўленасьць, пакуль што не было нам вядома. Аднойчы Гарбуноў пры чарговым візыце зазначыў: «Зьвярніце ўвагу на вопратку і на абутак спартсмэнаў, каб была яна як новая. Бо на карціне мастака В.Волкава «Вузаўцы» вельмі брыдкая вопратка, а абутак, дык сьмеху варты. І добрая карціна, але за мяжу

паслаць нельга з-за тых дробязяў. Што могуць сказаць пра савецкіх студэнтаў за мяжой нашыя ідэйныя ворагі?»

Калі праца над карцінаю падыходзіла да свайго завяршэньня, Гарбуноў, зайшоўшы да нас, каб даць апошні ўказаньні, запытаўся: «А ці маглі-б вы неяк выдзяліць таварыша Сталіна, зрабіць яго вышэй за ўсіх. Падумайце, прашу вас». Я мусіў адмаўляцца ад ягонай прапановы, тлумачыць, што і так таварыш Сталін выдзяляецца. Ён стаіць ў белым кіцелі, падняўшы правую руку. Астатнія члены Палітбюро стаяць усе па чарзе і па рангу, (быццам нерухома) з правага боку таварыша Сталіна. На левым баку стаяць маршалы Савецкага Саюза. Усё адпавядае фатаграфіям з таго параду.

Карціны, падобнай нашай, у беларускім мастацтве яшчэ не было. Яе памеры, мажорны насторй, фарбная стракатасьць, незвычайная тэ̀ма, — усё гэта разам павінна было зачароўваць гледача і, як нам, здавалася, падабацца выстаўкаму, што было вельмі важным. Так яно і сталася. Партыйныя колы нашай рэспублікі зацікавіліся карцінай, але толькі таму, каб падхалімнуць перад Сталіным, скарыстаць лішні раз тэму, якая ні ў якім разе не падыходзіла для гэтае мэты, але якую усё роўна, хоць і штучна, праз назоў, можна прытасаваць да той вялікай ідэі.

Прагляд карціны членамі бюро ЦК і выстаўкамам адбываўся ў нашай майстэрні. Першымі ўвайшлі асабістая ахова ўрадоўцаў, а пасьля іх : Патолічаў, першы сакратар ЦК КПБ, Зімянін — другі сакратар ЦК, Казлоў — Старшыня Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета БССР, Гарбуноў — сакратар ЦК па прапагандзе, Машэраў— першы сакратар ЦК ЛКСМБ, Лютаровіч — старшыня кіраўніцтва па справах мастацтва пры СНК БССР, А. Бембель — старшыня кіраўніцтва Саюза мастакоў Беларусі і нейкія яшчэ асобы. Яны сядзелі і разглядалі карціну моўчкі. Пасьля ўсе накіравалі свой зрок у бок першага, які таксама маўчаў. Ён выглядаў стомленым, набыць, таму, што час быў позьні, ля поўначы (у тыя гады ўся работнікі ЦК працавалі ноччу, як і Сталін). Першае, што ён, нарэшце, запытаўся: «А як мы даставім ў Маскву такое вялікае палатно?» Зімянін задаў мне пытаньне, якое было бліжэй да тэмы візыту: «Якую назву мае твор?» Я адказаў , што у нас толькі тэма — выступленьне беларускіх фізкультурнікаў на Чырвонай плошчы. Зімянін прыкінуў некалькі варыянтаў і спыніўся на адной «Слава вялікаму Сталіну». Усе разам згадзіліся зь ім, нават не папытаўшыся, што мастакі думаюць пра гэтую назву. З намі ніхто не лічыўся, мы выканаўцы і ня болей таго. Казлоў зазначыў, што калі-б ён ня ведаў, што карціну рабілі беларускія мастакі, ён бы падумаў, што аўтарамі зьяўляюцца маскоўскія майстры. (Так своеасабліва ён ацаніў высокі ўзровень твора).

Але апошняе слова было ўсё-такі за беларускім і ўсесаюзным выстаўкамам.

Трэба сказаць, што на нашым выстаўкаме праца прайшла бяз хлопатаў. Праўда, былі заўвагі. Напрыклад, прафэсар В.Волкаў зьдзіўляўся таму, што мы намалявалі такую карціну ў кароткі тэрмін. «Гэта авантурыстычны шлях за нейкія паўгода, хай сабе і ўдваіх, зрабіць такую вялікую карціну»,—казаў ён. Другія, не бяз зайздрасьці шукалі супярэчнасьці паміж назвай твору і тым нязначным месцам на карціне, якое займаў таварыш Сталін. Між тым, карціну прынялі па большасьці галасоў. У Маскве, перад Усесаюзным выстаўкамам выступіў Бембель і прасіў улічваць хадайніцтва нашага ЦК. Ня ведаю, што ў гэтым выпадку дапамагло, але карціна была прынята на

выстаўку, якая праходзіла ў Трэцьякоўцы. Ці трэба казаць, што выставіць свой твор у славутай галярэі лічылася вялікім гонарам.

Карціна «Слава вялікаму Сталіну» была не адзінай. З падобнай назвай быў твор брыгады Цыплакова. На карціне «Вялікаму Сталіну слава» Сталін быў асновай усёй кампазыцыі. Вось ён выйшаў з Георгіеўскай залі і спыніўся. Ён у светлым касьцюме залажыў наперадзе рукі — нібы сьвяты. Зьнізу з букетамі кветак рвуцца да яго ашалелыя людзі, хочуць крануцца яго, закідаць кветкамі. На кожным твары ўсьмешкі, толькі ўсьмешкі.

Прыгадаем яшчэ адзін калектыўны твор мастакоў-харкаўчан пад назовам «У імя міру». Карціна адлюстроўвала падпісаньне дагавору аб сяброўстве і ўзаемадапамозе паміж СССР і КНР. За сталом, зь левага боку, Сталін, за ім стаяць усе члены Палітбюро, з правага боку Мао Дзе-Дун й іншыя кітайскія партыйныя кіраўнікі. Сталін і Мао Дзе-Дун жмуць адзін аднаму рукі. Вось і ўся карціна. Толькі па адной назве можна зразумець, што на ёй адбываецца. Мастак Пацевася экспанаваў карціну «Прыём І.В.Сталіным калгасьнікаў-хлапкаробаў». Сталін левай рукой абдымаў дзяўчынку, а правай паціскаў руку жанчыны ў нацыянальнай вопратцы. За спіной Сталіна — члены Палітбюро б'юць у далоні — усе, як адзін, з узьмешкамі на тварах. На першым пляне, на стале ляжаць скуркі ягнятаў, а на вялікім падносе нацюрморт зь вінаграду й іншых фруктаў. Трэба сказаць па праўдзе, што гэта быў антымастацкі твор самавукі, але і ён трапіў на выстаўку, бо на ім быў Сталін.

Навошта гэта я, узяўся ўспамінаць пра выстаўку, якая была так даўно — амаль сорак гадоў таму назад. Можа таму, каб праліць сьвятло на мінулае, пра якое сорамна зараз становіцца ўсім нам мастакам старэйшага пакаленьня. А можа ня толькі нам, але і тым, хто кіраваў намі, хто зараз атрымоўвае пэнсію ўсесаюзнага значэньня, або партыйную — як ветэранаў партыі?

У той час, калі мы пісалі сваю карціну—выступленьне беларускіх фізкультурнікаў на Чырвонай плошчы ў Маскве — панавала прыхарашваньне жыцьця, як быццам на самой справе яно так і было. Але хлусьня заставалася хлусьнёй і паказухай. Плацілі дзяржаўныя грошы тым мастаком, хто больш за другіх паказваў асалоду жыцьця, параднасьць і дабрабыт праз метад сацыялістычнага рэалізму, пра сутнасьць якога ня ведалі ні мастакі, ні, тым больш, тыя кіраўнікі, што кіравалі зьверху выяўленчым мастацтвам.

*(Нагадваецца адзін выпадак, калі мастацтвазнаўца і галоўны рэдактар часопісу «Творчасьць» Мялікадзе на абмяркаваньні выстаўкі беларускіх мастакоў у Маскве (Кузнецкі мост) ўводзіў нам у вушы, што нават і бярозкі на краявідах павінны быць партыйнымі).*

Хто наўмысна рабіў такія карціны, дзе Сталін зьяўляўся толькі повадам, каб працягнуць на выстаўку няхай сабе і слабую карціну па выканьню, той ніколі ня быў у пройгрышу, бо гэткія карціны лічыліся партыйнымі й адпавядалі мэтаду сацыялістычнага рэалізму. Адразу паўстае пытаньне: а хто вызначаў так упэўнена, зьяўляецца твор мастака партыйным або не. Адказ вельмі просты: усё тыя-ж кіраўнікі, што ад імя народу ці Бог ведае ад каго, бралі на сябе права на апошняе слова прысуду. Гэтая акалічнасьць спрыяла мастакам - прахіндзеям учапіцца за ідэю партыйнасьці, як за залатую жылу. Успамінаецца, як быццам усіх ахапіла нейкая хвароба на выперадкі праслаўляць Сталіна праз усе

віды выяўленчага мастацтва—вышыўка, ткацтва, інкрустацыя па дрэву, фарфору, кераміцу й інш.

Наш мастак Ісак Давідовіч нават прысягнуў радыёкарэспандэнту, што ўсё сваё жыцьцё прысьвеціць вобразу вялікага Сталіна. Здарылася гэта пасьля пасьпяховай працы над карцінай «Сталін выходзіць з маўзалея Леніну».

Але давайце прасочым, які-жа складаўся лёс нашай карціны, якая экспанавалася ў Трэцьякоўцы. Ніхто зь беларускіх мастакоў-жывапісцаў ня меў званьня лаўрэата Сталінскай прэміі. Адзін толькі Азгур, як скульптар меў у тым часе не адну Сталінскую прэмію за свае скульптурныя партрэты вялікага Сталіна й яго паплечнікаў.

Як заўсёды гэтак рабілася, прапанова каб Саюз мастакоў вылучыў на Сталінскую прэмію двух мастакоў—аўтараў карціны «Слава вялікаму Сталіну»—паступіла з боку ЦК. На першым-жа пасяджэньні праўленьня Саюза мастакоў нашыя кандыдатуры забалаціравалі. Але пазьней на праўленьне была пададзена заява мастака Касмачовав, які даваў адвод выключна на палітычнай падставе. Гэты мастак ужо ў другі раз праявіў «пільнасьць». Дзякуючы ёй, яшчэ ў 1933 годзе шэраг мастакоў даведаліся, што такое «амэрыканка» НКУСа. Сярод гэ-тых людзей назаву толькі аднаго — Эдуарда Гадлеўскага — астатніх няма ўжо ў жывых.

Мы сядзелі ў кабінеце начальніка кіраўніцтва па справах мастацтва пры СНК БССР Лютаровіча. Ён вельмі цёпла веў гутарку і, між іншым, зрабіў заўвагу, што Саюз мастакоў інкрымінаваў мяне за побыт ў Менску, падчас нямецкай акупацыі. Не забыліся і тое, што я яшчэ сваяк ворага народу Ўладзіслава Галубка, няхай сабе і рэабілітаванага.

За маім напарнікам таксама лічыўся «грашок». Ягоны старэйшы брат адсядзеў адзін год ў менскай турме , а муж сястры, кінааператар, «загубілся» недзе ў Сібіры.

—Нам, —сказаў Лютаровіч,— не заставалася нічога, як зьвярнуцца ў НКУС, каб удакладніць гэтыя пытаньні. Атрымалі зьвесткі вельмі станоўчыя. Менавіта тое, што ніхто з братоў Ціхановічаў у часы акупацыі Менска сябе не скампрамэтаваў. Пагэтаму калегія кіраўніцтва па справах мастацтва вылучае вас абодвух — кандыдатамі на лаўрэатаў Сталінскай прэміі. Так што рыхтуйцеся да камандыроўкі ў Маскву.

Толькі нам зноў не пашчасьціла. У 1950 годзе ніхто з мастакоў не атрымаў прэміяў, нават тыя, хто звычайна, ўзнагараджваўся. Чаму так адбылося, сказаць цяжка. Казалі, што грошы ашчаджаліся на распрацоўку атамнае бомбы.

Тым часам, карціна каля году экспанавалася ў Трэцьякоўцы, потым у доме Ўраду ў Менску, акруговым Доме афіцэраў імя К.Варашылава і нават у кінатэатры «Перамога». У канцы 1950 году адбылося абмеркаваньне Усесаюзнай выстаўкі у памяшканьні ЦДРІ, а потым і ў тэатры Чырвонай арміі. Вядома-ж мы чакалі, што скажа мастацтвазнаўца Машкаўцаў. Ён, прыхільнік перасоўнікаў, меў свой пункт гледжаньня на сучаснае мастацтва, але, як і ўсе яго калегі, крытыкаваў толькі маладых мастакоў і баяўся чапляць майстраў, што мелі свой твар і пасады ў Саюзе мастакоў. Наконт нашай карціны ён зазначыў, што менскія мастакі пагналіся за крылатаю назвай твору.

—Назоў ніяк не адпавядае сутнасьці зьместу,—падкрэсьліў мастацтвазнаўца і тут-жа спаслаўся на карціну Цыплакова, як прыклад дакладнасьці назвы.

Можаце сабе ўявіць маё становішча. Не ўстанеш і не крыкнеш, што ня мы далі назву, а наш сакратар ЦК Зімянін. Аляксандар Герасімаў, які вёў абмеркаваньне, адазваўся трохі мягчэй, кажучы ,што на Чырвонай плошчы многія пасьлізнуліся, як маладыя мастакі, і гэта нядзіўна. Але вось тое, што яны не ўлічылі пэрспэктыўна, што плошча мае схіл да Масквы-ракі— гэта недаравальна. Толькі нам ўжо было не да схілу, добры настрой зьнік.

Але прыгоды з карцінай на гэтым не скончыліся. Пасьля сьмерці Сталіна, калі Бэрыю абвінавацілі як англійскага шпіёна, яго трэба было зафарбаваць на карціне, што мы і зрабілі вельмі тэрмінова. Аднак продаж статысячнага тыражу рэпрадукцыі з карціны, дзе Бэрыю не зафарбуеш, мусілі забараніць ва ўсіх кнігарнях СССР.

Напярэдадні другой дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве ў1955 годзе я даведаўся, што чатыры маіх карціны «Дапамога партызанам», «Гуляюць дублёры», «Лета», «Партызаны ў разьведцы» ужо адвезены ў Маскву. Затрымалася толькі агульная нашая карціна «Слава вялікаму Сталіну». Перад адʼездам мастакоў у Маскву на дэкаду нас зноў вызваў у ЦК Гарбуноў і прапанаваў, каб мы зрабілі неяк так, каб Сталін апусьціў правую руку, або каб усе члены Палітбюро паднялі рукі. Гарбуноў ведаў, як пастутаць, быў жа час, калі ён прасіў Сталіна зрабіць вышэй, вылучыць ад астатніх. Зараз ён хацеў яго дэмакратызаваць, зраўняць зь іншымі.

Карціну адвезьлі ў Маскву бяз «рамонту», але да апошняга часу не рызыкавалі выстаўляць на паказ масквічам. Неспадзявана зьверху быў атрыманы наказ забараніць яе для паказу. Прычынай забароны стаў ліст Хрушчова да партыі, ў якім ішло выкрыцьцё культу асобы таварыша Сталіна.

Такім чынам, карціна перастала існаваць толькі з прычыны яе няўдалай назвы, навязанай нам Зімяніным і ўсім складам бюро ЦК КПБ. Вось такое кіраўніцтва мы мелі ўсюль: тычылася гэта выяўленчага мастацтва, літаратуры, навукі і тэхнікі ці народнай гаспадаркі. І рабілся ўсё гэта ад імя кіруючай партыі і ўсяго народа. Дзякуючы партыйным асобам, па сутнасьці ўсё даводзілася да абсурду і ўсякіх недарэчнасьцяў, як і атрымалася з нашаю карцінай.

Варта сказаць, што цікавасьць да гэтага твору была паўсюль. Нам прыйшлося зрабіць тры копіі значна меньшага памеру, але ўжо без Бэрыі. Кожны раз, калі мы малявалі зноў, мы цікавіліся, ці ня трэба зафарбаваць каго-небудзь, што стаіць на трыбуне перад маўзалеем.

Зараз на адлегласьці сарака гадоў, што прыйшлі з таго часу, глядзіш на каляровую рэпрадуцыю з карціны «Беларускія фізкультурнікі на парадзе на Чырвонай плошчы ў Маскве» і прыходзіш да высновы, як магло здарыцца так, што жыцьцё нашага народу было цяжкім — у кожнай сямʼі нехта сядзеў ці быў расстраляны, а ў выяўленчым мастацтве, як і ў літаратуры, жыцьцё падавалася ў ружовых фарбах, усюль была суцэльная лакіроўка, а вясёлосьці людзей не было межаў. Усьмешкі, ўхмылкі. Так усьміхалася сыстэма сацыялістычнага рэалізму.

(Працяг у наступным нумары)



# Роднае слова

## Пра адно пашкоджаньне

Масей Сяднёў

Гаворка пойдзе тут пра шкоду, якую спрычыніў беларускай літаратуры гэтак званы мэтад сацыялістычнага рэалізму.

У нашай літаратуры працавала, дый працуе цяпер не так ужо й мала таленавітых аўтараў, з выразным творчым абліччам. Карацей, наша літаратура — не безь яркіх індывідуальнасьцяў. Бяда толькі ў тым, што чым больш была адоранай гэтая індывідуальнасьць, тым было цяжэй ёй ужыцца ў беларускай літаратуры: такі абдораны творца не ўкладваўся ў рамкі соцрэалізму і ўсякая спроба выйсьці за гэтыя рамкі канчалася несамавіта. Такія таленты, не запладніўшы нашу літаратуру сваім адметным словам, зьнікалі зь яе, апыняліся ў засьценках НКВД.

У беларускай літаратуры было ўтульна пасярэднім талентам. Яна расла, ці дакладней, разрасталася іхным коштам. Пасярэдні талент больш паслухмяны, ён лёгка дапасоўваўся да вымогаў соцрэалізму і такім парадкам пасьпяхова «запладняў» нашу літаратуру падробкай пад літаратуру. Яму лёгка было ўваходзіць у яе, у яго была надзвычайная здольнасьць маніпуляваць.

Але ішлі на кампрамісі значныя таленты. Імкнучыся падладзіцца пад вымогі соцрэалізму, яны губілі свой талент, з-пад іхнага пяра выходзілі творы-калекі, у такіх творах мы бачым скажоны вобраз рэчаіснасьці. У іх толькі зрэдку мы назіраем праблескі таленту, у нейкіх там паасобных дэталях. Можна сказаць, уся наша літаратура часоў панаваньня соцрэалізму стаіць пад знакам твораў-калекаў. Іх зьнявечыла соцрэалістычная лакіроўка, у гэтых творах мастацтва перад палітыкай адступала на задні плян. Гэтым талентам не давала свабодна дыхнуць ярмо соцрэалізму. Скінуць яго з сваёй пясьнярскай шыі ў іх не было адвагі й ў выніку— што-б мы ні гаварылі — іхныя таленты зазналі пашкоджаньне.

Нашая літаратура нібы баялася прыходу магутнага таленту, не дапушчала яго, нібы, слабая, баранілася ад яго. Ёй лягчэй было жыць з пакладзістымі талентамі.

Надыйшоў час навукова асэнсаваць пашкоджаньне, спрачыненае нашай літаратуры соцрэалізмам, не баючыся, што аналіз гэтага пашкоджаньня зьбедніць нашую літаратуру. Ад гэтага яна не зьбяднее, наадварот, падвядзе патрэбную рысу пад выдаткамі й адчыніць шлях да якасна новага разьвіцьця нашай нацыянальнай літаратуры.





## Беларусы ў Аргентыне



Кастусь Мерляк

Апынуўшыся на эмігрцы, Кастусь моцна заангажаваўся ў арганізацыі Беларускай калёніі ў Аргентыне і зарыентаваўся, што гэта вельмі цяжка рабіць бязь ніякае жыцьцёва практычнай базы, якая-б прыцягала і трымала разам людзей. Адразу пабачыў, што нават моцная нацыянальная сьведамасьць і патрыятызм ня ёсьць дастаткова моцным цэмэнтам, каб трымаць людзей стала пры арганізацыі, тым больш актыўна працаваць для грамадзтва ў той час, калі асабістыя патрэбы моцна стаяць на перашкодзе.

Аналізуючы арганізацыйнае жыцьцё беларускае міжваеннае эміграцыі, стала відавочна, што ў яе нечага не хапала. Ня мала людзей стварылі шмат арганізацыяў, нават сваю цэнтралю, а посьпехаў і дасягненьяў ніякіх. Пры першым варожым наступе ўсе разьбегаліся бязь ніякага супрацiву. Дык чаму тады калёніі іншых нацыянальнасьцей трымаюцца моцна разам і паступова разьвіваюца, багацеюць матэрыяльна, паралельна як багацеюць іхнія людзі?

Досьледы паказалі, што калёніі другіх нацыянальнасьцей былі арганізаваныя пры цэрквах. Напрыклад, палякі пры каталіцкіх, славакі— пры праваслаўных і каталіцкіх місыях, харваты й летувісы вылучна пры каталіцкіх цэрквах, украінцы пераважна пры грэка-каталіцкіх і таксама пры праваслаўных храмах, а беларусы гэтага ня мелі.

Праваслаўныя беларусы, ня маючы сваей царквы, наведвалі расейскую, а каталікі прымкнуліся да польскай каталіцкай царквы. Належачы да чужых цэркваў, хочаш ты таго або не хочаш, прыходзіцца належыць і да іхніх арганізацыяў.

Пераканаўшыся, што беларуская калёнія доўга не ўтрымаецца бяз свае царквы (пры ходу) Кастусь пачаў прэлімінарную працу ў гэтым кірунку. У пачатку 1949 года прыехалі ў Аргентыну два беларускія праваслаўныя сьвятары: а. Мікалай Макарэвіч і а.Васіль Вячорка. Айцец Васіль зь сям'ею пасяліўся ў горадзе Беразатэгі, якіх 60 км ад Буэнос Айрэс.

Найперш Кастусь пазнаёміўся з а. Мікалаем і пачаў яго нагаварваць, каб зарганізаваць прыход Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Айцец Мікалай, навучэнец духоўнае сэмінарыі ў Парыжы, служыў на Палесьсі ,быў вывезены ў Сібір, адтуль трапіў у Польскі корпус генэрала Андэрса, дзе быў вайсковым капэлянам. Прыехаў у Аргентыну з Англіі з матушкай, дзяцей у іх ня было.

Пэрспэктыва жыць у Аргентыне і пачаць ад нічога арганізоўваць прыход, будаваць царкву ды яшчэ БАПЦ, да якое а.Мікалай ня меў сэрца, яму не імпанавала. Разьведаўшы дакладна сытуацыю ён прыйшоў да высновы, што яму тут сьвятарскай кар'еры няма. Ён сабраўся й вярнуўся назад у Англію, прабыўшы ў Буэнос Айрэс каля году.

(Працяг. Пачатак у № 1(11)

Айцец Васіль жыў пры сваёй сям'і. Ён пачаў арганізоўваць прыход, сабраў некалькі сем'яў беларусаў, казакоў і іншых. Нанялі гараж ды ўсе разам абсталявалі царкву. Пратаярэй Васіль некаторы час не належыў да ніякае юрысдыкцыі. Падчас літургіі ўспамінаў канстантынопальскага патрыярха й сьвятых беларускае зямлі. Да расейскае зарубжнае царквы, пры ўсёй яго прыхільнасьці да расейшчыны, не хацеў належаць, бо меў нейкія засьцярогі да мітрапаліта Панцелеймана, а да Паўночна-Амэрыканскае мітраполіі яго не дапускалі прыхаджане не беларусы. Да БАПЦ яго адгаварваў Пётра Саўчыц, ужываючы ўсякія неверагодныя аргумэнты супраць БАПЦ.

У гэтым часе распачалася карэспандэнцыя між управай ЗБА, япіскапам Васілём (БАПЦ у Нямеччыне) й а. Васілём Вечоркаю. Сябры ЗБА зрэдку наведвалі прыход а. Васіля, але ўправа ЗБА заўсёды запрашала яго на сьвяткаваньні. Адбылося некалькі канфэрэнцыяў, адна зь іх з удзелам а. Барыса Арыйчука УАПЦ, але нічога не памагло. Айцец Васіль не адважыўся парваць з расейшчынай і перайсьці на бок БАПЦ.

Праўда, была зроблена яшчэ адна спроба, каб а.Васіль беспасрэдна пайшоў пад апеку Ўсяленскага патрыярха. Кастусь дабіўся аўдыенцыі ў вікарыя Грэцкай праваслаўнай царквы монсіньёра Фотыёса Пантоса, які абяцаў справу палагодзіць, калі атрымае афіцыяльную заяву ад а. Васіля. Але Васіль Вечорка адказаў, што ніякае заявы пісаць ня будзе. На гэтым справа і скончылася.

Управа ЗБА, каб забясьпечыць духовую апеку для сяброў арганізацыі, зьвярнулася з просьбай да прыходу сьв. Пакровы УАПЦ, каб прынялі іх пад сваю апеку да часу зарганізаваньня свайго прыходу, на што управа прыходу і настаяцель Барыс Арыйчук ахвотна згадзіліся. Управа ЗБА ў чэрвені 1952 года сваім камунікатам аб гэтым паведаміла праваслаўных беларусаў.

Па прыездзе ў Аргентыну, Кастусь таксама адразу стаў цікавіцца старой эміграцыяй, вывучаючы яе сацыяльны склад, нацыянальную сьведамасьць, месца паходжаньня ды сучасныя абставіны, у якіх яны жывуць. Аказалася, што большая частка зь іх былі малазямельныя праваслаўныя людзі, якія выехалі на эміграцыю, шукаючы лепшыя ўмовы жыцьця. Будучы мала сьвядомымі нацыянальна, яны лёгка паддаліся камуністычнай прапагандзе падчас і пасьля вайны. Меншая частка беларускіх эмігрантаў гэтага пэрыяду складалася з каталікоў і была больш нацыянальна сьведамая. Многія зь беларусаў мелі свае прадпрыемствы. Але яны належылі да польскай каталіцкай царквы, а тым самым і да польскіх арганізацыяў. Такім чынам, пасрэдна або беспасрэдна дапамагалі палякам.

Кастусь зразумеў, што толькі з гэтаю групай беларусаў можна гутарыць. Ён са сваімі сябрамі пачалі вышукваць і навязваць знаёмствы. Кастусь пазнаёміўся із сп. Нядзелька, быўшым сакратаром гарадзкога суду ў Наваградку, грамадаўцам, які ў доўгіх гутарках расказваў пра грамадзкае жыцьцё беларусаў пад Польшчай. Сп. Нядзелька моцна зацікавіўся Кастусём, бо той толькі што прыехаў у Аргентыну, а ўжо ведаў мову й працаваў у параплаўнай галандзкай кампаніі. Гэта было нязвычайным здарэньнем сярод беларускае эміграцыі. Нядзелька дапамог пашырыць кола знаёмстваў, пазнаёміў зь сем'ямі: Гайлевіча, Паўлоўскага, Ількевіча, Мешкоўскага, Хроля, Фарына, Станкевіча, Скіпара. Лойкі, Сьвірковіча й іншых.

На прапанову ўсупіць у ЗБА яны адказалі, што яны ўжо даўно зьбіраліся злажыць Беларускі камітэт, залажыць грошы

і купіць адпаведны будынак, дзе-б мясьціўся беларускі культурны цэнтр. «Калі-б тут быў беларускі каталіцкі сьвятар, ды ён быў-бы нам гарантыяй, што ня станецца з намі, так як сталася з Славянскім саюзам. У Аргентыне ўлада часта мяняецца, а гэтым самым і палітычная кан'юктура».

Яшчэ у 1951 годзе Касутсь зьвярнуўся да старшыні рады БНР інжынера М.Абрамчыка аб патрэбе каталіцкага сьвятара беларуса ў Буэнос Айрэс. У гэтай справе пайшлі лісты да пралата Пётра Татарыновіча ў Рым, да а. Льва Гарошкі ў Парыж, да а.Ч. Сіповіча ў Лондан, да яго эксцэленцыі біскупа Б.Слосканса, апостальскага візытатара для беларусаў на чужыне і Б.Рагулі ў Любэне.

Спачатку была зроблена прапанова, каб зьвярнуцца да сьвятароў, якія знаходзяцца ў Аргентыне, а менавіта да а. Альфонса Падзявы (Салезьняніна). Айцец Падзява пражываў у горадзе Мэндоза й працаваў настаўнікам у школе «дон Боско». Таксама да а.Грышанса (Марыяніна), у горадзе Розарыё, які па нацыянальнасьці быў латышом, але добра ведаў беларускую мову. Айцец Падзява на просьбу Управы БНР, адказаў, што згадзіўся-б пераехаць ў Буэнос Айрэс, калі-б яго ўлады на гэта далі дазвол. Управа ЗБА зьвярнулася да генэральнага інспэктара Салезьянаў дона Люіса Ваўлі ў горадзе Кордова з просьбай дазволіць а.Падзяве зьмяніць месца рэлігійнага жыцьця, але ніякга адказу так і не атрымала.

Што тычыцца айца Грышанса, то той на запрос ЗБА адказаў, што яго гэта не цікавіць. Зьвяртаньне да кандыдатаў у Эўропе, а менавіта да а.Маскаліка, а.Салаўя, і а. Чарняўскага, вынікаў таксама не прынесла. Кожны зь іх меў нейкія першкоды, каб выехаць у Аргентыну.

Грамадзкая дзейнасьць Кастуся Мерляка праводзілася ад імя Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне. Аднаго дня атрымаў ён за подпісам старшыні Рады БНР М.Абрамчыка Мандат Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, які сьведчыў, што ён, спадар Мерляк Канстантын, народжаны 25 сьнежня 1919 г. у в.Дзетамля, зьяўляецца сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з дня 5. 8. 1948. З таго часу палітычная дзейнасьць Кастуся ў Аргентыне адбывалася ад імя Сэктару Рады БНР і ад імя Прадстаўніцтва Ураду БНР ў Аргентыне.

З разьвіцьцём беларускага грамадзкага жыцьця ў Аргентыне былі прынятыя ў Раду БНР яшчэ два сябры: Уладзімір Другавец і Мікалай Данкевіч. Такім чынам, у 1949-1954 гадах існаваў Сэктар Рады БНР у Аргентыне, старшынёю якога зьяўляўся К.Мерляк. Дзейнасьць сэктару зьвязвалася зь дзейнасьцю ЗБА і Прадстаўніцтвам Ураду БНР у Аргентыне.

12 студзеня 1949 года Кастусю Мерляку быў выдадзены дакумэнт наступнага зьместу: «Мы, Урад Беларускае Народнае Рэспублікі, гэтым сьведчым, што Спадар Мерляк Канстантын зьяўляецца Прадстаўніком Ураду БНР у Аргентыне.

Усе ўстановый арганізацыі, прыязныя Беларускаму Народу, просяцца мецьь да Спадара Мерляка Канстантына поўны давер і аказваць яму ўсю магчымую дапамогу й падтрымку ў выкананьні ім сваіх абавязкаў.»

Дакумэнт быў важны да 31-га сьнежня 1949 году. І падпісаны Прэм'ер -міністрам Ураду БНР А.Каханоўскім і Дзяржаўным Сакратаром Ураду БНР Г.Паланевічам.



**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА**
**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

М а н д а т .

Гэтым сьветчыцца, што спадар М Е Р Л Я К Канстанцін ,
народжаны 25 сьнежня 1919 г. у в. Д з е т а к л я, зьяўляецца
сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з дня
**5.8.1948.**

Парыж, дня 7.8.1948.



Старшыня Рады Б.Н.Р.

Маючы фармальнае прызначэньне рэпрэзэнтавацьУрад БНР на чужыне ў Аргентыне Кастусь распачаў сваю дыпляматычную дзейнасьць. У лютым і наступных месяцах 1949 года Кастусь асабіста прадставіўся міністру Міраславу Арцішэўскаму, прадстаўніку Польскага ўраду ў Аргентыне. Сп. Арцішэўскі свайго часу быў заступнікам Бэка, міністра вонкавых справаў Польшчы. У прыязнай размове высьветлілася, што ён супрацоўнічаў з урадам БНР у 1918-1920 гадах і паінфармаваны аб стане, у якім знаходзіцца Беларусь. Зьім была абгаворана справа супрацоўніцтва й узаемнай падтрымкі ў змаганьні за вызваленьне абедзьвюх краінаў.

Далей Кастусь прадставіўся прафэсару Аўгену Анацкаму—прадстаўніку УНР ў Аргентыне,сп. Канстантыну Норкусу — рэдактару летувіскай газэты «Балзас» і генэралу Тодару Даўкантас — упаўнаважанаму Летувіскага ўраду ў Аргентыне.

Прадстаўнік ураду БНР наведаў Амэрыканскую амбасаду 16 лютага 1949 года і правёў гутарку з другім сакратаром амбасады Джонам Шылокам. Размова трывала больш за паўгадзіны . Містэр Шылок моцна зацікавіўся беларускай справай і запрапанаваў часьцей спатыкацца дзеля абмены думак у справах супольнага зацікаўленьня.

**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА**
УРАД БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE BIELORUSSIENNE
GOUVERNEMENT DE LA REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE BIELORUSSIENNE

№ [illegible] / [illegible]                Гаспода 12.I.1949

М А Н Д А Т

Мы, Урад Беларускае Народнае Рэспублікі, гэтым сьветчым, што

Спадар М Е Р Л Я К Канстантын

зьяўляецца Прадстаўніком Ураду БНР у Аргентыне.

Усе ўстановы й арганізацыі, прыязныя Беларускаму Народу, просяцца мець да Спадара Мерляка Канстантына поўны давер і аказваць яму ўсю магчымую дапамогу й падтрымку ў выкананьні ім сваіх абавязкаў.

Важны да 31-га сьнежня 1949 году.



Генэральны Сакратар Ураду БНР /Г.Паланевіч/

Прэм'ер-Міністар Ураду БНР /А.Каханоўскі/

У першай палове 1950 года праводзілася справа дапамогі беларускім студэнтам у Лювэне. Др. Б.Рагуля, старшыня Акадэміцкага аб'яднаньня на чужыне і Прэзыдэнт М.Абрамчык навязалі лучнасьць з др. Джорджам Сантынам, старшынёй Інтэрнацыянальнага Саюзу студэнтаў у Бельгіі, які прыабяцаў дастаць ад Аргентынскага ўраду і фундацыі Эвы Пэрон фінансавую дапамогу на 100 стыпэндыяў для беларусаў, што будуць студыяваць у Лювэне.

Кастусю даручылі, каб ён разам з др. Сантынам, калі той вернецца ў Буэнос Айрэс, давялі гэтую справу да канкрэтнага выніку. Было праведзена нямала розных канфэрэнцыяў, напісана нямала мэмарандумаў, усё было ўзгоднена, нават прыезд др. Б.Рагулі ў Буэнос Айрэс, але нажаль, пасьля выезду др. Сантына назад у Лювэн, справа ня была зрэалізаваная.

3-га чэрвеня 1950 года Кастусь наведаў Уругвай з мэтай бліжэйшага азнаямленьня з грамадзкім жыцьцём беларусаў у горадзе Монтэвідэо й яго ваколіцах. Аказалася, што ў Монтэвідэо існавала «Беларускае таварыства імя Маскіма Горкага» з двумя аддзеламі ў недалёкіх гарадох. Гэтае таварыства, як і іншыя арганізацыі, былі апанаваныя савецкімі агентамі й парадак у іх быў такі самы як і ў арганізацыях у Аргентыне да часу іхняе ліквідацыі ў 1949 годзе.

На адным банкеце, ладжаным параплаўнай кампаніяй, у якой працаваў Кастусь, ён запазнаўся і запрыязьніўся з палітычна-культурным аташэ Люісам Морандэ Чылійскае Амбасады ў Буэнос Айрэс. Кастусь праваёў зь ім некалькі спатканьняў і той зацікавіўся беларускай эміграцыяй, нягледзячы на тое, што ў Чылі было ня шмат беларусаў. Сэньёр Морандэ прыабяцаў паспрабаваць дастаць некалькі стыпэндыяў для студэнтаў і даць дапамогу на культурную дзейнасьць ЗБА. Але ён паехаў у Чылі, так і не выканаўшы свае абяцаньні.

У студзені 1951 года Кастусь атрымаў паведамленьне з канцылярыі Ураду БНР, што сп. Пётр Манькоўскі пераняў ад сп. М.Тулейкі абавязкі Дзяржаўнага сакратара. Ад гэтага часу ўся карэспандэнцыя павінна была накіроўвацца на паданы адрас у Нью Ёрк. (Да гэтага часу ўсе справы накіроўваліся ў Нямеччыну або непасрэдна Прэзыдэнту ў Парыж).

Падчас вакацыяў у ліпені 1951 года наведаў Буэнос Айрэс і беларускую калёнію Уладзімір Клімовіч, які быў па прафэсіі мярнічы і свайго часу прыехаў сюды з Англіі разам з Г.Юузэфовічам. У. Клімовіч дастаў працу ў Міністэрстве землеробства й быў высланы працаваць мярнічым у правінцыю Сантьяго дэль Эстэро, якая мяжавала з Чылі. У.Клімовіч быў прадстаўніком Беларускага студэнцкага фонду на Аргентыну. Падчас спатканьня з Кастусём былі абгавораны справы студэнцкага фонду й зроблена прапанова вярнуць У. Клімовіча ў Буэнос Айрэс, дзе была патрэба ў людзях, здольных працаваць на грамадзкай ніве. Кастусь запэўніў яго, што пры дапамозе знаёмага З.Кастэльлё, афіцыйнага архітэктара сталіцы Буэнос Айрэс, той атрымае пасаду мярнічага бяз ніякіх клопатаў. Клімовіч адказаў, што ён не пераедзе па прычынах прыватанга характару, а таксама, што грамадзкая праца яго ня цікавіць.

31 ліпеня 1951 года Кастусь наведаў Міністэрства ўнутраных справаў Аргентыны ў справе, каб дэлегацыя Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне была прынятая Прэзыдэнтам рэспублікі Генралам Хуан Д. Пэрон. На ўдыенцыі запэўнілі, што дэлегацыя будзе прынятая, калі управа ЗБА зложыць заяву на рукі праватнага сакратара Прэзыдэнта ў Каза Розада.

У кастрычніку гэтага году ад Старшыні рады БНР М .Абрамчыка быў атрыманы ліст з прапановамі стварэньня «Союза освобождения народов Росии» (СОНР). Патрабавалася, каб ў Аргентыне разглядзелі прапановы СОНР і выказалі свой пагляд, які будзе прадстаўлены на 6-й Сэсыі Рады БНР, што мела адбыцца ў сьнежні 1951 году. Кастусь з двумя сябрамі рады БНР і некалькімі асобамі Бэнээраўцамі справу разгледзелі і ў выказаліся, што прапановы і прынцыпы дзеяньня гэтага «Саюзу» зьяўляюцца не дэмакратычнымі й поўнасьцю супярэчаць ідэі й волі народу, выказанай Актам 25 Сакавіка.

(Працяг у наступным нумары)



# Лісты і вершы Ўладзіміра Караткевіча



Уладзімір Караткевіч. Мастак Сямён Герус

30.X.55 г.

Здорово чортушка!

Ты-таки вспомнил або мне, а уж я думал, что наш будущий главный инженер в работе на блого Родины и думать забыл або учительшке, который сидит где-то в дыре и думает о мировых проблемах. Ну ладно, забудем прошлое, уставим общий лад и извини меня за то дурацкое письмо в заранее заготовленном конверте. За эту открытку, просто занят так, что носа ўцерці няма калі. Я пока ещё в Лесовичах на трижды надоевшей работе, так что ежели не разобиделся на меня (помнишь Ек.Ив?) то пиши сюда. Правда, меня думают перетащить в Минск, но когда это будет — неизвестно, а если и скоро, так письмо перешлют за мною. Я, кажеся, обмолвился тебе, что был в Минске на совещании молодых, видел много интересного, говорил со многими интересными людьми, читал некоторые стихи и читал, не хвастаясь с большим усьпехом «Оршу». Я переработал и её взяли в «Полымя», просили слать ещё. А по-русски писать решил бросить. Это не нужно. Нужно было среди людей, кот. по бел. не понимают, а теперь ведь есть другие, и есть, прямо говаря, твёрдая цель. Хвалили за отсутствие декларативности, так что снижение брака—по боку. За «Еврейку» не стоит благодарности. Сам понимаешь, это чтоб спастись от стыда и снять с себя часть вины. При встрече поговорим... «Таполя» марнеет, что-то работа почти приостановилась из-за отсутствия материала. Не в таких условиях надо это делать. Кроме того, хочу по этому поводу поговорить с М.Танком, твёрдо надеясь на его вкус и его точку зрения. Нового у меня несколько стихов, под разными «завлекательными» заглавиями, вроде: «Заяц варыць піва», «Над сінім Дунаем», «Асеннія песні», «Месца спаткання», Энтузісту», «Апавяднне а мараллю». «Шыпшына», «Кастальская крыніца» і невелічкая паэмка «Зямля дзядоў», якую я вот-вот окончу и очень тороплюсь всё это отделать, подработать и послать в Минск. Поэтому извини, что ничего не посылаю, сижу с утра и до поздней ночи, выкуриваю неимоверное количество папирос и только потому могу этим заниматься, что заранее подготовился к урокам вплоть до ...14 ноября. Можешь понять. Клятвенно обещаю, что по окончании закочу письмище со вложением. Рад что у тебя всё хорошо. А я наверное в аспиратуру не попаду и в этом году, да это и не важно. теперь. Крепко жмем руки.

Заўсёды твой Ўладзімір.



Працяг. Пачатак у 9, 10, 1(11)

10.III.-56 г.

Здравствуй Лявон!

...Если б ты знал насколько я рад тому известию, когорое от тебя получил. Итак, старый и вечно молодой Эрос з завязанными глазаму наконец-то попал тебе прямо в сердце, чего и следовало ожидать.

У меня всё в норме. Жив, здоров, отчаянно скучаю, хотя детвора меня вроде как на руках носит и ...не имею вовсе времени писать.

В Мосве на совещании не был —рылом не вышел, а там были люди уже имеющие книгу.





Хлапчына нейкі круглалікі
Увесь кучравы як баран,
І за плячыма ў яго велікі
Падвешан лук быў і калчан

(„Тарас на Парнасе" [illegible] [illegible] не забыл)

Сие - сердце по новым анатомическим данным.

Желаю вам всяческих благ,.. счастья, всяческих успехов, всего-всего- всего.

Желаю мира в семействе и везде, хороших детей, внуков и правнуков и ...право даже не знаю что еще пожелать. Вобщем, ты сам превосходно знаешь моё расположение к тебе и сделаешь отсюда соответственные выводы...

Пиши, когда будешь знать точно, когда именно будешь в Киеве, а я непременно постараюсь выбраться. Мне бы тоже здорово хотелось с тобою поговорить. Нового у меня почти ничего нет, да и то дрянь. Разве что вот это.



# Казка

Спіць зямля пад снежнай пярынай,
Недзе лёд пад капытам звініць.
Бы ў падушках з пяра лебядзінага
Дрэмлюць вёсак скупыя агні.
Лес вакол, сасна бураломная
І ваўчыны далёкі хор.
Ад пакрытага снегам коміна
Дым плыве да спакойных зор.
Рушы белыя на вербалозах,
Ціха крочыць па снегу сон,
У начы светлыя дзікія козачкі
Падыходзяць да самых акон.



Ці бягуць ваўчынага гневу?
Ці стаяць проста так у журбе?
Або можа лясной каралевай
Запрашаюць у гушчу цябе.



Пойдзем разам за імі, каханая.
Там, дзе месяц сіні гарыць,
У барах, на блакітных палянах
Нас з табою атачаць звяры.
Ты такая прыгожая і мілая,
Што ў прыпадку прыкрасці злой
Дасць бабёрка дачцы ў пасылку:
„Бач, карова, вучыся ў той"
[illegible] шмат недарагоўскай,
Кампліменты сыпнуць як гарох,
А мядзведзь са шляхетнаю гжэчнасцю
Упадзе да дзявочых ног.



Спіць зямля пад снежнай пярынай,
Недзе лёд пад капытам звініць.
Бы ў падушках з пяра лебядзінага
Дрэмлюць вёсак скупыя агні

# Лісты з Бацькаўшчыны

## Навіны Берасьцейшчыны

 Ігар Бараноўскі 

У Сваятыцкім касьцёле, што ў Ляхавіцкім раёне, зноў пачаліся весьціся богаслужэньні. Раней у храме быў склад-вораха-пункт. Вернікі змаглі за год адрамантаваць касьцёл, мясцовыя ўлады дапамглі будаўнічымі матэрыяламі. Намаганьнямі актывістаў ўдалося знайсьці некаторае абсталяваньне й інвэнтар, што раней належылі касьцёлу. Напрыклад, звон быў знойдзены аж ў Баранавіцкім раёне ў в.Новая Мыш. Зараз ён зноў вернуты на сваё мейца.

У лютым гэтага году на Лунінецкай аўтастанцыі пачалі рабіць абʼявы выключна па-беларуску. Дыспэтчар аўтастанцыі Надзея Велясюк 11 гадоў ужо тут працуе, а вось загаварыць у мікрафон па-беларуску ёй давялося ўпершыню.На новаўвядзеньне яна адрэагавала проста: «Так і павінна быць. Гэта-ж наша родная мова!»

16 лютага ў Століне група народных дэпутатаў розных узроўняў правяла мітынг-сустрэчу з выбаршчыкамі на цэнтральнай плошчы горада. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю з патрабаваньнем адстаўкі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь й мясцовых уладаў.

Апошнюю сэсію Пінскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў намесьнік старшыні гарсавету Пятро Цішук вёў па-беларуску. Кажуць, атрымоўвалася гэта ў яго лепш, чым па-расейску.

Як паведаміла баранавіцкая газэта «Наш край», у Баранавічах зьявіўся першы незалежны прафсаюз авіяработнікаў, які ўжо рыхтуе дакумэнт да рэгістрацыі. Яго лідэрам стаў інжынер-тэхнёляг сп.Родзін. У незалежны прафсаюз ўвайшло ўжо 250 работнікаў авіярамонтнага заводу, якія пакінулі афіцыйны прафсаюз у сувязі з незадаволенасьцю дзеяньнямі апошняга.

4 сакавіка, на Папялец, у берасьцейскім касцьёле сьвятога Крыжа-ўзьвіжаньня кс. Зьбігнеў Кароляк вёў богаслужэньне па-беларуску. Пакуль што гэта адбываецца толькі ў час вялікіх сьвятаў. Але іншыя канфэсіі ў горадзе не спяшаюцца і гэта рабіць. Наступная служба па-беларуску адбудзецца на другі дзень Вялікадня.

Па старой беларускай традыцыі ля кожнае вёскі жыхары ставілі драўляны крыж. У 60-я гады большасьць зь іх была зьнішчаная па загаду бальшавіцкае партыі ваяўнічых бязбожнікаў. Час зьмяніўся, усё паступова становіцца на свае месцы. Але-ж ня ўсім гэта да спадобы. У пасёлку Жамчужны, што ў Баранавіцкім раёне, ня так даўно жыхары з згоды мясцовае ўлады ўстанавілі крыж. Але знайшоўся нейкі бязбожнік, які сьпілаваў яго. Ці не прыхільнікі адроджанае зноў Партыі камуністаў Беларусі зрабілі гэтае злачынства?

У Пінску пачала зноў дзейнінаць, праўда, у трохі іншым выглядзе, царква Сьв.Стэфана. Асьвяціў яе мітрапаліт Філарэт. На асьвячэньні храма прысутнічалі і кіраўнікі горада: старшныя гарсавету з намесьнікамі.

## Перавыбарчы царкоўны сход

адбыўся ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе 27 лютага. Як і заўсёды, ён прайшоў у гарачых дыскусіях. У сваім справаздачным дакладзе старшыня царкоўнага камітэту Сяргей Карніловіч падкрэсліў, што царква ўтрымоўвае сям'ю маленькага Рамана Дзільдзіна, які бясплатна лечыцца ў Кліўлендзкай клініцы. Царкоўны камітэт пералічыў грошы для выдавецкай дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, таксама на выданьне часопіса «Полацак». Разам з жаночым камітэтам былі ахвяраваны БНФ грошы на закупку будынку для офісу.

Пасьля бурнага абмеркаваньня дакладу старшыні і рэвізыйнай камісіі адбыліся выбары ў царкоўны камітэт. Ён амаль не зьмяніўся. Зь мінулагодняга камітэту у новы увайшлі: Сяргей Карніловіч —старшыня, Вольга Дубаневіч, — сакратар, сябры— Віктар Страпко, Лёля Міхальчык, Валянтына Ягаўдзік, Астап Яраховіч, Адам Пракаповіч. Ад моладзі ў царкоўны камітэт увайшлі Пётр Васілеўскі— заступнік старшыні і Язэп Радзюк- сябра.

## За беларускі і сэрбскі народ

за дабрабыт і моц Беларускай і Сэрбскай дзяржаваў, незалежнасьць і свабоду гэтых двух краінаў горача маліўся а. Аляксандр Раданковіч і ўсе прысутныя на нядзельнай сьв.Літургіі. Служба адбылася 16 лютага ў царкве вялікамучаніка сьв. Юрыя, у г.Неапаль, Флярыда.

## Аб Беласточчыне і Вільні,

аб сытуацыі беларусаў на гэтых карэнных беларускіх землях расказалі Ян Максімюк і Сяргей Шупа на сустрэчы з кліўлендцамі. Адбылося гэтае спатканьне з прыхажанамі царквы Жыровіцкае Божае Маці 14 сакавіка.

Ян Максімюк, журналіст «Нівы» прыехаў у ЗША з Беластоку каля 6 месяцаў назад па запрашэньню Камітэту Гімназіі імя Янкі Купалы. Яму прызначана стыпэндыя з фонду І. Любачкі. Камітэт запрасіў Яна Максімюка для напісаньня манаграфіі па гісторыі Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, якая была заснаваная 22 сьнежня 1945 году ў Рэгэнсбургу, у Нямеччыне. Гімназія існавала на чужыне ўсяго пяць гадоў, але яна адыграла значную ролю ў выхаваньні беларускае нацыянальнае моладзі. За час існаваньня Гімназіі, поўны афіцыяльны назоў якой быў Першая Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Баварыі, 44 яе навучэнцаў атрымалі пасьведчаньні сталасьці. Пераважная большасьць выхаванцаў гімназіі пасьля заканчэньня навукі скарыстала права гімназіі

на паступленьне ў вышэйшыя навуковыя ўстановы й атрымала вышэйшую адукацыю. Усе, хто скончыў гімназію, сёньня прымаюць актыўны ўдзел у жыцьці беларускай эміграцыі.

На жаль, многіх зь іх ужо няма разам з намі. Таму перад Янам Максімюком паўстала задача: сабраць як мага болей зьвестак аб жыцьці гімназістаў, запісаць іх успаміны. З гэтай мэтай ён і прыехаў у Кліўленд, дзе меў інтэрв'ю з сп-яй Інай Каханоўскай, выкладчыцай гімназіі, а таксама з былымі гімназістамі Сяргеем Карніловічам, Кастусём Калошам, Янкам Раковічам. Як сказаў Ян Максімюк, стыпэндыст фонду І. Любачкі, у асноўным, матэрыялы кнігі падрыхтаваныя для друку. Манаграфія будзе выдавацца ў Польшчы за сродкі фонду Любачкі і выйдзе у сьвет да ХХ-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыцы, якая адбудзецца 5,6,7 верасьня сёлета.

Сяргей Шупа прыехаў зь Вільні на запрашэньне старшыні Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва — Вітаўта Кіпеля. Ведама, што В.Кіпель доўгія гады зьбіраў інфармацыю аб беларускай эміграцыі ў ЗША. Зараз ён вырашыў апрацаваць гэтыя зьвесткі і выдаць Гісторыю беларускай эміграцыі у двух мовах —беларускай і ангельскай. Паколькі С.Шупа скончыў інстытут замежных моваў, спэцыялізаваўся ў вывучэньні ангельскае мовы, яго запрасілі ў мінулым годзе, каб апрацаваць сабраныя матэрыялы. Працы з напісаньнем гэтай кнігі яшчэ багата, таму Сяргей Шупа ня змог сказаць нічога канкрэтнага, калі-ж мы пабачым гэтую патрэбную кнігу.



# Сустрэча міністра замежных справаў і актыву беларускай эміграцыі

адбылася 21 сакавіка ў фундацыі імя П.Крэчэўскага. У невялікім пакоі фундацыі з розных раёнаў Нью-Ёрку, Гайленд Парку, Саўт Рывэру, Глен Коў, Кліўленду, Балтымору, Дэтройту сабралося больш за 60 асобаў. (Толькі з Кліўленду прыехалі 8 чалавек: Сьвятлана Белая, Міхась Белямук, Ірына Каляда, Сяргей і Слава Карніловічы, Янка Раковіч, Аўген Кабяка, Янка Ханенка.) На сустрэчу зь беларускімі актывістамі замежжа прыйшлі таксама амбасадар Генадзь Бураўкін з жонкай Юляй і дачкой Сьвятланай, генэральны консуль Уладзімір Сакалоўскі з жонка Эмай, прадстаўнікі амбасады і консулята Уладзімір Герасімовіч, Генадзь Бабарыка, Юрый Ягораў, Міхась Хвастоў, прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук акадэмік Уладзімір Платонаў, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Уладзімір Заблоцкі й інш.

Пасьля прывітаньня сабраўшыхся старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойц перадаў слова міністру замежных справаў Рэспублікі Беларусь. Пётр Краўчанка пазнаёміў прысутных з палітычнай сытуацыяй Рэспублікі Беларусь і падзяліўся пэрспэктывамі стварэньня Беларускай дзяржавы.

— Палітычна, —сказаў Пётр Краўчанка, —Беларусь незалежная дзяржава. Мы змаглі атрымаць незалежнасьць, дзякуючы пэўным гістарычным абставінам. Да 19 сакавіка Рэспубліку Беларусь прызналі 72 дзяржавы сьвету. Паміж гэтымі дзяржавамі зь Фінляндыяй, Турцыяй, Нямеччынай ды іншымі краінамі падпісаны дагаворы аб аднаўленьні

прызнаньня нашае незалежнасьці. Гэта вельмі важна, бо Акт 25 сакавіка аднаўлены дыпляматычна і замацаваны юрыдычна. Аднак, эканамічна Беларусь залежная ад краінаў Садружнасьці.

У мінулыя гады мы атрымоўвалі 40 мільёнаў бочак паліва для пераапрацоўкі. 25 мільёнаў ішло на выкарыстаньне, а рэшту экспартавалі. У гэтым годзе пастаўка на 30% скарацілася. Мы-ж сваіх залежаў ня маем. Беларуская электронная прамысловасьць патрабуе 30 000 кілаграмаў плятыны, золата, срэбра. У гэтым годзе мы гэтых мэталаў не атрымалі, і нашая прамысловасьць знаходзіцца ў крызыснай сытуацыі. Наогул, калі параўнаць Беларусь і Украіну, то Беларусь у 8 разоў больш залежная, як Украіна. Дзеля гэтага палітыка Беларусі ня можа быць падобнай да палітыкі Украіны. Мы павінны трымацца нейкай сярэдняй лініі.

Беларусь, бяручы на ўлік колькасьць войска, ёсьць вельмі змілітарызаваная краіна. Выдаткі на ўтрыманьне гэтага войска раўняюцца амаль палове дзяржаўнага бюджэту Беларусі. Нам такая армія непатрэбная, хопіць 50 000—70 000 вайскоўцаў, але прэзыдэнт Ельцын, ведаючы, што Беларусь эканамічна залежная не хоча пагадзіцца на дэмабілізацыю. Яго падтрымоўваюць рэспублікі, бо маюць праблемы з памешканьнем і працай.

Наступная праблема, якая дасталася нам у спадчыну — даўгі былога СССР. Беларусь уносіла шостую частку ва Ўсесаюзны бюджэт СССР. Зараз ўсю былую маёмасьць СССР забрала Расея, і ня зычыць паступіцца адной шостай. Калі ў самы бліжэйшы час перадачы маёмасьці не адбудзецца, мы змушаны гэтую справу перадаць у міжнародны суд у Гагу.

Пётр Краўчанка падкрэсьліў, што Беларусі няма патрэбы шукаць Эўропы, бо яна была і ёсьць ў Эўроопе, у Цэнтральнай Эўропе. Дзеля гэтага палітычны лад і эканоміка Беларусі павінны быць эўрапейскія. Паколькі некалькі стагодзьдзяў Беларусь была адсэпэраваная дык патрэбны час, каб палітычна й эканамічна Беларусь заняла пачэсны пасад сярод эўрапэйскіх дзяржаваў. Гэта будзе мажлівым у наступным тысячагодзьдзі. Беларусь ужо склала просьбу аб прыняцьці яе ў міжнародныя фінансавыя інстытуцыі. Каб даць мажлівасьць пасьпяхова беларускай эканоміцы разьвівацца патрэбная самастойная банкаўская сыстэма і свае ўласныя грошы, цану якім вызначыць міжнародная біржа. Беларусь перажывае крызысны пэрыяд, але трэба верыць, што цяжкасьці пераадолім. 14 сакавіка створаны Антыкрызысны камітэт. Яго стварэньне сьведчыць, што паміж левымі і правымі наступіла згода, бо паўстала патрэба ратаваць Бацькаўшчыну.

Пасьля дакладу міністр замежных справаў адказаў на шматлікія пытаньні, якія сьведчылі, што прыстуныя ўспрынялі даклад Пятра Краўчанкі сардэчна, паверылі ягонай шчырасьці, рахманасьці, адданасьці ідэі незалежнасьці Беларусі. Трохгадзінная размова перапынілася толькі на час, калі міністр замежных справаў перадаў беларускім асяродкам і арганізацыям, нацыянальныя вырабы беларускіх майстроў: тканыя габэлены, дэкаратыўныя талеркі, плякаты з выявамі, роднымі для сэрца кожнага беларуса. Пасьля гэтага размова пачалася зноў. Яна скончылася а поўначы.



# Сакавіковыя матывы

## Саўт Рывэр



Колькі вёснаў на ростань ліствой нам махалі?
Дзесьці зорка, жаданая, блудзіць ў далі,
Пяцьдзесяты ,сьцягі ўвысь ўзьняў Сакавік,
Над Гудзонам кагаркі распачлівы крык
«квік...квік... квік...»
Бы ў адказ ёй, ці нам віншаваньне са сьвятам—
Разарвецца ў джунглях «марына» граната;
Зашуміць на падмостках Нью Ёрку «Каліна»:
«О, Беларусь, мая шыпшына»...
У Сыднэі, Таронто, Рыо Дэ-Жанэйра
Чаркі падымуць былыя жаенеры...
Бы малітву, паўтораць паэт зь не паэтам:
«Люблю наш край, старонку гэту...»
Сотні тысяч вачэй уваП' юцца ў высі:
Можа там бел-чырвоная зоранька блісьне?»
Пяцьдзесяты ,сьцягі ў высь узьняў Сакавік.
Над Гудзонам кагаркі: «квік... квік... квік...».



Гэты верш паэт Міхась Кавыль напісаў 14 гадоў назад з нагоды 50-й гадавіны Акту 25 Сакавіка.` Сёлятнюю, 74 гадавіну беларусы Саўт Рывэру сьвяткавалі як і заўсёды ўрачыста. Ужо ўвашло ў традыцыю, што напярэдадні сьвяткаваньня мэр гораду запрашае прадстаўнікоў беларускай калёніі ў Саўт Рывэру да сябе. У гэтым годзе прыняцьцё адбылося 21 сакавіка ў ратушы. Пасьля прывітаньня мэра гораду на флагшток паднялі беларускі сьцяг. Пазьней адбыўся пачастунак.

У нядзелю, 22 сакавіка, у царкве сьв Еўфрасіньні Полацкае протапрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш з а.Мечыславам Брынкевічам пасьля сьв.Літургіі адслужылі малебен. Янка Золак, Уладзімір Сітнік і Мікола Манцівода ўнесьлі беларускі сьцяг. Айцы Сьвятаслаў і Мечыслаў прывіталі зь сьвятам і сказалі прыгожую казань. А 3-й гадзіне пачалася сьвяточная акадэмія, якую адчыніў і вёў Міхась Бахар. Рэфэрат прачытаў Расьціслаў Завістовіч. Былі зачытаныя прывітальныя тэлеграмы ад губэрнатара і мэра гораду, а таксама прывітаньні зь беларускіх арганізацыяў ЗША, Канады, Англіі, Аўстраліі, Нямеччыны.

У мастацкай часцы прынялі ўдзел кампазытар Аўген Магаліф з сваёй 8-гадовай дачушкай Кацяй, якая грала на фартэп'яна і сьпявала. Янка Золак і Віла Саўчанка дэклямавалі свае вершы. Кампазытар Пётра Нядзьвецкі пад гітару прасьпяваў песьні. Ян Альхоўскі выканаў на акардыёне папуры на тэму беларускіх мэлёдыяў. Вядомы саўтрывэрскі хор «Каліна» прасьпяваў беларускі і амэрыканскі гімны.



## Кліўленд

Урачыстая акадэмія, прысьвечаная,74 угодкам Вялікага Сакавіка адбылася на «Полацку» 29 сакавіка. Сьв. Літургію і малебен адслужыў а. Якуб. Пасьля службы ўсе прайшлі ў сьвяточна афармленую залю, дзе чакаў абед, прыгатаваны Лідзіяй Лазар-Ханенка,Крысьцінай Каваленкай, Марусяй Альдрэтэ й інш.

У малой залі экспанавалася выстаўка майстроў беларускай графікі, фатаграфіі і плякатаў «Змагары беларускага Адраджэньня», якую падрыхтавала Сьвятлана Белая.

Акадэмію адкрыў старшыня кліўлендзкай БАЗА Янка Ханенка. Ён прывітаў гасьцей, якія прыйшлі, каб разам адзначыць з кліўлендцамі гэтую падзею: Прэзыдэнта Рады БНР др. Язэпа Сажыча, прадстаўніка кабінэту губэрнатара шт.Агаё August B.Pust, Special Assistant for Multicultural Affairs office of the Covernor G.Voinovich, прадстаўнікоў амэрыканска-польскага асяродку Mrs. and Mr. Push, Arthur Push.

Вялі акадэмію Янка Ханенка і Лідзія Лазар—Ханенка. Вядучы зачытаў сьпіс арганізацыяў, якія даслалі віншаваньні і праклямацыі з нагоды 25 Сакавіка. Кліўлендцы атрымалі тэлеграмы ад Галоўнай Управы БАЗА, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, аддзелаў БАЗА ў Каліфорніі, ў Нью Ёрку. Прэзыдэнт Рады БНР др. Я.Сажыч асабіста прывітаў прысутных. З рэфэратам выступіў Міхась Белямук. Прадстаўнік кабінэту губэрнатара шт.Агаё August B.Pust, Special Assistant for Multicultural Affairs office of the Covernor G.Voinovich перадаў Янку Ханенку праклямацыю ад губэрнатара Джорджа Вайновіча, у якой гаварыцца, што дзень 25 сакавіка аб'яўлены ў штаце Агаё нацыянальным днём Беларусі. Пасьля слова ўзяў а. Міхась Страпко.

—Сьв. царква, — адзначыў ён, праслаўляе сваіх выдатных сьвятых айцоў, бо яны несьлі і нясуць у народ сьвятло Хрыстовай навукі. Беларускі народ мае сваіх айцоў і верных сыноў, што паднялі высока сьветач 25 сакавіка, на якім запалілі незгасальнае сьвятло незалежнасьці Беларусі. Мы часта чуем ў Евангельскім чытаньні аб наймітах. Каб ня стаць імі, перш за ўсё трэба моцна любіць свой народ, матчыну мову й сваю культуру. Служба Бацькаўшчыне, служба Богу, часта вымагае шмат сілаў і ахвяраў, Няхай-жа Сьветач 25 сакавіка, асьвятляе наш жыцьцёвы шлях. Няхай моцным агнем гарыць у сэрцах беларусаў любоў да свайго народу, да роднай Беларусі.

Мастацкая частка акадэміі была вельмі цікавай і сьвяточнай. У першай яе частцы выступіў кліўлендзкі хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Кастуся Калошы. Пад акампанімэнт Вольгі Дубаневіч былі выкананыя песьні «Родны край», «Родная мова», «Поле», «За ракой за рэчкаю». Вольга Лукашэвіч і Люба Блізьнюк разам прасьпявалі песьню «Палескія прасторы», якую прысьвяцілі ўсім жанчынам Палесься. Потым Люба Блізьнюк выканала жартоўную народную песьню «Дзед і бабка».



У другой частцы праграмы выступілі вядомыя і папулярныя, як на Бацькаўшчыне так і эміграцыі, Валянтына Пархоменка і Алесь Казак. Як і заўсёды яны зь вялікім посьпехам выканалі вянок беларускіх народных песьняў. Ускалыхнула душу песьня «Чарнобыль», словы якой напісаў 21-гадовы ліквідатар аварыі на Чарнобыльскай АЭС Алесь Гнілякоў (Музыка А. Мацюха, пераклад з расейскай мовы Р.Завістовіча). Лёс гэта маладога чалавека, як і многіх беларусаў, вельмі трагічны. Сёньня яны хварэюць на малакроўе, рак шчытавіднай залозы. Што будзе далей, як пяецца ў песьні, ведае толькі Гасподзь. Зварот да заступніцы беларускага народу Жыровіцкае Божае Маці прагучаў у песьні на словы Барыса Данілюка «Пачуй, о ласкавая маці». Закончылася сьвяткаваньне агульным сьпевам нацыянальнага гімну. Але кліўлендцы не разыходзіліся. Разам з Валянтынай Пархоменка й Алесям Казаком, у цесным сяборўскім коле яны сьпявалі разам яшчэ не адну гадзіну.

Застаецца дадаць, што на сьвяткаваньні было шмат гасьцей ня толькі з Дэтройту, Беластоку, але і зь Менску. Павіншаваць беларусаў таксама прыйшлі суседзі ўкраінцы, палякі, расейцы.



## Чыкага

У царкоўнай залі сьв. Юрыя 29 сакавіка адбылася акадэмія, прысьвечаная абвяшчэньню незалежнасьці Беларусі. Пасьля сьв.Літургіі, малебну, якія адслужыў а. Міраслаў Кулік, адбыўся абед, падрыхтаваны сястрыцтвам. Пасьля яго старшыня Нацыянальнае Рады Міхась Каленік прывітаў прысутных з 74 гадавінай Акту 25 Сакавіка. С.Морг, які нядаўна прыехаў зь Беларусі ў Чыкага, прачытаў рэфэрат. У ім дакладчык даў аналіз падзеяў у Беларусі з 1918 па 1991 год і коратка ахарактэрызаваў падзеі апошніх часоў.

У мастацкай частцы выступілі Мікалай Латушкін і Міхась Каленік. Яны выканалі песьню «Як шырока і далёка». Іна і Юры Пячоркі, у мінулым навучэнцы Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі, якія прыехалі зь Менску, пад акампанімэнт фартэп'яна на высокім прафэсыйным узроўні прасьпявалі некалькі народных песьняў.

На акадэмію сабраліся госьці беларускага паходжаньня з Геры, Ракфарду, штату Вісконсын. Атрыманы шматлікія прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў ЗША, Канады, Аўстраліі. Усім гасьцям і старшыням арганізацыяў, што прыслалі прывітаньні, Нацыянальная Беларуская Рада Чыкага шчыра дзякуе.



## Падзяка

Валянтына Пархоменка і Алесь Казак папрасілі праз часопіс «Полацак» выказаць сваю падзяку Кліўлендзкаму аддзелу БАЗА за запрошаньне на сьвяткаваньне 25 Сакавіка , а таксама ўсім кліўлендцам за цёплы, сардэчны прыём і падтрымку.

Асаблівую падзяку Валянтына Пархоменка і Алесь Казак складаюць старшыні Кліўлендзкага аддзелу БАЗА Янку Ханенку, Кліўлендскаму жаночаму камітэту й асабіста Валі Яцэвіч і Тацьцяне Кананчук, якія ахвяравалі з фонду жаночага камітэту 500 даляраў на набыцьцё музычнага інстумэнта.



БЕЛАРУСКАЯ МОВА:
ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ



Б. ТАРАШКЕВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

## ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ПЯТАЕ ПЕРАРОБЛЕНАЕ І ПАШЫРАНАЕ.

ВІЛЬНЯ 1929 г
Выданьне В. ТАРАШКЕВІЧ

Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны Людвісарская 1



Б. ТАРАШКЕВІЧ

БЕЛАРУСКАЯ МОВА: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

